настаўніц. Байка гэта ці не байка, але, калі я выпіваў з Ірынай Глазавай, мне хацелася стаць падобным да магутнацелага Машкова.

## *ЧАЦВЁРТЫ КУРС*

### Малішэўскі і рама

У час майго наведвання мастацкага вучылішча ніякіх багетных майстэрняў у Мінску не было. Зрабіць добрую раму і зараз цяжка, а тады пагатоў. Мастакі і студэнты саматугам абабівалі палотны простымі рэйкамі. Выраз Альгерда Малішэўскага «Рама — гэта драма!» меў папулярнасць. «Рама павінна высякаць палатно з асяроддзя. Яна мусіць гарманічна аздабляць жывапіс, але рама не мае права станавіцца часткай карціны. Рама засцерагае жывапіс ад пашкоджанняў. Рама — пажаданы элемент у час экспанавання карціны», — так Малішэўскі казаў вучням. Мы слухалі, абабівалі палотны свежанапіленымі рэйкамі, а потым «старылі» іх чорнай тушшу, якую моцна разводзілі звычайнай вадой. У рэек, пафарбаваных рэдзенькай тушшу, быў прыемна-срэбны колер старога вымытага дажджамі і высушанага ветрам каштоўнага дрэва.

### Люська і гвалт

Люська была маленькая і страшна непрыгожая. Вочкі-пацеркі, як у якой пацучыхі. Ножкі танклявыя, бяскроўныя і крывыя. Нос — птушыная вечнаружовая дзюбка. Грудзей у Люські зусім не было. Ручкі заўжды дыхалі холадам,

нібыта яна іх доўга пратрымала ў ледзяной вадзе. У мастацкім вучылішчы Люську ніхто не хацеў. Яе не жадалі, а яна прагла кахання, пацалункаў і любошчаў. Яна так хацела сексіцца, што ў свае васямнаццаць знайшла саракавасьмігадовага дзядзьку і падаравала яму цноту. Дзядзька моцна напіўся і нарабіў шкоды. Папарваў Люсьцы похву. Давялося ёй выклікаць хуткую і ехаць у бальніцу. Давялося яшчэ тыдзень у ложку праляжаць. Дзеўкі з вучылішча падбівалі Люську, каб напісала ў мянтоўку пра згвалтаванне. Не напісала. Пры ўсёй вырадлівасці Люська была добрым чалавекам, добрым і праўдзівым па-сапраўднаму.

## Заўялаў і пліты

Ёсць падзеі, што ўзрушваюць спакойнае жыццё вучылішча, — выставы, конкурсы, канцэрты і спектаклі; а ёсць такія, што запамінаюцца на ўсё жыццё сваёй аглушальнай адмоўнасцю... У калідоры насупраць буфета загінуў першакурснік Валодзя Заўялаў. Заўгас, ён жа і загадчык сталярнай майстэрні, загадаў першакурснікам насіць пліты, зробленыя з прасаваных габлюшак. Пліты не так каб і цяжкія, але памерам вялікія — два на чатыры метры. Рабочыя іх знялі з машыны і паклалі на вуліцы, а студэнты пераносілі з вуліцы ў калідор, дзе іх састаўлялі каля сценкі. Пліты ставіліся амаль ушчыльную да сценкі, каб не паехалі па падлозе. Яны і не паехалі, яны завярнуліся на хлопца. Пліт тых было сем штук. Іх цяжар і расціснуў невысокага хлопчыка. Яго партрэт у чорнай рамцы тыдні два стаяў каля гардэроба. Заўгаса разам з дырэктарам судзілі. Далі па два гады ўмоўна. Размовы пра хлопца, расціс-

нутага плітамі, яшчэ доўга хадзілі па вучылішчы. Нарэшце, размовы пра трагічны выпадак сціхлі, але месца ў цемнаватым шэрасценным калідоры, дзе здарылася трагедыя, мы ўсе стараліся праходзіць як мага хутчэй.

## Жанна і мятла

Жанна ніколі не лётала на мятле. Яна, як сапраўдная бландзінка, не любіла вядзьмарства. Жанна Башук малявала мятлу. Яна намалюе мятлу і кажа, што гэта букет. Дзіўна: мала хто бачыў у башукоўскіх букетах вядзьмарскую мятлу. Калі нехта і сумняваўся ў якасці намаляванага Жаннаю букета, дык казаў на яго: «Венік».

## Лапчынскі і таптанне

Выкладчыка Лапчынскага студэнты называлі Тапчынскі, бо любімае слова ў яго — «таптаць». «Трэба таптаць палатно!» — так Лапчынскі-Тапчынскі казаў пра жывапіс. Ягоныя навучэнцы разумелі словы старэйшага мастака літаральна і круглымі ды плоскімі пэндзлямі растоптвалі фарбу па сваіх кепска нацягнутых палотнах. Культура жывапіснай тэхнікі ў вучылішчы была на нізкім узроўні. Палотны, падрамнікі, фарбы і пэндзлі былі кепскія. Мала хто з нас спрабаваў выйсці да яркіх і адкрытых колераў. Адзінкі дазвалялі сабе спалучаць блакітна-зялёны з агніста-чырвоным ці глыбока-сіні з аранжава-залатым. Большасць вучнёўскіх палотнаў мела барвовае ды вохрыстае адценні. Самымі безнадзейна-шэрымі, самымі бляклымі, самымі сляпымі былі палотны ў таптуноў — навучэнцаў Лап-

чынскага. Толькі самі яны лічылі, што ў іх карцінах пануе ўраўнаважанасць, гарманізаванасць і нават вытанчанасць.

Заклік Лапчынскага «Тапчыце, тапчыце...» нечым нагадваў словы жывапісца Жана Батыста Сімяона Шардэна, запісаныя ў 1765 годзе Дэні Дзідро: «...больш мяккасці, больш мяккасці».

## Лапчынскі і абстракцыянізм

З Лапчынскім-Тапчынскім мы ездзілі ў Ленінград. Студэнты з ленінградскага мастацкага вучылішча ехалі ў мінскае ці кемераўскае, а мінчане і кемераўцы прыязджалі ў Ленінград. Музеі, крамы, кавярні... Леанарда, Ван Гог, Шардэн... Ленінград нам падабаўся. Нават наша класная — звераватая Рэвалюцыя Янаўна — не моцна атруціла падарожжа ў рэвалюцыйны горад. Вярталіся мы цягніком. Лапчынскі запрасіў мяне на прагляд сваіх скарбаў — альбомаў па мастацтве, набытых у ленінградскіх букіністаў. Большасць кніжак была прысвечана скандынаўскаму абстрактнаму мастацтву. Жаночыя імёны шведак і фінак мне нічога не казалі. Іх бляклыя палотны з крышталічнымі айсбергамі мне тады не спадабаліся, але запомніліся. Іх лаканічнасць, сціпласць і сцішанасць не аднойчы прыгадвалася. Лапчынскі казаў: «Глядзі, глядзі... Запамінай... Зразумееш гэтую прыгажосць пазней...» Ці зразумеў я прывабнасць скандынаўскага абстрактнага жывапісу? Так, зразумеў, але ён застаўся для мяне захалодным, як той цягнік «Ленінград–Львоў», у якім мы гарталі альбомы, прыдбаныя Лапчынскім.

## Мароз і трыпер

Лёня Мароз два разы запар падхапіў трыпер. «Усё! Буду нацягваць дзевак толькі ў дупу! Нацягнуў у дупу — і ніякага табе трыперу», — так пра сваё рашэнне паведаміў Мароз. «Лёнь, а вошы? Мандавошак ты атрымаеш, нават засаджваючы ў дупу». — «Чорт з імі, з гэтымі праклятымі мандавошкамі. Памазаўся, памыўся — і няма вошай. А тут і антыбіётыкі, і піць зусім нельга, і прыніжэнні ў бальніцах ды аптэках. Буду ў дупу». Мароз жыў лёгка. Хутка прымаў рашэнне, а праз імгненне мог яго і змяніць. Мы чулі пра новы праект: «Знайду сабе цнатлівую і распачну зусім новае палавое жыццё. Без напругі, без вошай і без трыперу!» Каб жа ж так і зрабіў...

## Дубар і Тамара

Выкладчык Леанід Дубар прывёў натуршчыцу Тамару. У яе былі рудыя валасы і блакітная скура, роўная спіна і цяжкія прахалодна-ружовыя рукі. Рудавалосая Тамарка глядзела на свет лялечнымі вачыма. Мне дзяўчына падабалася, асабліва падабалася яе светла-блакітная спіна. Аднойчы я наважыўся задаць Тамарцы эратычнае пытанне: «Том, а ты б з Дубарам пераспала?» — «Не прапаноўвае...»

# *ДАДАТАК*

## Правалы і паступленні

Увосень мы вярталіся пасля канікулаў у вучылішча і пачыналі абмяркоўваць паступ-

ленні ў інстытут. Хто з нашых і чужых вытрымаў іспыты, а хто праваліўся. Вядома, больш хвалявалі правалы. Як так магло здарыцца, што Валодзя Шчарбакоў, наш выдатнік, у інстытут не патрапіў? Чаму зноў на графіку не ўзялі Вову Цэслера? Таму што яўрэй? А Шчарбакова не ўзялі, бо рускі з Калінінграда? Можа, у інстытут не бяруць выбітных і варта крыху замаскіраваць сваю індывідуальнасць? Паціху размовы пра іспыты ды правалы заціхалі, каб з новай сілаю распачацца ў наступным верасні. Чаму не паступілі Трушын і Воранаў? Па вучылішчы яны хадзілі геніямі, а ў інстытут не патрапілі. Мне падабаліся малюнкі Воранава і жывапіс Трушына, але браць іх за ўзоры цяпер небяспечна. Праз год у інстытут не ўзялі Ісачанку і Сярмяжку, а я падоўгу любаваўся іх палотнамі. Пэўна, так у вучылішчы абмяркоўвалі правалы і маіх аднакурснікаў — Гены Чэха, Тані Смірновай і Жанны Башук.

## Чэх і інстытут

У інстытут на мастацкі факультэт бралі толькі з добрай падрыхтоўкай. Такой падрыхтоўкай лічылася заканчэнне вучылішча або «парната». Там ты праходзіў адбор і атрымліваў патрэбныя рэкамендацыі. Без рэкамендацый на жывапіс, графіку, манументальнае і скульптуру чалавек паступіць не мог. Ён мог паспрабаваць паступаць, яго пры пэўных акалічнасцях маглі і залічыць у студэнты, але пазней такога выганялі. У інстытут не бралі кепскіх. Зразумела. За гэта ніхто нікога асуджаць не стане. Але ў наш інстытут не бралі і найлепшых. Не пускалі тых, хто за гады вучо-

бы ў вучылішчы ці «парнаце» паспеў сфармавацца ў мастака. «Разумнейшых за сябе не бяруць!» — папярэджваў нас Альгерд Малішэўскі. Можна было не сумнявацца ў праўдзівасці слоў Малішэўскага. Каб паступіць, трэба было прадэманстраваць не найлепшае, а патрэбнае інстытуту. Большасць маіх аднагрупнікаў так і зрабіла, адно Гена Чэх паказаў пэўную наравістасць, і яго не ўзялі. Гена быў ці не самы здольны на курсе, але ў інстытут паступіць не змог і мастаком не стаў. Шмат хто не змог стаць мастаком і пасля заканчэння інстытута, але гэта ўжо іншая гісторыя.

## Лось і спірт

Ёсць учынкі недаравальныя. Зробіш, а потым доўга шкадуеш пра ўчыненае. Хацелася б выправіць, а яно ж у мінулым і ну ніяк не выпраўляецца. Падобнае ў мяне здарылася ў мястэчку Слабодка, што пад Браславам. Пасля заканчэння вучылішча і здачы іспытаў у інстытут мы з Алесем Ласём паехалі працаваць на археалагічныя раскопкі. Кiравала раскопкамі Люда Дучыц, яна і выдала нам у якасці ганарару бутэльку са спіртам. Вечарамі, калі за вокнамі на Слабодку сыпаўся дождж, мы любілі каўтнуць пару чарачак пякучай вадкасці. Мы навучыліся піць неразбаўлены спірт. Спынялі дыханне, каўталі і запівалі глытком крынічнай вады. Піць спірт — справа сур'ёзная. Яна патрабуе засяроджанасці і майстэрства. Мяне як чорт падаткнуў... Калі Лось каўтаў спірт, я акуратна паказытаў ягоны кадык. Алесь папярхнуўся. Закашляўся. Наліўся чырванню. Разам з чортам я засмяяўся. Ідыёт! Вялікай шкоды не

было, але Лось дні два са мной не гаварыў, ну і голас у яго на дні тры прапаў. Напраўду голас у Алеся быў, але нейкі чужы, слабы і сіпаты. Часам я згадваю тое паказытванне кадыка — і робіцца прыкра за сябе. Хочацца вярнуцца ў мінулае і выправіцца, але мінулае нашае і насамрэч непапраўнае.

## Саша і сон

Па вучылішчы хадзіў ціхі Саша. Невысокі, хударлявы, крыху запаволены ў рухах студэнт. Яго ведалі як вялікага аматара паспаць. Саша спаў па пятнаццаць гадзін у дзень. Ён шмат спаў, але гэта не замінала яму вучыцца на выдатна. Ён быў стапрацэнтным выдатнікам, які маляваў чырвонаармейцаў, а камісары на ягоных карцінах былі падобныя да дырэктара Цуканава. На апошнім курсе Саша ажаніўся, узяў сабе Аляксандру, якая вучылася не так добра, але таксама любіла паспаць. Саша з Аляксандрай малявалі чырвонаармейцаў у абзораных будзёнаўках, і мы думалі, што яны абавязкова паступяць у інстытут, але іх туды не прынялі, бо, каб вучыцца ў інстытуце, трэба спаць крыху менш за пятнаццаць гадзін у суткі.

## Бароўка і Бацічэлі

Валянцін Бароўка захапляўся фрэскамі Сандра Бацічэлі. Валянцін маляваў ілюстрацыі да прозы Кузьмы Чорнага, і ўсе дзяўчаткі на малюнках былі падобныя да маладых жанчын, напісаных боганатхнёным пэндзлікам вытанчанага Сандра. Кніга Броўкі, дзякуючы Бацічэлі, займела вясновыя колеры і травень-

скую свежасць. Бароўка напісаў яшчэ і вялікае палатно з будаўніцамі, падобнымі да танцорак, створаных Сандра. Пошукі Бароўкі былі цікавыя і плённыя, але скончыліся яны раптоўна і гвалтоўна. Мастак згарэў у сваёй майстэрні.

Бароўка крыху выпіваў. Тады ўсе мастакі выпівалі. Хто больш, хто менш, хто шмат, а хто і зашмат. Валянцін Бароўка выпіваў крыху. У майстэрні ён выпіў і запэцкаў светлы плашч у алейную фарбу. Пачаў чысціць яго піненам. Пачысціў і закурыў. Плашч успыхнуў. Мастак згарэў разам з майстэрняй. Мастацкая вучылішча, дзе выкладаў Валянцін, яго аплакала.

Існуе і другая, неафіцыйная, таемная версія смерці мастака. Па ёй ён прыйшоў дамоў п'яны і пасварыўся з жонкай. Яна крычала на яго і папракала п'янствам. Мастак абліў сябе газаю і падпаліў. Такім чынам, Бароўка скончыў сваё жыццё ў вогненным самазнішчэнні. Улады з міліцыянерамі вырашылі схаваць праўду і прыдумалі гісторыю з плашчом, запэцканым чорнай фарбай. Абодва варыянты жахлівыя, але другі — больш пераканаўчы.

## Ініцыятыва і пакаранне

Выкладчыкі вучылішча не любілі ініцыятыўных студэнтаў. Не любілі і нават прыгняталі тых, хто быў здатны запачаткаваць нейкую новую моду. Так Вова Шчарбакоў пачаў пісаць мастыхінам. Ён арганізоўваў свае палотны шырокімі плоскасцямі. Так Алена Шыдлоўская перафарбоўвала матывы Ван Гога ў густафіялетавыя, ружовыя і смарагдавыя адценні. Так Юра Сутулін тонкім пяром маляваў твар

Хрыста ў кусце, які ахапіла полымя. Ні Шчарбакоў, ні Шыдлоўская, ні Сутулін не змаглі атрымаць паўнавартасную адукацыю і стаць мастакамі. Яны былі яркія, але слабыя. Іх збілі на ўзлёце.

## Хмялеўскі і пыха

Хто ў вучылішчы быў самы фанабэрысты? А самы пыхлівы? А самы задраны ўгару нос у каго? Хмель, Вася Хмялеўскі, безумоўна, перамог бы ў конкурсе на самага фанабэрлівага навучэнца. Адны чорныя вусы чаго вартыя! Драгун! Кароль жывапісу! Праўду варта сказаць: жывапіс у Васіля атрымліваўся на выдатна. Адчуваў ён колеры, мог прывесці іх у гармонію на палатне. Таму і паступіў на кафедру жывапісу без праблем. Таму і ў вучылішчы, і ў інстытуце вучыўся ён лёгка. Здароўя ў Васіля было як на трох. Ён нават барацьбой займаўся і дайшоў да чэмпіёнства з медалямі. Кінуў барацьбу. Заглыбіўся ў жывапіс і п’янкі. Мала пражыў, але яго фанабэрыя помніцца, як і ягоныя сакавіта-праўдзівыя эцюды летніх краявідаў, зробленыя з натуры.

## Данілевіч і Рэвалюцыя

Лора Данілевіч кепска чарціла. Зусім кепска. Так, што выкладчыца чарчэння Рэвалюцыя Янаўна нервавалася і злавалася. Яна і без нерваванняў была злой, прынцыповай і катэгарычнай. Рэвалюцыя працавала самаахвярна і верыла, што можа змяніць свет на сваім працоўным месцы. Яна вучыла будучых настаўнікаў чарціць на дошцы і на паперы. Яе слухалі, яе слухаліся, яе паважалі... Толькі Ларыса не

магла чарціць. Ёсць і такія дзяўчаты, што малявацць малююць, а чарціць у іх зусім не атрымліваецца. Так-сяк за Лору Данілевіч заданні мы парабілі. Адзін крышку, другі крышку, яшчэ нехта трошкі. Ларыса скончыла вучылішча, прыйшла ў школу і адмовілася выкладаць чарчэнне. У тлумачальнай запісцы на імя міністра адукацыі Данілевіч казала, што Рэвалюцыя Янаўна не змагла навучыць яе чарціць. Кажуць, што выкладчыца плакала. Не веру! Такія Рэвалюцыі Янаўны не плачуць: у іх проста няма і ніколі не было слёз.

## Паланэз Агінскага

Пасля заканчэння інстытута Алесь Лось узяў батлейку і з'ехаў са сталіцы ў Залессе, дзе некалі Міхалам Клеафасам Агінскім напісаўся найвядомейшы ў свеце паланэз «Развітанне з Радзімай». Там Лось і прыдумаў назву новай музычнай формы — беланэз. Прыдумаць прыдумаў, а стварыць змястоўную форму пад красамоўную назву не стварыў. Пэўна, у беларускім Залессі задуманы Ласём беланэз усё яшчэ чакае стваральніка.

## Рунец і пыласос

Рунец вучыўся на другім курсе, калі хвароба апанавала ягоную маладую мастакоўскую душу. Ён вярнуўся з летняй практыкі, дзе нарабіў выдатных эцюдаў і малюнкаў. Ягоныя працы маглі б аздобіць любое метадычнае выданне, такія яны атрымаліся ўзорныя і правільныя. Трава на эцюдах была зялёнай-раззялёнай, аблокі ў сінім небе — белымі-разбелымі, як і гусакі на траве. Толькі правільныя малюнкі

і жывапісныя эцюды мелі вялікі подпіс у правым кутку: «Леанарда».

Рунец лячыўся, доўга, цяжка, пакутліва. Ён вылечыўся. Цяпер працуе ў дзіцячым парку прыбіральшчыкам. Ходзіць з заплечным пыласосам і змятае апалую лістоту ў вялікія гурбы. Такім я сустрэў яго надоечы. Здараецца, Рунец піша артыкулы пра мастацкія выставы, піша сухаватыя просценькія пазітыўныя тэксты. Газеты іх нават друкуюць, зрэдку.

## Ярэська і майстэрня

У час размовы з былым аднакурснікам па вучылішчы Віктарам Ярэськам даведаўся, што ён збудаваў прасторную майстэрню. «Не для сябе, для дзяцей пабудаваў. Сам сяджу, як і сядзеў, у маленечкім пакойчыку пад страхою. Мне хапае. Дзеці прыязджалі ўлетку з Будапешта, прабылі ў нас амаль два месяцы. Працавалі ў новай майстэрні. Я парадаваўся...»

## Валодзя і Валодзя

Сходзіў на святкаванне шасцідзесяцігоддзя вучылішча і засмуціўся. Мае таварышы пасівелі і састарэлі. Большасць з іх нічога істотнага так і не зрабіла за жыццё. Іх не шкада. У аднаго з іх я надоечы спытаў: «Як ты, Алесік?» — «Целяпаюся як лайно ў пельцы!» Такіх цельпукоў ад літаратуры і выяўленчага мастацтва мне ні кропелькі не шкада. Шкадую іншых... Мне шкада Валодзю-скульптара, які ўпрыгожвае нашу сталіцу сваімі вясёлымі бронзавымі «чаландрэкамі». Шкада, бо ад п’янства ягоны твар так разнесла, што мочкі

вушэй тырчаць з галавы перпендыкулярна. Шкада Валодзю-рэстаўратара, які ахвяраваў жыццё на аднаўленне збораў, а цяпер трапіў у шпіталь з дыягназам «анемія». Шкада заікастую Алуху і глухаватага Андрэйку. Іх шкада і крыху шкада сябе.

## Віткоўская і кераміка

На святкаванні юбілею мастацкага вучылішча я сядзеў у вялікай тэатральнай зале ды разглядаў публіку. Калі маё вока спынілася на акулярах керамісткі Віткоўскай, святло пачало павольна згасаць. Чаму ніхто не здагадаўся сумясціць два прыстасаванні: прыладу для павольнага пагашэння святла і машынку для мяккага апускання труны ў крэматорыі? Падумалася так. Вядома, я выбачаюся перад Віткоўскай, але самае манументальнае, што можа зрабіць кераміст, — урну для чалавечага праху.

## Сярмяжка і драпіроўкі

Студэнт Сярмяжка захапіўся маляваннем драпіровак. Ён маляваў і маляваў драпіроўкі, маляваў складкі ружовых і белых анучак. Усе свае аркушы і палотны ён замалёўваў драпіроўкамі. Нават натуршчыкі і натуршчыцы ў яго складаліся са скураных паўдрапіровачных складак. Нават зямля і аблокі над ёю ў Сярмяжкі былі складкаватыя і драпіровачныя. Выдатны быў мастак Сярмяжка, пакуль не звар'яцеў. Сам я не бачыў, як ён страціў розум. Мне сказалі: «Сярмяжка не малюе, бо хварэе, бо звар'яцеў...» Я не стаў распытваць, бо не мог слова сказаць, так слёзы душылі.

## Юра і амерыканец

У кнігарні сустрэў даўняга суседа па доме на вуліцы Чарнышэўскага. Ён — Юра Яўменаў — жыў у кватэры шэсцьдзесят, а я ў пяцьдзясят дзевяць. Мы з ім сутыкнуліся каля паліц з лірыкаю. Я выбраў сабе танюткі томік Верлена, а Юра ўзяў яшчэ больш тонкі томік Віёна. З паэтычнымі зборнікамі ў кішэнях мы прайшліся па праспекце ад плошчы Якуба Коласа да плошчы Перамогі. Калі мы развітваліся, Юра сказаў: «Ты стаў падобны да амерыканца! Гляджу на цябе і бачу пажылога амерыканца з выразным мужным тварам...» Вечарам я досыць доўга разглядаў люстэрка, але амерыканца тамака не пабачыў. Трэба будзе намаляваць аўтапартрэт, які мне пакажа мяне больш выразна за люстэрка.

## Фаніпаль і Дзяніс

Фаніпаль стаіць на паўдарозе з дзедавага Койданава ў бацькаў Мінск. Едучы з Койданава, я радаваўся ў Фаніпалі, што хутка буду ў сталіцы. Кіруючыся з Мінска на Койданава, радаваўся ў Фаніпалі, што малая радзіма не за гарамі. Каб напісаць пра Фаніпаль, я чакаў здарэння. Яно і адбылося...

Раніцай я паехаў фатаграфаваць будынкі, у якіх вучыўся ў маладосці на мастака. У адным з іх некалі месцілася мастацкае вучылішча, а ў другім — тэатральна-мастацкі інстытут. Цяпер у абедзвюх будынінах ідзе капітальны рамонт. Выглядаюць будыніны хваравіта, але яны не адмовіліся ад фотасесіі. Наздымаў я розных архітэктурных абломаў і фрагментаў, а потым дзень працаваў у майстэрні над палот-

намі для калекцыі Андрэя Плясанава. Вечарам спусціўся ў метро, стаў пад калонай, дзе некалі адбыўся жудасны выбух, і пачуў пытанне: «Валодзя, ты мяне пазнаеш?» Ні голас, ні знешнасць па-правінцыйнаму загарэлага мужчыны нічога не нагадвалі і не падказвалі. «Не пазнаю». — «А я цябе адразу пазнаў. Мы з табой разам паступалі ў мастацкае вучылішча. Ты амаль не змяніўся. Я — Дзяніс, Іван Дзяніс! Успомніў?» — «Не». — «А ты ў вучылішча мастацкае паступіў?» — «Паступіў, я пазней і ў інстытут паступіў». — «А я не паступіў. Вярнуўся ў свой Фаніпаль, дзе ўсё жыццё працую мастаком. Цяпер займаюся камп'ютарнай графікай. Глядзі...» Іван дастаў з сумкі папку з раздрукоўкамі. З паперы глядзеў той жа Іван Дзяніс, падобны да чорна-белага могілкавага партрэта. Мне нават падалося, што фаніпальскі Дзяніс і не чалавек зусім, а прывід, таму я перавёў размову на выбух... «Тут я ледзь не загінуў, спускаўся ў метро, але спусціцца не паспеў. Пашанцавала...» — «А я спусціўся. Ступіў на платформу, калі тутака выбухнула. Мяне кантузіла, моцна кантузіла, але ж бачыш — выжыў!.. Валодзя, а я захоўваю пэндзлік, які ты мне на ўступных экзаменах падараваў. Слухай, а тваё прозвішча Александровіч?» — «Не. Маё прозвішча Адамчык». — «Брат у цябе Александровіч?» — «Угу, і ён, як і я, з Койданава, што за тваім Фаніпалем». — «Слухай, а як ты сам? Як жыццё склалася?» — «Пішу карціны. У маладосці вершы пісаў. Ёсць жонка і дзеці». — «А ў мяне першая жонка памерла. Рак. Другая... Буду разводзіцца. Ёсць рэчы, якія дараваць не магу. Трое ўнукаў. Хлопчыкі і адна дзяўчынка. Я іх люблю. А з жонкай развядуся. Валодзя, ты мяне знайдзі на сайце "Аднакласнікі", Іван Дзяніс, 55 гадоў...»

Я сышоў на чыгуначным вакзале, а Іван паехаў далей, паехаў у свой Фаніпаль. Апошняе, пра што ён мне паспеў крыкнуць, калі вагонныя дзверы зачыняліся, гэта тое, што ў Фаніпалі ён можа арганізаваць для мяне выдатную рыбалку. Тут я і згадаў фаніпальскага хлопчыка, які ў двары мастацкага вучылішча расказваў сюжэт сваёй экзаменацыйнай кампазіцыі. Ён хацеў намаляваць сябе на дрэве. «Намалюю, як я залез на дрэва, на вялікі дуб. Там я засунуў руку ў дупло, каб дастаць арэхаў. У дупле вавёрка іх назапасіла. Мае аднакласнікі стаяць пад дубам і чакаюць, калі я ім кіну арэхаў...»

## Савіцкі і прапанова

З Андрэем Савіцкім мы напіліся гарэлкі. Мы шмат разоў напіваліся, але тым разам напіліся страшна. Пачыналі піць у майстэрні, а заканчвалі ў ягонай хатняй бібліятэцы. Пілі да глыбокай ночы. Разважалі пра кнігі ды мастацтва, пра культуралагічныя праекты ды модныя павевы ў геапалітыцы. Згадвалі вучылішча. Гучала старажытная яўрэйская музыка. Я напіўся да той кропкі, за якой пачынае знікаць свядомасць, і пачаў збірацца дамоў. У хвіліны развітання Андрэй сказаў, што ён заўжды сядзіць у сваёй бібліятэцы і я магу зайсці да яго ў любы дзень і ў любы час. Пасля той п’янкі я ніводнага разу не зайшоў да Андрэя.

## Кожух і Леанарда

У метро краем вока бачыў мастака Кожуха. Сівая барада, высокі лоб, правільны нос, свет-

лыя вочы... І ўся гэтая веліч, уся леанардаўская манументальнасць была правільна пасаджана на шырока разгорнутыя плечы. Партрэт! Бяры і малюй, не памылішся. З узростам усе мастакі робяцца падобнымі да... Не да карцін вялікіх майстроў і не да малюнкаў геніяў... Яны робяцца падобнымі да натуршчыкаў з мастацкага вучылішча.

# ІНСТЫТУТ

*Словы пра Тэатральна-мастацкі інстытут*

## *УСТУП*

### Воранаў

Мастак Воранаў не любіў маляваць вушы. У самога Воранава былі лопухі замест вушэй; не дзіва, што яму не падабаўся менавіта гэты элемент галавы. Нават гіпсавае ідэальнае вуха Давіда, злепленае пальцамі адраджэнца Мікеланджэла Буанароці, нашаму Воранаву не падабалася. Адно, што апраўдвала хлопца, — час доўгіх мужчынскіх валасоў. Такі час бывае, калі маладыя мужчыны носяць доўгія валасы і закрываюць імі свае мочкі, козелцы і супрацькозелцы. Сам Воранаў насіў кароткую стрыжку, але вушы не любіў так, што на партрэтах іх пісаў схематычна і, можна сказаць, кепска. З-за нелюбові да вушэй Воранаў нават не паступіў у інстытут. Воранава зарэзалі за вуха: на іспытах яму сказалі, што чалавеку, які за чатыры гады ў мастацкім вучылішчы так і не навучыўся маляваць чалавечае вуха, у манументальным мастацтве няма чаго рабіць.

### Мянушкі

Кожны ў нашым інстытуце меў мянушку. Кожны... Скульптара Анікейчыка называлі Ахінейчык, асабліва смачна вымаўляў яго мянушку Маліш, Сяргей Малішэўскі, чыйго бацьку

называлі Умалішэўскі Мальберт Падрамавіч. Графіка Любамудрава называлі Любадуравым: студэнт Халамаў назваў яго так, бо пачуў ад прафесара замест свайго прозвішча мянушку — Хламаў. Студэнта Андрэя Смаляка ўсе звалі Смаляк, але быў кароткі момант з мянушкай Аксамітная галоўка: Андрэй вярнуўся з турмы караткастрыжаны, усе радаваліся і гладзілі яго па аксамітнай галаве. Маліноўскага і Ксяндзова звалі Маліна і Ксёндз. Сысоева звалі Банан, ён на гэта моцна злаваўся. На Ігара Цішына казалі Гірка. Да Сяргея Грыневіча прыляпілася мянушка Са. Чаму Са? Пэўна, таму, што ён Сяргей Аркадзьевіч. Трэба будзе ў каго распытаць. У таго ж Радзівонава з мянушкай Лагодны. Ён шмат чаго ведае. Але, мусіць, не ведае, што Крукаў называў Тамару Карэлкіну Дзюба, бо ў той велікаваты нос. Самога Крукава ўсе клікалі Крук. Грышу Шараева звалі Слон, бо вялікі. Майстар вітражнай справы Саша Пятроў быў для нас Нягора і Себасцьян Перэйра, бо рудаватай барадою і чырвоным носам нагадваў пірата. Валіка Дзялендзіка пяшчотна клікалі Дзічка. Воўка Савіч быў Саўкам, як Воўка Сцепаненка — Сцёпкам. Мікалай Селяшчук хадзіў як Селя, Анатоль Александровіч як Альто... Можна мянушкі згадваць і прамаўляць бясконца. Думаю, я ўспомніў дастаткова, каб ты пачаў згадваць мянушкі сваіх выкладчыкаў, аднакурснікаў і сяброў.

## Інстытуцкія графікі

Аддзяленне графікі было адным з найлепшых у мастацкім інстытуце. Усе графікі добра, а то і выдатна малявалі. Усе яны любілі, чыталі і аздаблялі кнігі. Праца графікам і нават невя-

лікая падпрацоўка ў выдавецтвах не толькі карміла, але і прыносіла добрыя заробкі. Нашы графікі падпарадкоўваліся жорсткай дыктатуры, якую стварыў загадчык кафедры Васіль Шаранговіч. Нягледзячы на дыктат, у графікаў захоўвалася вытанчанасць і нават постмадэрністычная манернасць. Іх таленты трымаліся на завостранасці лінарытных разцоў і на самым вастрыі афортнай іголкі. У кожнага графіка ў пенале хаваўся наточаны скальпель для вастрэння алоўкаў. Графік павінен не толькі адрозніваць чорнае ад белага, ён мусіць бачыць дакладную мяжу паміж святлом і цемраю. Ніхто, акрамя графіка, дакладна не ведае адказаў на сакраментальныя пытанні... Што ёсць белае? Што ёсць чорнае? Графік верыць у тое, што ведае адказы. Веры яму дастаткова. Мяне проста зачароўвалі майстры графікі, якія ўслед за Хогартам маглі іголкай зрабіць хуткі малюначак на ўласным пазногці. Чатыры гады, займаючыся ў вучылішчы, я рыхтаваўся да паступлення на графіку, але перадумаў і пайшоў да монументалістаў: спакусіўся вялікімі памерамі фрэсак і ззяннем саборных вітражоў.

## *ПЕРШЫ КУРС*

### Стой-куды-пішоў

Штодня маё інстытуцкае жыццё пачыналася з вахцёркі. Яна сядзела каля калоны за пісьмовым сталом, на якім гарэла настольная лямпа. Вахцёрка мела выгляд следчай ваенных часоў. Такая следчая мае права пусціць або не пусціць цябе на волю. Яе звалі... цётка Соня.

Цётка Маня. Цётка... Самая запамінальная з інстытуцкіх вахцёрак была цётка Стой-куды-пішоў. Яна злосна патрабавала паказваць разгорнуты студэнцкі білет. Яна добра ўсіх ведала і дурным голасам агучвала свае вялікія веды: «Шкробіт! Стой! Куды пішоў? Скульптар Шкробіт, я цібе кажу: стой!» Шкробат вяртаўся, каб супакоіць вахцёрку: «Стаю. Што такое?» — «Прад'яві пропуск!» Скульптар Міша Шкробат паказваў разгорнуты білет і моўчкі сыходзіў. Ён сыходзіў у цёмны калідор і чуў гучнае: «Стой! Куды пішоў?» Вахцёрка спыняла наступнага студэнта ці выкладчыка. Нашто? Якую такую таямніцу яна ахоўвала ў тэатральна-мастацкім інстытуце? Ад каго ахоўвалася тая таямніца злоснымі Сонямі ды Манямі? За шэсць гадоў я так і не зразумеў. Такое нельга зразумець, гэта можна прыняць як наканаванасць — і жыць, не ўслухоўваючыся ў словы «стой-куды-пішоў».

## Войчанка і ахвяра

Каб хтосьці стаў кімсьці, патрэбна ахвяра. Каб дзіця вывучылася на мастака, ад бацькоў і настаўнікаў патрабуецца шмат ахвяр, шмат часу і шмат настойлівасці. Каб з хлопчыка Сяргея Войчанкі вырас мастак, яго выправілі вучыцца ў сталічную школу-інтэрнат. Сяргею не падабалася жыць у чужым горадзе, у інтэрнаце, яму хацелася вярнуцца і жыць у бацькоў... Сяргей пачаў уцякаць з інтэрната. Праз гэтыя ўцёкі ён займеў мянушку Блудзя. Малога ўцекача сям'я вяртала ў інтэрнат. Каб Сяргею было больш утульна ў далёкім горадзе і чужым інтэрнаце, туды прыехала ягоная бабуля. Яна ахвяравала ўсім дзеля ўнука. Яна ўладкавалася

ў школу-інтэрнат простай вахцёркай. Яна чым магла дапамагала свайму Блудзі, але ў інтэрнаце ён так і не давучыўся, кінуў. Ён кінуў інтэрнат для адораных дзяцей, але мастаком стаў выдатным. Блудзя паступіў у наш інстытут, адвучыўся і стаў мастаком. Значыць, усе ахвяры, зробленыя дзеля маленькага Блудзі, марнымі не былі.

## Давід

Кожны прафесійны мастак праходзіць праз пакуты і радасці, знітаваныя з маляваннем гіпсавага Давіда. Ты малюеш вуха Давіда, нос Давіда, вусны Давіда. Ты ўсхваляеш і праклінаеш Мікеланджэла, які стварыў ідэальныя вусны, узорны нос і эталоннае вуха. Ты праклінаеш чортава паданне пра хлопчыка, які выйшаў змагацца з волатам і забіў яго каменем, пушчаным з прашчы. Цяпер ты сам гэты хлопчык, слабы і малаталенавіты, хлопчык, які павінен перамагчы тытана Адраджэння — Мікеланджэла. Ты малюеш кучаравую галаву Давіда, а яна распаўзаецца на ўвесь аркуш. Ты выціраеш малюнак гумкай і пачынаеш маляванне нанова. У вучылішчы я намаляваў вялізны нос героя, які проста вытыркаўся з аркуша. Астатні твар быў нібыта ў тумане, тырчаў толькі нос. У інстытуце я намаляваў Давіда ў профіль. Ён навісаў над белай пустатою, як Галіяф. Мой профільны Давід задумаў забіць Галіяфа, задумаў забіць пачвару, каб уратаваць свой народ. У сваіх задумах і планах мой Давід зрабіўся мацнейшым за волата і велікана. Мой Давід стаў новым Галіяфам і забіў Галіяфа старога... Шкада, што малюнкі не захаваліся. Вялікія

малюнкі кепска захоўваюцца. Мікеланджэла пра тое ведаў, таму і стварыў скульптуру Давіда, а не скульптуру Галіяфа.

## Зельская

Мастак толькі тады мастак, калі знойдзе адпаведныя сабе матэрыялы. Яня Зельская любіла танныя алоўкі. Ніхто і блізка не мог так пераканаўча і разам з тым паэтычна на плоскім, крыху фактурным аркушы акварэльнай паперы акрэсліваць і надзімаць каляровымі алоўкамі выявы аб'ёмных рэчаў — птушак, кветак, дзяўчатак, — як гэта рабіла чарадзейніца Яня. Зельская была створана для малявання ілюстрацый у займальныя дзявочыя кнігі. Каляровыя алоўкі выбралі Яню за сваю каралеву. Акрамя алоўкаў Зельская любіла гарбату з беларускіх зёлак. Яна піла гарбату і малявала, малявала, малявала... Танцораў, танцорак, тэлефаністак, распуснікаў, гракоў, макі, зязюлю... Духмянай гарбатай з лекавых траў Яня частавала і наведвальнікаў сваёй па-жаноцку ўтульнай майстэрні. Мне пашанцавала, і я пакаштаваў той хмельнай гарбаты. Я піў яе і глядзеў, як у руцэ Яні Зельскай самы просты аловак ператвараецца ў чароўны стрыжань.

## Амбросьеў

Выкладчык пластычнай анатоміі Амбросьеў быў аматарам паразважаць пра таемнае і фізіялагічнае: «Студэнтка пытаецца: "Калі трэба мыць рукі ў прыбіральні, да сікання ці пасля?" Адказваю: "Калі цябе непакоіць падобнае пытанне, ты памый рукі два разы. Да сікання і пасля сікання таксама памый рукі..."»

## Льдокаў

На вуліцы да мяне падышоў малады чалавек, недзе мой аднагодка, і прапанаваў пазнаёміцца. Я не ведаў, што адказаць на такую дзіўную прапанову. Знаёміцца на вуліцы з дзяўчатамі я знаёміўся, але каб з хлопцам — такое здарылася ўпершыню. Хлопец сказаў, што ён, як і я, — мастак, што яму падабаецца мая палатняная папка для малявання і што нашы карціны віселі на выставе побач. Мой краявід з чырвоным домам і сапраўды вісеў побач з ягоным нацюрмортам са срэбнымі рыбамі. Льдокаў — такое было прозвішча ў хлопца — лічыў гэта выдатнай нагодай для нашага знаёмства. Давялося пагадзіцца і сказаць, што я не супраць знаёмства з мастаком, чыя карціна вісела на выставе побач з маёй.

## Льдокаў і Басаў

У маладосці шмат хто з мастакоў захапляецца творчасцю старэйшых майстроў да апантанасці і шаленства. Саша Льдокаў на нейкі час адчайна захапіўся жывапісам і графікай Басава. Ён яшчэ і творамі Хаіма Суціна захапляўся, але Ізраіля Басава Льдокаў любіў значна больш. Ён гадзінамі стаяў каля палотнаў, шчодра перагружаных алейнай фарбай. Любаваўся. Вывучаў. Запамінаў. У сваёй майстэрні Саша рабіў невялічкія малюнкі з архітэктурнымі матывамі і постацямі жанчын, падобных да жанчын Басава. У сваё глыбокае захапленне мастаком Саша зацягнуў і мяне. Разам з Льдокавым я падоўгу разглядаў бэзавыя, ліловыя і сінія колеры ў карцінах майстра. Льдокаў абяцаў, што пазнаёміць мяне са спадаром Баса-

вым, ды так і не пазнаёміў. У маладосці мастакі хутка змяняюць сваіх куміраў і свае захапленні старэйшымі майстрамі.

## Дзед Мароз і бальзам

На тую навагоднюю вечарыну Саша Кішчанка пранёс вялікую бутэльку арабскага бальзаму «Абу-Сімбел». Можаш сабе ўявіць, якія арабы спецыялісты ў алкагольных напоях. Каб ты не пакутаваў і не выдумляў абычаго, я параўнаю той бальзам з сучаснымі беларускімі. Нашы ў разоў дзесяць лепшыя за яго. Яны і мякчэйшыя, і духмянейшыя, і кайф ад іх не такі дурны. З Сашам Кішчанкам я наглытаўся арабскага бальзаму ў зачыненай прыбіральні, выйшаў з яе і апынуўся на конкурсе малюнкаў. Студэнты малявалі Дзеда Мароза. Я таксама палез маляваць барадатага дзеда з чырвоным носам.

Я ліў фарбу на паперу. Размазваў яе рукамі. Вычэрчваў лініі пэндзлямі. Змучыўся. Перапэцкаўся. Зрабіў, безумоўна, найгоршы з малюнкаў на конкурсе. Самае кепскае, што са мной здарылася ў той святочны вечар, — працверазеў і расчараваўся ва ўласным таленце. На той вечарынцы я канчаткова пераканаўся, што не змагу працаваць у п’яным стане. Мае ранейшыя вопыты — працаваць пасля шклянкі віна — гэтаксама заканчваліся дрэнна. У лепшым варыянце атрымлівалася пасрэдная халтура. Цяпер, пасля моцнага бальзаму, у мяне нават халтуры не атрымалася. На паперы пад маімі нагамі ляжаў доказ вар’яцтва. Тое сваё вар’яцтва я цудоўна бачыў, але яго не бачылі іншыя. Можа, яны рабілі выгляд, што не бачаць? Можа, ім усім была настолькі абыяка-

вая чужая творчасць, што ніхто не спыніў мяне? Мог бы нехта са старэйшых падысці і сказаць, што я страціў рэшткі розуму, што мне варта памыць рукі і выправіцца дамоў, каб там праспацца? Не! Усё было роўна наадварот. Мяне падхвальвалі і падзадорвалі... Давай-давай! Квэцай! Пырскай! Вэдзгай! Яшчэ пару рысачак тоўстым пэндзлем — і ты пераможца. Жу-у-уда-а-асць жудасная! Як я спыніўся? Працверазеў. Раптоўна. Убачыў самога сябе збоку і кінуў пэндзаль у слоік з фарбай. Кінуў і выправіўся дамоў. На марозе на прыпынку таксі я даў сабе слова не працаваць п'яным. Ніколі! І не працую.

## Малевіч і Паўлоўскі

Шмат цікавага і важнага ў нашым інстытуце рабілася таемна. Выставы ў майстэрнях, дыспуты і чытанні самвыдатаўскіх тэкстаў на кватэрах, бясконцыя сакрэтныя размовы ў скверах... Такога было шмат, яно натхняла і абнадзейвала, бо падтрымлівала веру ў хуткія змены, што мусяць адбыцца ў краіне. Звычайна таемнае жыццё было малалюдным. Сустракаліся правераныя з перанраверанымі. Чужых асцерагаліся. Таму шматлюднасць святкавання дня народзінаў Казіміра Малевіча ўражвала.

Свята ладзілася ў майстэрні Віктара Паўлоўскага. Ён зрабіў выставу сваіх кубістычных цьмяна-зялёных карцін у стылі экспрэсіяніста Ліянэля Файнінгера. Этнограф Міхась Раманюк і філосаф Уладзімір Конан прачыталі даклады пра жыццё і творчасць Малевіча. Раманюк прынёс часопіс «Амерыка», прысвечаны Казіміру Севярынавічу і ягонай выбіт-

най творчасці. Для мяне той часопіс быў ці не самым цікавым арт-аб’ектам таемнай вечарыны. Вядома, што парадавала і чырвонае сухое балгарскае віно, якога было шмат і якое пілося за Малевіча, за супрэматызм, за квадрат. Зазвычай я не піў са старэйшымі мастакамі, але тым разам выпіў з Марачкіным і Маркаўцом, з Пятрухнам і Паўлоўскім... На таемную ўрачыстасць мяне паклікалі разам з Уладзімірам Сцяпанам. Запрасілі, каб мы дапамаглі Паўлоўскаму хутка развесіць-расставіць, а потым прыбраць выставу аднаго вечара. За добрую працу нас яшчэ і ўзнагародзілі бутэлькай віна з намалёваным на этыкетцы мядзведзем.

## Перадаванні

Найлепшых сваіх натуршчыц мы перадавалі з групы ў групу і з курса на курс, як каштоўныя крыштальныя вазы, баючыся пабіць і баючыся страціць.

## Бараноўскі

Пейзажыст Анатоль Бараноўскі казаў студэнтам: «Трэба ўвесь час нешта дадаваць да свайго твора! Трэба яго насычаць, напаўняць і ўзбагачаць!» Рацыя ў парадзе Бараноўскага, безумоўна, мелася. Знарочыстае заніжэнне якасці, прымітыўная схематычнасць і наіўная спрошчанасць мала каго прываблівають. Толькі сам Анатоль моцна перабіраў з дадаваннем. Ён перагружаў свае палотны фарбамі. Ён іх перанасычваў менавіта фарбамі, а не колерамі. Ён перапаўняў свае краявіды малапатрэбнымі дэталямі. Вынік у Бараноўскага мож-

на было пазначыць адным словам — перабор. Усё ж ёсць час не толькі дадавання, але і час разумнага адымання ды памяншэння, каб не было дурных пераибораў.

## Юрковіч

Запрасіў сваю аднакурсніцу Юрковіч папазіраваць. Яна мне падабалася, моцна. Пэўна, і я падабаўся ёй, бо пагадзілася пазіраваць агаленай. Мы спадзяваліся на раман. Яна распранулася, стала на подыум, а я пачаў маляваць. Нейкая невытлумачальная сіла адштурхнула мяне ад Юрковіч. Яе прывабнае цела зрабілася для мяне целам звычайнай натуршчыцы, якую можна толькі маляваць, а можна і не маляваць зусім.

## «Парнат» і вучылішча

У наш інстытут збольшага прыходзілі і паступалі з інтэрната ды вучылішча. Інтэрнатаўцы-«парнатаўцы» не любілі студэнтаў з вучылішча, а тыя — глебаўцы — адплачвалі ім той жа манетай: кпілі, насміхаліся, пацвельвалі. «“Парнатаўцы”? Намаляваць акварэллю рубель, пайсці ў парк Чалюскінцаў і там за самаробныя грошы купляць у замежнікаў жуйку — іх стыль у паводзінах!» — кажа глебавец Грышкевіч. «Усе, хто з вучылішча, не ведаюць хіміі. Зусім не ведаюць. У мастацтве павінна прысутнічаць рамяство. З якога боку ні зазірні, а мы робім рэч. Мы мусім рабіць яе тэхналагічна. Пасля вучылішча шчолач ад кіслаты ніхто адрозніць не можа!» — абураецца «парнатавец» Дзенісенка. Помню, як у час жывапіснай практыкі, што праходзіла ў маляўнічай

надазёрнай Слабодцы, нашы інтэрнатаўцы — Крукаў, Шараеў і Карэлкіна — агітавалі збіраць суніцы на могілках. Маўляў, там яны самыя салодкія. Усе, хто быў з вучылішча, страшэнна абураліся такой «канібалістычнай» усёеднасцю.

## Тамара і жаданні

Ёсць жанчыны, да якіх моцна цягне мужчын. Адну хочацца патрымаць за руку. Другую — пацалаваць. Трэцюю — зацягнуць як мага хутчэй у ложак. Ёсць такія, пры поглядзе на якіх узнікае неадольнае жаданне маляваць і фатаграфаваць. Ёсць і падобныя да Тамары Карэлкінай, якую мне заўсёды хацелася ўкусіць за нос.

## Тамара і крыўдзіцелі

Мая любоў да Тамары ўзнікла з пратэстаў. Тамара Карэлкіна была адзінай дзяўчынай у нашай інстытуцкай групе. Шэсць хлопцаў і Тома. Большасць мужыкоў ставілася да Томкі, як і наогул да жанчын, пагардліва. Сакалоў, Пятроў, Крукаў не толькі не бачылі ў ёй мастака, нават роўнага сабе чалавека яны ў ёй не жадалі бачыць. Асабліва жорстка паводзіў сябе Коля Крукаў. «Зараз вазьму і разаб'ю тваю дзюбу! На ліха яна ў цябе тырчыць?» — казаў Крук, махаў кулаком і спыняў яго ў якім сантыметры ад дзявочага носа. Падобныя выпады мяне раздражнялі моцна, раздражнялі больш, чым саму Тому. Яна прызвычаілася да падобных выбрыкаў яшчэ ў інтэрнаце, дзе разам з Крукавым вучылася з пятага класа. Для мяне такія размахванні кулакамі былі малапрымальнымі.

Я сварыўся з Крукавым. Сваркі, раздражненні, пратэсты, абароны і перараслі ў любоў да Томы. Нашы аднагрупнікі адчапіліся ад яе.

## *ДРУГІ КУРС*

### Стасевіч

На другім курсе да нас прыйшоў выкладаць жывапіс Іван Стасевіч. Да мастака Стасевіча я быў раўнадушны. Можна сказаць, што ягоныя карціны пра вайну і генералаў не знаходзілі ў маёй душы водгуку. Такіх, як Іван, у беларускім Саюзе мастакоў было шмат. Такія і стваралі міф пра беларускую партызанку. Таму я не слухаў парады Стасевіча. Нашто? Усхваляць генералаў і партызанаў я не збіраўся. Вопыт Івана быў для мяне малакаштоўны.

Я захапіўся кубізмам. З маіх палотнаў прапаў колер. Мой жывапіс стаў шэры. У мяне бываюць перыяды ў жыцці, калі нармальным здаецца толькі адзін шэры колер з ягонымі больш светлымі ды цёмнымі адценнямі. Партрэт старога з вусамі, рукі і ногі натуршчыка, вялікую галаву ўкраінца я напісаў манахромна. Усе тры заданні за семестр па жывапісе атрымаліся шэра-шэрымі. Стасевіч папярэджваў мяне, што шэры эксперымент скончыцца змрочна. Так і адбылося. Паставілі мне двойку. Прапала стыпендыя. Пагражалі выключыць, бо за чорна-белую кампазіцыю таксама паставілі незадавальняюча. Больш за тое, мяне абвінавацілі ў прапагандзе ідэй фашызму. На кампазіцыі былі намалёваны вялікія рамы, з якіх выходзілі героі Беларусі: Плятэр, Каліноўскі, Багушэвіч... У перакрыжаванні рам выкладчыкі

пабачылі крыжы і свастыкі. Чаму мяне тады не выгналі з інстытута? Павыганялі іншых. Ну і за мяне заступіўся Алег Хадыка.

Івана Стасевіча я раздражняў, і раздражняў моцна. Мяне мо і выгналі б, каб Іван не змяніў да мяне свайго стаўлення. Яго наведала азарэнне. Ён падышоў і сказаў: «Адамчык, я зразумеў, чаму ты так робіш! Я разумею, чаму ты пішаш жывапіс без колераў!» Мне стала цікава. Бо, сказаць па шчырасці, я і сам кепска разумеў, куды дзеўся колер з маіх палотнаў. Я рабіў малюнак, які пазней мусіў падфарбаваць, але да гэтага справа не даходзіла. Палотны заставаліся шэрымі. Можа, Стасевіч адкажа на пытанне... Чаму мае палотны застаюцца бясколернымі? Не адказаў, сказаў іншае: «Ты, Адамчык, хочаш, каб пра цябе ўсе гаварылі! Табе патрэбны розгалас! Таму ты і малюеш не так, як усе. Таму і пішаш шэры жывапіс!» Спрачацца з франтавіком Іванам Стасевічам, які дайшоў да Берліна і сфатаграфаваўся каля Рэйхстага, я не стаў. Нашто? Калі ён знайшоў адказ для сябе і гэты адказ яго задаволіў, для мяне толькі лепш. Я перастану раздражняць Івана. Ён перастане настойваць на маім выключэнні. Усё выдатна. Так і было. Больш я не атрымліваў дваякоў за свой эксперыментальны жывапіс.

## Натуршчыкі

Скажы, якая ў цябе натуршчыца, і я скажу, які ты мастак. Можна і такім чынам падысці да размовы пра мастака і творчасць. Таму я часта згадваю і добра памятаю ўсіх сваіх натуршчыкаў і натуршчыц з інстытута. Я іх тады любіў і зараз люблю.

## Хадыка і «Каштоўны фонд»

У інстытуце быў вялікі пакой, застаўлены стэлажамі, напоўненымі дарагімі альбомамі. Кнігі з таго бібліятэчнага пакоя нельга было выносіць. Называўся той пакой «Каштоўным фондам». Я туды прыходзіў, браў з паліцы альбомы і гартаў, седзячы за сталом. У «Каштоўным фондзе» я натхняўся творчасцю выбітных мастакоў, чыя спадчына не прапагандавалася, а то і проста ганьбавалася ў тагачасным СССР. У «Каштоўным фондзе» я гадзінамі гартаў альбомы з архітэктурнымі фантазіямі Чэрніхава і Гаўдзі. Там я вывучаў Вазарэлі і амерыканскі поп-арт. Там даследаваў афорты Джавані Бацiста Піранэзі... Большасць альбомаў па сучасным мастацтве закупіў Алег Хадыка. Не ведаю, якім чынам ён угаварыў інстытуцкае начальства выдаткаваць сродкі на закупы кніжак, але ўгаварыў. З грашыма Хадыка ездзіў у Ленінград, дзе ў букіністычных крамах купляў замежныя альбомы для бібліятэкі. Пад тыя альбомы і быў зроблены «Каштоўны фонд», дзякуючы яму мы атрымлівалі якасную адукацыю.

## Раманюк

Мастак, як і мастацтвазнаўца, дарэчы, не заўсёды атрымлівае заказ на тое, на што спадзяваўся і разлічваў. Мастацтвазнаўца Міхась Раманюк спецыялізаваўся на беларускім народным адзенні. Ён добра ведаў андаракі, кажухі ды наміткі. Міхась выдатна разбіраўся ў гарсэтах, станіках і спадніцах. У майстэрні Раманюка стаялі куфры з ботамі, пантофлямі ды чаравічкамі. Здавалася, што Міхась павінен

быў чытаць лекцыі пра беларускае адзенне і беларускае мастацтва, але яму далі гадзіны па мастацтве замежным і старажытным.

Міхась шчыра прызнаўся, што ведае пра Егіпет не больш за нас, сваіх студэнтаў. Ён паабяцаў, што абавязкова разам з намі пашырыць свае веды пра Тутанхамона і Рамзэса, пра Мікерын і Хеопса. Можа, крыху пазней ён і вывучыў старажытную цывілізацыю з берагоў Ніла, мне пра тое мала вядома, бо калі мы ішлі на лекцыі да Раманюка, дык паўтаралі жарт кшталту такога: «Зараз прыйдзем у клас. Міхась Раманюк пагасіць святло. На шырокім экране з'явіцца сфінкс з пірамідамі. Раманюк густым, артыстычным і пераканаўчым голасам скажа, што піраміды ў Егіпце збудавалі старажытныя беларусы, якія насілі брылі і вышыванкі. Дзве наступныя гадзіны мы будзем слухаць пра прыгажосць беларускіх ручнікоў, посцілак і саламяных птушак».

## Мацюк і тры капейкі

У маёй групе мацюкаліся ўсе, акрамя Тамары. Яна была адзіным чалавекам, хто не ўжываў брудных слоў. Нашым старэйшым — Пятрову і Сакалову — у нейкі момант стала сорамна за шматлікія мацюкі, што гучалі ў майстэрні. Яны завялі бляшанку, у якую кідаліся капейкі. Мацюкнуўся? Кідай у бляшанку тры капейкі. Калі бляшанка напоўнілася драбязой напалову, было прынята рашэнне назбіраныя грошы прапіць. Сабранага ледзь хапіла на дзве бутэлькі віна. Дзве бутэлькі на сем чалавек было замала. Накуплялі яшчэ. Панапіваліся. Наступным днём Сакалоў з Пятровым

вырашылі, што больш не трэба збіраць грошы за мацюкі, бо гэта зноў прывядзе да вялікай п'янкі. Больш мы не кідалі ў бляшанку па тры капейкі за мацюк, але мацюкацца сталі значна меней.

## Камілава

У Іры Камілавай былі танюткія бровы, ну проста дзве нітачкі. Тонкія аркі броваў надавалі вялікім чорным вачам чачэнкі Іры Камілавай здзіўлены выраз. Іра працавала натуршчыцай. Яна вышчыпвала бровы і гладка выгольвала ногі. Я закахаўся ў Камілаву, і мы спалі. Мы спалі паўсюль, дзе можна было прыткнуцца, каб паспаць. У яе інтэрнаце, у маёй майстэрні... Мы нават спалі ў ложку маіх бацькоў. Нам не спадабалася спаць на бацькоўскім ложку.

## Твары халтуры

У часы маёй вучобы ў інстытуце халтура мела адзін вельмі выразны трафарэтны твар — Леніна. Уладзімір Ільіч быў паўсюль: на плошчах, у кабінетах, у дзіцячых садках, у кішэнях на манетах і ў бумажніках на рублях. Мастакі навыперадкі ляпілі і малявалі Ільіча. Яны халтурылі і тымі халтурамі зараблялі. Мастакі карміліся з Леніна. Ледзь не ўсе мастакі і студэнты з тэатральна-мастацкага інстытута далучыліся да татальнай савецкай ленініяны. Я не далучыўся. Нават карыкатуры на Леніна не маляваў. Для мяне твар Ільіча знаходзіўся за межамі эстэтычнага. Я не чытаў ягоных твораў. Зрэшты, я не ведаў студэнтаў у нашым інстытуце, якія б чыталі Леніна. Было шмат тых, хто Ільіча цытаваў, а каб хто чытаў — не траплялісы.

Цытавалі, не чытаючы, цытавалі павырываныя з кантэксту сказы. Я чуў пра аднаго нашага студэнта Пашкова, які прачытаў «Капітал» Маркса. З таго студэнта ўсе пасміхаліся. Каб здаваць гісторыю камуністычнай партыі і навуковы камунізм, я прачытаў «Утопію» Мора, «Горад сонца» Кампанэлы і «Паходжанне сям'і, прыватнай маёмасці і капіталу» Энгельса. Ні Марксам, ні Леніным, ні Дзяржынскім я не спакусіўся. Усе яны былі для мяне чужымі. Адпаведна, мастакі, што іх малявалі, таксама былі мне далёкія.

Пантэон савецкіх багоў і святых я не ўспрымаў інакш як бутафорыю, створаную хцівымі халтуршчыкамі. Мяне хвалявалі іншыя пантэоны і багі. Я маляваў беларускіх паэтаў і рэвалюцыянераў, маляваў біблейскіх герояў, маляваў Дзеву Марыю. На першых курсах выкладчыкі спрабавалі мяне абярнуць у халтуршчыка, але ў іх не атрымалася. Пазней мае выкладчыкі замест Леніна пачалі маляваць Хрыста. Вобраз Ісуса зрабіўся для іх тварам халтуры нумар адзін. Добра, што тое здарылася пазней і мне не давялося адмаўляцца ад хрысціянскіх вобразаў з-за іх татальнай захалтуранасці. Калі нехта з выкладчыкаў ці студэнтаў мне казаў, што не важна, каго ты малюеш, а важна, як ты тое малюеш, я не пагаджаўся. Для мяне было важна не маляваць халтуры з лычом Ільіча.

## Ядзя

Яна — легенда сярод натуршчыц. Ядзя пазіравала ці не з самага адкрыцця нашага тэатральна-мастацкага інстытута. З дзяўчынкі-былінкі яна за трыццаць гадоў стала

мажной жанчынай. Венера з часоў палеаліту. Нашы далёкія-далёкія прашчуры маліліся на такія грудзі сёмага памеру, на такі жывот з глыбокім калодзежам пупка, на неабдымныя клубы. Ядзя была самай манументальнай з усіх інстытуцкіх натуршчыц, таму і пазіравала на маім манументальным аддзяленні. Па адукацыі Ядзя лічылася медсястрой. Ад той медсястры ў яе засталася любоў да белых халацікаў. Чысты хрусткі белы халат настройваў нас — стракатых і неахайных студыёзусаў — на працоўны лад, бо белая чысціня тканіны перагукалася з белымі аркушамі і палотнамі.

Хадзілі чуткі, што ў Ядзі ёсць сын — бязбацькавіч, напаўсіротка, байструк. Казалі яшчэ, што Ядзя нагуляла яго з нашым выкладчыкам жывапісу Іванам. Можа, яна і не гуляла з Іванам, але ён па два разы на семестр браў Ядзю на шматгадзінныя пастаноўкі і даваў добра зарабіць. Тут варта згадаць і тое, што Ядзя была самай дысцыплінаванай і выхаванай работніцай сярод натуршчыкаў. Не спазнялася, не прагульвала, не прыходзіла п'янай і не піла са студэнтамі, а калі і выпівала, дык тое засталося ў далёкім-далёкім пазамінулым.

Пра Ядзінага сына гаварылася, што той боўдзіла і гуляка, казалі, што бедная жанчына адна зарабляе і працуе без продыху, а ён, гад, забірае ў яе ўсё заробленае і прагульвае з сябрукамі. Ядзю студэнты шкадавалі, але не моцна, бо ніхто з нас таго гуляку не бачыў, а бачылі іншае і значна пазней. Бачылі, як старая і нямоглая Ядзя — узорная натуршчыца — поўзае па гарадскіх сметніках, шукае харч. Чаму яна стала бамжыхай? Чаму перастала пазіраваць?

На партрэт, на апранутую фігуру ўсе мастакі бралі б Ядзю з радасцю. Паміж Акадэміяй мастацтваў і сметнікам Ядзя выбрала сметнік. Такі выбар у найлепшай з натуршчыц. Цяжка паверыць, але гэта праўда.

## *ТРЭЦІ КУРС*

### Грамыка

Пейзажыст Віктар Грамыка зайшоў у майстэрню да сваіх студэнтаў, спыніўся каля эцюда з аголенай натуршчыцай і пачаў размахваць рукамі. Ён махаў рукамі так, нібыта падкідваў у паветра нікому не бачныя шары. Студэнты насцярожыліся. Насцярожылася нават флегматычная натуршчыца. Старэйшы са студэнтаў пасмеліўся папытацца: «Што?» — «Дапамагайце!» — адказаў Грамыка і працянуў падкідаць у паветра шары-невідзімкі. «Што дапамагаць, Віктар Аляксандравіч?» — «Думаць! Дапамагайце мне думаць!»

### Лапшан

Быў цёплы кастрычніцкі вечар. У такі вечар на свежым паветры добра п’ецца віно. У маладосці я любіў выпіць пад адкрытым небам, выпіць з рыльца паўбутэлькі віна, каб другую палову выпіў мой сябра. У часы студэнцтва ў мяне было шмат сяброў, з якімі віно пілося на вуліцы. Выпіваеш, закочваеш пад лаўку пустую бутэльку і выпраўляешся ў вандроўку па Мінску. Знаёмішся з дзяўчатамі. Збіраеш грошы на другую шклянку віна. Спяваеш. Мы шмат спявалі. Сустракаеш знаёмых. Каля кінатэатра

«Партызан» я сустрэў Сяргея Лапшана. Ува мне ўжо было паўбутэлькі вермуту, які я піў разам са Сцяпанам. Мы прапанавалі Сяргею разам выпіць, адно кепска: грошы ў нас скончыліся. Сяргей сказаў, што сам піць не хоча, але ён можа наліць мне гарэлкі. «Табе налью, а яму — не!» — сказаў як адрэзаў. Я падумаў, што змагу ўгаварыць Сяргея наліць чарку і Сцяпану. «Яму не налью, бо ён не мастак! Ты — мастак, табе налью. Сцёпа не мастак...» За такія словы Сцяпан пакрыўдзіўся на Лапшана: «Я не мастак? Гэта ты не мастак! Ідзіце вы на фіг са сваёй гарэлкай, мастакі хeравы!» Аблаяў ён нас і пайшоў на бульвар, засыпаны жоўтым лісцем.

Я паваloкся ў майстэрню да Лапшана. У яго сапраўды пад сталом хавалася бутэлька гарэлкі. Закускі не было, таму я не змог выпіць яе ўсю. Піў. Глядзеў на белыя планшэты з каляровымі геаметрычнымі фігурамі, якія паказваў Сяргей. Я хваліў яго лаканічны жывапіс. Мы разумелі, што яго хваліць гарэлка, якой частуюся, але ўсё адно нам было ўтульна ў маленечкай неахайнай майстэрні. Мы былі маладымі і верылі, што наперадзе нас чакае вялікае жыццё мастакоў.

## Юзя

Міхась Раманюк выкладаў гісторыю замежнага мастацтва па-беларуску. Перад іспытам ён урачыста абвясціў, што ўсім, хто адкажа на роднай мове, будзе пастаўлена выдатная адзнака. Тым разам першы набраўся смеласці Раман Заслонаў, ён падышоў да выкладчыцкага стала, набраў поўныя грудзі паветра і пачуў: «Раман, ты выдатна ведаеш мастакоў і карціны, таму раскажы нам, як і дзе ты адпачываў

летам». Заслонаў паравёў дух і пачаў: «Летам я з бацькамі ездзіў у Крым. Я адпачываў на юзе...» — «І як Юзя?» — не стрымаўся Слава Лямачка, і паўднёвая крымская Юзя назаўжды прыляпілася да Заслонава.

## Майстар Жукаў

Калі мастак алейнымі фарбамі перамалёўвае фотаздымак і робіць на партрэце шклянападобныя вочкі з бялюткімі блікамі, мяне гэта зусім не радуе. Ёсць у такім падыходзе да партрэтаў вайсковая нямецкая самадзейнасць, саманадзейнасць і тупасць. Яшчэ можна сказаць і пра фанабэрыстасць. Падобная пыхлівасць праявілася ў натуралістычных палотнах Цыглера і Шылава, такая фанабэрыстасць назіралася і ў студэнта з жывапіснага аддзялення Жукава. Ён залічваў сябе ў шэрагі геніяльных партрэтыстаў і ў час знаёмства называў сябе не інакш як майстар Жукаў. На першым курсе фатаграфічная натуралістычнасць выглядала нават вясёлай, і выкладчыкі спадзяваліся, што «майстар» неўзабаве адкіне падобны падыход да творчасці. Дарма спадзяваліся. Жывапісец Жукаў не толькі сябе лічыў за генія, ён яшчэ і выкладчыкаў лічыў за бяздарных ідыётаў. Хадзіў сярод нас па інстытуцкіх калідорах такі сабе мярзотны пэцкуль з паскуднымі партрэцікамі пад пахай, але падобная дрэнь чамусьці ўражвае і доўга помніцца.

## Канарэечны колер

Сяргей разгульваў па інстытуце ў кашулі атрутна-жоўтага колеру. Такі паскудна-жоўты ў народзе завуць канарэечным. Падчас летніх

вакацый Сяргей апынуўся ў бойцы. Яна была жудасная, з нажамі, крывёю і смерцю. Пасля той страшнай бойкі хлопца судзілі і пасадзілі. У інстытуце казалі, што Сяргей парэзаў чалавека, той Сяргей, які насіў кашулю канарэечнага колеру.

## Нямцоў

Пакуль вучыўся ў інстытуце, я любіў заставацца вечарамі ў сцішаным будынку і маляваць. Часам мне ўдавалася ўгаварыць выкладчыкаў аплачваць натуршчыцу на вечаровы малюнак. Добра было маляваць з выкладчыкам Віктарам Нямцовым. Натуршчыца была найлепшая, бо плацілі мы ёй за кожную гадзіну падвоеную стаўку. Майстэрня невялікая, але дагледжаная, і займаліся мы ў ёй толькі ўтраіх: Тамара Карэлкіна, Вова Гавазюк ды я. Настрой быў выключна працоўны, бо ніхто ў нашай чыстай і светлай майстэрні нічым не злоўжываў. Вечаровы малюнак быў толькі вечаровым малюнкам. Вядома, выкладчык заставаўся выкладчыкам... Запомніліся мне дзве выкладчыцкія парады ад Віктара. «Не куры ў прыбіральні, бо ад усяго інстытута запомняцца адны прыбіральныя перакуры!.. Мы ўсе чужыя і розныя, але трэба шукаць кропкі сутыкнення, каб паразумецца». З Нямцовым мы паразумеліся якраз на вечаровым маляванні аголенай бландзінкі.

## Тулбішча

Па тэатральна-мастацкім інстытуце гуляла слова «тулбішча». Спраўныя майстры зляпілі яго з рускага «туловища» і беларускага «тулава».

Новае слова ляпілі, бо маляваць «тулава», «туловище», «корпус» і «торс» было сумнавата, а маляваць «тулбішча» — крыху весялей. Пра тулбішча я згадаў, калі прачытаў у «Слоўнічку расейска-беларускіх адпаведнікаў» паэта Алега Мінкіна: «Место (где ссыпают) — ссы‘пішча». У Мінкіна — ссыпішча, а ў нас было тулбішча.

## Марачкін

У мастака павінны быць фантазіі, мары і спадзяванні. Мастак мусіць верыць у сваю зорку, а інакш — ну які ён мастак? Без веры ў пуцяводнае зорнае святло замест мастака будзе ў нас цынічны вытворца каштоўных элементаў для аздаблення інтэр’ераў і экстэр’ераў...

Малады жывапісец Аляксей Марачкін, безумоўна, верыў у сваю мастакоўскую, настаўніцкую і асветніцкую місію. Разам з сябрамі-паплечнікамі ён паспяхова ладзіў перасоўныя выставы. Марачкін быў пераканаены, што людзі прыйдуць на ягоныя выставы, пабачаць там тутэйшых герояў і стануць заўзятымі патрыётамі Беларусі. Замест Леніна, Дзяржынскага і Жукава на выставах, зладжаных Марачкіным, былі Гусоўскі, Цётка і Багдановіч. Замест афіцыёзнага і савецкага на тых выставах дамінавала беларускае і лірычнае. Выставы мелі сапраўдную, а не прымусовую папулярнасць. Марачкін вазіў карціны па Беларусі, ажно пакуль у горадзе Барысаве вандалы не папсавалі творы. Уночы яны залезлі ў залу з карцінамі, паскідалі палотны са сцен на падлогу і нажом у партрэце Цёткі выразалі вока. Марачкін карціну аднавіў, але імпэт, з якім ладзіліся першыя перасоўныя выставы, у Аляксея прапаў.

Можна зразумець мастака. Дарэчы, можна зразумець і вандала, які рэзаў твар беларускай палымянай рэвалюцыянеркі. Барысаўскі вандал бараніў свой савецкі светапогляд, бараніў свайго камуністычнага крамлёўскага маразматычнага цара, бараніў ад слоў Цёткі, якія за семдзесят гадоў не страцілі актуальнасці:

*З той пары Масква, Варшава,*
*Рыга, Вільня, Бак, Лібава,*
*Беларусь, Літва, Расея*
*Гоняць вон цара-зладзея!*

Вандал напаў на карціну, бо заклік Цёткі:

*Чую яшчэ голас з неба,*
*Што цара павесіць трэба!* —

спалохаў яго. Моцна. Так спалохаў, што прымусіў неадкладна дзейнічаць вострым нажом. Вандал баяўся, што словы Цёткі «Стану песняй у народзе...» увасобяцца ў рэальнасць. У вандала, як і ў мастака, таксама ёсць фантазіі і спадзяванні. У марах вандала шмат вайны, гвалту і разбурэнняў, а ў марах мастака шмат перамог, стваральніцтва і будаўніцтва. Дзіўна, што за час майго даволі доўгага жыцця гэтыя мары абодвух зусім не змяніліся.

## *ЧАЦВЁРТЫ КУРС*

### Раманка

Нават кепскія выкладчыкі помняцца добра. Быў у інстытуце такі Расціслаў Раманка, выкладаў у манументалістаў працу з матэрыяламі.

Ніводнай вартай ці патрэбнай парады пра вітражы, фрэскі, мазаікі я ад Расціслава не пачуў. Нешта вычытвалася ў кнігах, пра штосьці распытвалася ў старэйшых студэнтаў і мастакоў. Калі што напраўду і цікавіла Расціслава Раманку, дык гэта турызм з вандраваннямі ў гарах ды ранішнія прабежкі на доўгія дыстанцыі. Пра турызм і прабежкі Раманка мог расказваць бясконца. З ягоных доўгіх прамоў я вылучыў адну параду: бегаць трэба так, каб потам абліцца, каб цела выціснула з сябе разам з потам і розную атруту. Можа, некаму такі вынік ранішніх прабежак і замалы, а мне дык больш чым дастатковы.

## Кій

Калі найлепшыя натуршчыцы адпрацавалі ў інстытуце ўсё сваё жыццё, дык найлепшы натуршчык — Валодзя па мянушцы Кій — працаваў адзін вучэбны год. З натуршчыкамі мужчынамі і хлопцамі былі вялікія праблемы, бо мужчыны лічылі пазіраванне ганебным заняткам. Таму аматар гульні ў більярд, калекцыянер манетак, паштовак, марачак Валодзя быў выключэннем. Ён меў фігуру антычнай скульптуры, умеў маўчаць і трымаў слова. Вова, відавочна, моцна любіў аднаго чалавека — сябе. У яго нікога, акрамя сябе самога, у свеце і не было. Мама ў Вовы была, але яна была роўна настолькі, наколькі любіла свайго прыгажуна Вовачку. Ён прыйшоў у наш інстытут з клуба калекцыянераў, зарабіў у нас роўна столькі, каб разлічыцца з нейкімі там пазыкамі, і сышоў у свой клуб. Увесь чацвёрты курс я прамаляваў Вову. Пашанцавала, што ў мяне ў натуршчыках хадзіў Кій.

## Рой

У інстытуце мне шанцавала з выкладчыкамі. Большасць з іх былі таленавітымі, адказнымі, разумнымі. Вучоба прыносіла радасць. Маляваліся перспектыўныя планы. Здавалася, што кепскае ніколі не пераможа добрага. Насамрэч ніякай наіўнасці ў мяне не было. Вырадкаў, вычварэнцаў і замаскіраванай свалаты ў тэатральна-мастацкім хапала. Сярод кепскіх выкладчыкаў вылучаўся дэкан Рой. Свой прадмет — перспектыву — ён ведаў зусім блага. Выкладаў дрэнна. Недальнабачныя студэнты яго любілі, бо ён дазваляў прагульваць і зусім не ведаць перспектывы.

На таго гнілазубага недарэку Роя я б, можа, асаблівай увагі не звярнуў, каб ён не закрыў маю выставу. Яна была зусім маленечкая, складалася з дзясятка фотаздымкаў, на якіх я панапісваў тушшу кароткія вершы накшталт хайку. Фотаздымкі замацаваў кнопкамі так, як зазвычай на дошках у інстытуцкім фае замацоўваліся розныя абвесткі. Замест абвестак я разам з Аленай Бяляевай выставіў фотавершы. Мы зрабілі новы жанр у мастацтве і вельмі ім ганарыліся.

Ніякіх дазволаў я ні ў кога не прасіў.

Планшэт з фотавершамі прастаяў у фае паўгадзіны. Калі я спытаўся ў вахцёркі, хто і куды знёс фотавершы, яна сказала, што планшэт забраў Рой, які сварыўся на ўвесь інстытут. Давялося пайсці да дэкана і пацікавіцца ягонай бурнай незадаволенасцю. Рой паказаў на сіні пейзажны здымак, на якім чорнай тушшу было напісана: «Восень. Жоўты ліст паляцеў...» — «Антысаветчына!

Ты, Адамчык, зрабіў у інстытуце антысавецкую выставу!» Такі падыход да краявідных фотавершаў мяне агаломшыў. «У чым Вы бачыце антысаветчыну?» — «Я даўно за табой назіраю. Ты баламуціш студэнтаў. Ты займаешся фармалізмам. Цяпер ты зладзіў антысавецкую выставу!» — «Дзе тут антысавецкасць? Чаму ў надпісе “Восень. Жоўты ліст паляцеў...” Вы бачыце антысавецкасць?» — «Ты думаеш, Рой ідыёт? Думаеш, Рой не разумее, што ў слове “паляцеў” чуецца слова “паліцай”? Рой усё разумее! Ты прапагандуеш фармалізм і паліцаяў...» Далей слухаць дэкана я не стаў. Забраў планшэт з фотавершамі і пакінуў кабінет. Чаму Рой не нарабіў ляманту пра «паліцайскую антысавецкасць»? Не ведаю. Можа, параіўся з кім разумным? Пасля закрыцця выставы фотавершаў я перастаў з Роем вітацца. Назаўжды. Мяне не дзівіла, калі нехта са студэнтаў казаў на дэкана замест Рой — Гной.

## Зоя

Зоя Залатыя Зубкі мела скульптурнае цела з невялічкімі круглымі цыцкамі і моцнымі, нібыта надзьмутымі, сцёгнамі. На доўгай шыі Зоя насіла маленечкую ўсмешлівую галоўку, поўную сапраўдных залатых каронак. Залатазубы рот Зоі не закрываўся, і з яго лілася розная пошасць. Залатыя Зубкі вучылася на журфаку, таму пошасць лілася самая разнастайная: палітычная — «Брэжнеў склеротык і маразматык», эратычная — «ты потны і саслізгнеш са сваёй бабы», эканамічная — «на зарплату хер пражывеш»... Каб маляваць, пісаць або ляпіць натуршчыцу Зою, трэба

было навучыцца адключаць слых. Калі слых не адключаўся і ты чуў яе трэлі, дык трэба было маўчаць і не адказваць на Зойчыны закіды. Не адказваць было цяжка. Зоя выбірала самага нястрыманага і пачынала даставаць: «Прыехала твая самачка? Пры-е-ха-ла. Мне сказалі — прыехала і варыць табе ўкраінскі боршч! Ты малюеш маю голую дупу, а твая ўкраінская сучка стаіць каля пліты і не ведае, як ты ясі мяне сваімі вочкамі. Каб самка пабачыла, як ты неадрыўна глядзіш на маю акуратную похву, яна б атруціла боршч і накарміла цябе, вырадка, атрутай. Ты здыхаў бы ў курчах. Самка не бачыць і не ведае, яна зварыць абед і накорміць цябе. Вы наясцёся і пачнеце любіцца. Ты абальешся потам, зробішся слізкім і будзеш саслізгваць са сваёй таксама потнай і слізкай самачкі! Потная грэбля! Горш не бывае!!!»

За падобныя маналогі Зою Залатыя Зубкі ганялі. За маналог пра ўкраінскую самачку студэнт Валодзя выпацкаў яе ў чырвоную фарбу так, што Зоя выглядала нібыта аблітай украінскім баршчом. Яна голая лётала па інстытуце, скардзілася дэкану Рою, пагражала падаць у суд, патрабавала, каб яе памылі. Зою мылі. Яе так-сяк адшаравалі і адмылі ад уедлівай алейнай фарбы краплак. Думалі, што хоць дзень пасля скандалу Зойка памаўчыць. Рэжым маўчання не для Зоі. І толькі адзін ратунак з такімі, як Залатыя Зубкі, — адключаць слых.

## Залозны

Пры ўсёй злоязычнасці Зоя была добрым і шчодрым чалавекам. Яна нават пазычала студэнтам грошы. Але ж язык... Становіцца голая

Зоя на подыум і кажа: «Мікола Залозны адтрахаў натуршчыцу Тамарку проста на стале. Зацягнуў на сваю кафедру жывапісу, распрануў, расклаў на стале і... Сама Тамарка расказала. Папярэдзіла, каб я да жывапісцаў не хадзіла пазіраваць, бо Залозны не падпісвае ведамасць на грошы, пакуль не ўставіць...» Чорт мяне падаткнуў заступіцца за Мікалая Залознага, мусіць, гэта з-за ягонай дачкі Наташы, якой я крыху сімпатызаваў: «Зой, Тамарка цябе палохае, каб ты не займала яе месца. Залозны малы ростам, яму нязручна трахаць бабу, раскладзеную на стале...» Я быў падумаў, што цяпер з Зойкінага залатога рота пальюцца доказы распуснасці Мікалая Рыгоравіча Залознага. Не паліліся: яна пагадзілася з тым, што Тамарка знарок яе палохае прыдуманым гвалтоўным сексам.

## Часткі і цэлае

Разглядаю людзей. Прывучыўся яшчэ ў мастацкім інстытуце ўважліва глядзець на постаці, на рукі і пальцы, на твары, на вочы і насы. Магу доўга разглядаць чужое вуха. Шмат хто адчувае няёмкасць ад майго пільнага ўглядання, але мяне гэта не спыняе. Мастак заўсёды знаходзіцца ў пошуках натуршчыка, вобраза, фактуры. Пачыналася ўсё з малявання на вакзалах, у залах чакання, на прыпынках, на кірмашах. Цяпер я больш назіраю і запамінаю, больш запісваю, чым малюю. Мяне могуць уразіць рукі з кароткімі пальцамі ці крывы доўгі нос. Калі ўражвае частка, тады мне не моцна падабаецца цэлае. Выразная частка перакрывае ўражанне ад агульнага. Калі ты ўпадабаў нейкі фраг-

мент, верагоднасць таго, што ты палюбіш астатняе, зусім малая. Калі ты нешта па-сапраўднаму любіш, дык любіш усё адразу і розныя дробныя недасканаласці табе не замінаюць любіць.

## Леніна

Да выкладчыцы Леніны Міронавай я заўсёды адчуваў глыбокую павагу. Яна вучыла студэнтаў любіць колер. Яе вучні выдатна разбіраліся ў самых складаных колераспалучэннях і ведалі шмат таямніц ап-арту, створанага і распрацаванага Віктарам Вазарэлі. Кабінет колеразнаўства — царства Леніны — мне падабаўся, бо ў ім праходзілі заняткі па архітэктурнай кампазіцыі, якія вёў Алег Хадыка, і ладзіліся таемныя вечаровыя семінары, дзе студэнты разам з выкладчыкамі паглыбляліся ў складаныя тэмы кшталту паэзіі ператварэнняў у літаратурных казках. Хадыка і Міронава былі ўзорнымі выкладчыкамі. Яны пісалі і друкавалі цікавыя навуковыя працы, але ў мяне быў свой шлях.

Маё вялікае захапленне Міронавай скончылася на калідоры. Я вярнуўся на заняткі пасля акадэмічнага адпачынку і пабачыў у калідорах нашага інстытута цёмна-зялёныя сцены. Частка сцен была зялёная, а яшчэ частка — цёмна-вішнёвая. У абодвух колерах прысутнічала чорная глухата. Давялося папытацца: «Хто прыдумаў пафарбаваць ампірныя інтэр’еры ў безнадзейныя цёмныя колеры?» У адказ я пачуў, што фарбы для маляроў замешвала сама Леніна. Я прайшоўся каля зялёна-вішнёвых сцен і зразумеў, што мая вучоба ў Міронавай скончылася.

## Ліберман

Ігар Ліберман прыехаў у Мінск з Кішынёва. У Малдове тады не было вышэйшай адукацыі для мастака. Наш тэатральна-мастацкі мусіў браць некалькі чалавек з Кішынёва. Ігара ўзялі з пэўнай радасцю, бо сярод графікаў цяпер вучыўся чалавек з Малдовы і яўрэй — два ў адным. Раней за Лібермана на графіку паступіла Ніна з Кішынёва, гэтаксама два ў адным — дзяўчынка і з Малдовы. Калі Ніна ўсё рабіла добра і выдатна, дык Ігар лепш за ўсё астатняе выдрапваў і выдрукоўваў афорты. Для Лібермана не было ў свеце нічога больш прывабнага за падрапаны іголкаю і пратраўлены кіслатою цынкавы ліст. Па сто разоў на дзень Ліберман адкрываў пенал і любаваўся сваімі іголкамі. Кожная іголка ў Ігара мела сваё таемнае старазапаветнае імя накшталт Махлы, Ноа, Хоглы, Мілкі ці Тырцы. Кожная была дарагая і непаўторная. Найлепшыя афорты Ліберман прысвяціў творам Гарсія Маркеса «Сто гадоў адзіноты» і «Восень патрыярха». Каб наблізіцца да пісьменніка, Ліберман угаварыў мяне пазнаёміць яго з адным з перакладчыкаў «Восені патрыярха» — Валянцінам Тарасам. Добра, што Тарасу спадабаліся афорты Лібермана і нам не давялося чырванець за сваю назойлівую цікаўнасць.

## Смачная рыса

Мне, каб намаляваць сакавітую і выразную рысу, каб яна дакладна адсякла адзін элемент выявы ад іншага, трэба крышку прыкусіць

сабе губу. Так я максімальна засяроджваюся і выводжу на плоскасці смачную, дакладную, патрэбную рысу. У кожнага мастака ёсць свой сакрэт заглыблення ў працу. Нехта можа пра яго расказаць, а нехта саромеецца свайго дзівацтва. У час вучобы ў інстытуце я б не рызыкнуў падзяліцца такім сумнеўным сакрэтам з аднакурснікамі, бо, акрамя здзеклівага смеху і злосных кпінаў, нічога не пачуў бы.

## Хадыка і халтура

Настаўнік Хадыка раіў сваім вучням першую чарку на застоллях падымаць за халтуру, якая корміць, поіць і апранае. Слухаліся і падымалі... Самыя слабыя з вучняў паспіваліся. Пасрэдныя схалтурыліся і, можна сказаць, пазакопвалі таленты ў зямлю. Адзінкі знайшлі сілы, каб не піць і кінуць халтуру.

##Канчалоўскі і Бараноўскі

У рускага кубіста Пятра Канчалоўскага ёсць выказванне: «Адна справа, калі проста пішаш натуру, гэта справа галоўным чынам фізіялагічная. Зусім іншае ў тых выпадках, калі спасцігаеш прыроду». Мастакоў, якія проста пісалі натуру, мы ў інстытуце называлі алкаголікамі ў жывапісе. Такія мастакі атрымліваюць вялікае задавальненне ад самога працэсу натуралістычнага жывапісання. Яркімі прадстаўнікамі падобных захапленняў былі ў нас Бараноўскі, Сулкоўскі і Ткачэнка. Яны выязджалі на азёрную Браслаўшчыну і, стоячы ў беларускіх краявідах, пераносілі з палітраў на палотны дзясяткі

кілаграмаў даражэзнай фарбы. Анатоль Бараноўскі быў безумоўным лідарам у справе пераносу фарбы з палітры на палатно.

## Рая

Большасць натуршчыкаў і натуршчыц старанна хавалі свае інтымныя адносіны са студэнтамі ды выкладчыкамі. Большасць пра інтым маўчала, а натуршчыца Рая расказвала. Млявым, глыбокім, салодкім голасам яна расказвала пра тое, як усе мастакі ў яе былі закаханы, як яны любілі яе доўгія ногі і ахматаўскія вочы. Рая казала, што Вася Хмялеўскі дарыў ёй белыя ружы. Хмялеўскі мог прынесці бутэльку віна, мог падараваць жанчыне хустку, бо патрэбная рэч, але ружы Вася нікому не дарыў, не ягоны стыль. Ружы — гэта мара ў стылі рудавалосай натуршчыцы Раі. Калі яе паслухаць, дык з белымі ружамі да яе прыходзіў і графік Селяшчук, і скульптар Жбанаў, і нават доўгавалосы інтэр'ершчык Ганяеў. Усе прыносілі ружы і запрашалі ў рэстаран, усе гублялі галовы ад Раінай абаяльнасці, усе прапаноўвалі руку, грошы і сэрца, але яна чакала прынца, а не мастака. Для мастакоў яна назаўжды застанецца натуршчыцай, а яна марыць стаць прынцэсай.

У артыстаў Рая брала старыя тэатральныя касцюмы. Яна любіла пазіраваць у вобразе каралевы. Праўда, за апранутае пазіраванне плацяць меней, чым за пазіраванне аголенай, таму вобраз каралевы вельмі часта саступаў вобразу голай русалкі. З кім з мастакоў Рая любілася? Сур'ёзна яна не любілася ні з кім.

## Вішнёвая карціна

Абіраць вішні з самых высокіх галін баба Ядзя даручала мне, бо быў малы і лёгкі. Я вешаў на шыю алюмініевы бітончык, уздымаўся па лесвіцы, ставіў адну нагу на галіну і абрываў цёмныя, гладкія, бліскучыя ягадкі. Назбіранае перасыпалася з бітончыка ў таз. Мылася. Засыпалася цукрам. Ставілася на керагаз. Варылася на маленечкім агні. Драўлянай лыжкай баба Ядзя збірала з варэння шумок і вылівала яго на сподачак. Салодкім шумком можна было частавацца. Ні адна крамная цукерка не магла параўнацца з лыжачкай шчыльнага шумку, знятага з вішнёвага варэння. Яно налівалася ў шкляныя слоікі. Іх я заносіў у пограб, дзе яны ставіліся на паліцы чакаць зімы... Шмат разоў я марыў напісаць карціну з вішнямі. Каб і бітончык быў, і таз, і слоікі, і жанчыны з голымі да плячэй рукамі, бо лета, бо сонечна і горача. Вішнёвую карціну так і не напісаў. Тэма з вішнямі нідзе не прыдалася, ні ў вучылішчы, ні ў інстытуце.

# *ПАСЛЯ ЗАКАНЧЭННЯ*

## Чорны стэнд

У музеі Беларускай акадэміі мастацтваў павінен быць і Чорны стэнд з трыма экспанатамі. Маладых людзей, што намерыліся паступаць на мастацкі факультэт акадэміі, трэба абавязкова падводзіць да гэтага стэнда і паказваць экспанаты...

Малаток Пушкіна. Той самы, якім студэнт Пушкін разбіў вітраж «Дзева Марыя». Яму

загадалі знішчыць дыпломны праект свайго папярэдніка. Пушкін знішчыў. Ён яшчэ і выхваляўся тым, што біў і рэзаў на кавалкі шкло з таго шматколернага вітража. Такімі малаткамі разбіваюцца і знішчаюцца працы студэнтаў, што праяўляюць волю і ствараюць мастацтва насуперак парадам і загадам выкладчыкаў. Усё, што не падабаецца выкладчыкам, знішчалася, знішчаецца і будзе знішчацца...

Сякера Еўтуха. Тая самая сякера, якой студэнт Еўтух адсёк сабе пальцы на левай руцэ. Ён паклаў руку на калодку і намерыўся зрабіць якасны скачок у творчасці. Адсякаючы пальцы, ён думаў, што пазбавіцца не толькі пальцаў, але і ўсяго старога ды малапатрэбнага. Еўтух праг абнаўлення. Ён закапаў на гародзе свае старыя палотны разам з адсечанымі пальцамі. Кубістычнае збіванне, зробленае цяжкай сякерай на дубовай калодцы, не спрацавала. Еўтух не здолеў зрабіць якаснага скачка. Ён захварэў і ледзь-ледзь дайшоў да атрымання дыплома...

Вяроўка Дзялендзіка. Тая вяроўка, на якой студэнт Валянцін Дзялендзік павесіўся ў майстэрні. Яго прыніжалі брыдкімі заўвагамі і абражалі кепскімі адзнакамі. Яго загналі ў кут, растапталі і давялі за самазабойства...

Вяроўка, сякера, малаток на Чорным стэндзе — тры жудасныя сімвалы нашага Тэатральна-мастацкага інстытута, які пераназвалі ў Беларускую акадэмію мастацтваў. Той, хто вырашыў прайсці праз яе, павінен пра іх ведаць, абавязкова.

## Юра

Студэнт Юра напісаў карціну. Доўга працаваў. Шмат перарабляў. Калі праца была амаль завершанай, змываў фарбы і пачынаў проста з нуля. Мне казаў, што праўдзівы мастак павінен пераблытаць для сябе дзень і ноч, павінен працаваць суткамі напралёт, павінен цалкам належаць адной карціне. Для мяне самаахвярнасць Юры была відавочнай і ўзорнай. Я ганарыўся нашым сяброўствам. Мяне, праўда, крыху насцярожваў той факт, што мала хто з гледачоў захапляўся гатовай карцінай. Хваліць хвалілі, але стрымана. Добра-добра, але не надта. Далей болей: Юра выкінуў карціну. Ён пакінуў яе ў інстытуцкім калідоры, а прыбіральшчыцы парвалі яе і выкінулі на сметнік. Калі я пабачыў рэшткі карціны на сметніку, дык нават абурацца не стаў. Нават не перапытваў Юру... Чаму ён так жорстка абышоўся са сваім творам?

Адказ на старое пытанне знайшоўся ў бібліятэцы. Гартаў я пажоўклыя старонкі невялічкага альбома, выдрукаванага ў Германіі, і пабачыў у ім рэпрадукцыю... Яна моцна нагадвала карціну Юры. Элементы былі складзены крыху ў іншым парадку, але гэта былі тыя ж элементы. Праз трыццаць пяць гадоў я сам сабе адказаў на пытанне пра знішчаную аўтарам карціну. Адказ знайшоўся, але веды не ўзрадавалі, зусім.

## Гірка і Саа

Мае аднакурснікі па інстытуце Ігар Цішын і Сяргей Грыневіч, якіх мы называлі Гірка і Саа,

выдатна перамалёўваюць з фотакартак. Яны выбіраюць фотакарткі зорак ды кіназорак і перамалёўваюць іх на вялікія палотны. Вялікія зоркі, перамаляваныя з маленькай карткі на прасторнае палатно, выглядаюць прывабна, таму на выставах Саа і Гіркі шматлюдна. Усім прыемна выпіць келіх віна на фоне зорак. А яшчэ... Яшчэ можна сказаць, што карціны Саа і Гіркі падобныя да кінаафіш. Мы ўсе любілі і любім кіно. Мы любім нават кепскія кінаафішы, намаляваныя невядомым мастаком, бо на іх ёсць зоркі, а ў кінатэатры нам пакажуць кіназказку з афішнымі зоркамі і добрым заканчэннем. На выставах Гіркі і Саа гледачы таксама чакаюць кіно, толькі замест кіно ім наліваюць віно, што таксама добра.

## Шараеў

У Грышы Шараева заўсёды былі болькі. Ці то на руцэ, ці то на шчацэ, ці то на шыі. Ён іх раздзіраў. Не даваў тым болькам саспець, не даваў як след загаіцца. Мяне гэтае самараздзіранне Шараева бянтэжыла. Ва ўсім астатнім Грыша быў цалкам адэкватны. Добра маляваў, добра пісаў, добра кампанаваў... Калі мне сказалі, што найлепшыя роспісы і мазаікі ў Магілёве зрабіў Грыша, я не засумняваўся. Але ж гэтыя раскалупаныя болькі... Спадзяюся, што ў Магілёве яны ўсе пазагойваліся.

## Кожух і завершанасць

Валодзя Кожух, седзячы пасярод старой запыленай майстэрні, сказаў мне, што ў яго прапала жаданне дапісваць палотны. Каля сцяны стаяў вялікі стос незавершаных карцін.

«Пагляджу на іх, — Валодзя кіўнуў галавой у бок распачатых палотнаў, — сам у сябе запытаюся... Каму гэта ўсё трэба? І кладу пэндзаль на палітру. Амаль ніхто не ходзіць на выставы. Ніхто не купляе карціны. Нашто іх дапісваць? Распачаць працу над новым палатном мне яшчэ цікава, а дапісваць — не!» — «У мяне ўсё наадварот. Я доўга не магу падысці да палатна. Малюю. Раблю эскізы. Адкладаю пачатак работы, але калі пачну пісаць карціну, дык яна мне не дае спакою, ажно пакуль не скончу. Незавершаная карціна займае ледзь не ўсе мае думкі, нават у сне я пішу і пішу. Як толькі скончу, цікавасць да карціны прападае цалкам. Таму мне не шкада іх дарыць і прадаваць. Не... Чакай... Дарыць — шкада».

## Ісачанка

Валодзя Ісачанка быў адным з самых сур'ёзных студэнтаў у нашым вучылішчы, а пазней — і ў інстытуце. Усё, што ён рабіў, атрымлівалася грунтоўна і важка. Каб не выглядаць залішне правільным і выдатным, Ісачанка хаваў сваю правільнасць за формулай «усё трэба рабіць так, нібыта робіш гарэзліва і гулліва». Валодзя і напраўду моцна стараўся выглядаць вясёлым і нязмушаным, але за знешняй гуллівасцю стаяў такі сабе настаўнік з непарушнымі перакананнямі. Ісачанка заўсёды ведаў адказ на пытанне, дзе заканчваецца дабро, а дзе пачынаецца зло. Для яго адказы былі навідавоку: ён бачыў дабро і зло так, як мы бачым святло і цень. Таму пасля інстытута Валодзя пайшоў у мастацкую школу, каб вучыць школьнікаў акадэмічнаму маляванню.

## Дзенісенка і мармуровая калона

Калону ён зрабіў са штучнага мармуру. Ён спец па штучных камянях. Вучыўся ў Грэцыі. Цяпер Беларусь мае майстра па працы са штучнымі камянямі. Калі каму трэба — да яго, да Дзенісенкі. Зробіць на найвышэйшым штучным узроўні. Каб прадэманстраваць сваё ўменне, майстра зрабіў калону: пад ёю — база, на ёй — карынфская капітэль. Усё належным чынам выштукавана, і аканты на месцы, і валюты як мае быць закручаны. Цуд! Дзенісенка заўжды мог зрабіць цуд.

У маладосці ён уваходзіў у гурт мастакоў, што займаліся рэвізіяй кубізму. Такія «кубізмы», як пісаў той гурт, ніхто не мог напісаць. Сарока, Астравух і Дзенісенка былі найлепшымі рэвізорамі кубістычнага жывапісу. Караткевічу падабаліся іх палотны. Казаў, што яны такія сакавітыя і духмяныя, як разрэзаныя на кавалкі вялізныя беларускія гарбузы. Караткевіч ведаў смак жыцця, таму і павесіў у сваім кабінеце некалькі палотнаў маладых рэвізіяністаў, як цяпер кажуць — постмадэрністаў. Ці паставіў бы Караткевіч у сябе ў кватэры карынфскую калону? Пытанне без адказу...

Дзенісенка сваю калону выставіў у дарагой мэблевай краме. Праз пару дзён вырашыў адведаць выстаўлены шэдэўр. Апрануўся ўрачыста, прыйшоў. Ахоўнік з прадаўшчыцай новыя. Дзенісенка ўзяў ды спытаўся ў іх: «Ці можна набыць калону? Ці можна сустрэцца і пагаманіць з аўтарам?» Ахоўнік не даў прадаўшчыцы слова сказаць, сам усё патлумачыў: «Калона не прадаецца! Кропка. Яна страшэнна дарагая і ўпрыгожвае краму. Заказаць калону

таксама нельга, бо майстар памёр!» Дзенісенка знямеў, збялеў і пакінуў краму. Цяпер ён шмат дзе бачыць знакі смерці, бачыць іх нават там, дзе іх яшчэ і няма.

## Кастусь

Перадапошні дзень лета быў цёплы, сонечны і ціхі. Мастакі развіталіся з таварышам — Кастусём Шаранговічам. Добра, калі пахаванне праходзіць у сонечны дзень і можна ў цяжкія хвіліны бачыць светласць жыцця ў велічнай прыродзе. Кастусь быў чалавекам добрым і прыгожым. Яго любілі жанчыны. Ён любіў жанчын і мастацтва. Ён цудоўна маляваў і аздобіў малюнкамі і акварэлямі шмат кніжак, большасць з якіх была выдадзена для дзяцей. За паўтара года да смерці Кастусю паставілі дыягназ «рак». Ён мужна ўспрыняў прысуд і вырашыў упарадкаваць зямныя справы. Кастусь адрамантаваў дом і зрабіў лодку. Мастакі казалі, што лодка атрымалася шэдэўрам, які варта выставіць у музеі. Ёсць людзі, якія перад сыходам высякаюць сады і разбураюць дамы. Яны дзейнічаюць па прынцыпе «калі не мне, дык нікому». Кастусь быў цалкам іншы, ён пакінуў нашчадкам адрамантаваны дом і новую лодку. Веру: атрымаўшы спадчыну, удзячныя нашчадкі зробяць першую персанальную выставу малюнкаў і акварэляў Кастуся Шаранговіча, каб з'явілася нагода яшчэ раз сказаць цёплыя словы пра добрага чалавека.

## Раманюк і «Мастацтва»

Калі Міхась Раманюк пачаў працаваць галоўным рэдактарам у часопісе «Мастацтва», дык

ён паабяцаў надрукаваць рэпрадукцыі з твораў усіх мастакоў, каго ведаў асабіста. Сваё абяцанне Міхась выканаў. Надрукаваў нават карціны тых, да каго ставіўся зусім кепска. Нават маленькую рэпрадукцыю з маёй карціны, напісанай у інстытуце, надрукаваў.

## Гена і харчо

Выпадкова даведваешся, што твайго выкладчыка кампазіцыі больш няма ў нашым свеце. Горка. Пякуча. У жніўні стаялі страшна спякотныя і задушлівыя дні. У такія дні шмат хто выпраўляецца ў прахалодны пясок. Ведаеш. Рыхтуешся. Але весткі пра смерць заўсёды нечаканыя. Заўсёды агаломшваюць. Так і вестка пра смерць Гены Жарына мяне проста прыбіла. Сяджу цяпер і думаю: а што ад яго засталося? Аздабленне станцыі метро, якое заклеілі рэкламай абутку і адзежы? Пара запыленых палотнаў у казённай майстэрні? Пара чаравікаў на газетцы? Гена заўсёды ставіў чаравікі на газету, такая ў яго была звычка. Яшчэ ад яго засталася гісторыя пра скрадзены ў гастраноме «Суп харчо».

Пачак каштаваў шэсць капеек. Але ў галоднага студэнта не было і гэтых капеек. Гена зайшоў у гастраном, што месціўся на першым паверсе пад інтэрнатам, і скраў «Суп харчо». Ён марыў яго зварыць, крыху астудзіць і з’есці. Мары не здзейсніліся. Гену злавілі прадаўшчыцы з пакупнікамі. Яго здалі ў міліцыю і судзілі. Гену судзілі за пачак з сухім змесцівам для прыгатавання грузінскага супу. Судзілі за крадзёж дзяржаўнай маёмасці ў памеры шасці капеек. Яму прысудзілі ўмоўны тэрмін і выключылі з тэа-

тральна-мастацкага інстытута. Праз год Жарына ў інстытуце аднавілі. Год ён згубіў. Такая гісторыя з грузінскім прысмакам і засталася ад мастака.

## Сярожа і саўгас

Далёка не кожны, хто доўга вучыцца на мастака, робіцца ім. Мой аднакурснік рыжы Сярожа дванаццаць гадоў старанна вучыўся, а мастаком не стаў. Не вытанцавалася, не здарылася, не адбылося. Спрабаваў. Тут, у Беларусі, спрабаваў. Перабраўся за мяжу. Там напружваўся, напінаўся і намаганні рабіў. Не прынялі. Не прызналі. Не зразумелі. Давялося пайсці ў вартаўнікі. Рыжы Сярожа набыў пісталет і стаў ахоўнікам. Сярод мастакоў Сярожка стаў легендарным чалавекам — узброеным вахцёрам. Ён адбыўся як вахцёр. Не так і кепска. Галоўнае — чалавек адбыўся. Толькі Сярожа Лапшан не зразумеў, што ён адбыўся. Ён вярнуўся ў Беларусь. Аформіў пенсію. Сядзіць і ўсё яшчэ думае, што ён мастак. Зрэшты, недзе ў глухім саўгасе пад Мазыром такі Сярожка можа лічы́цца і нават лі́чыцца сапраўдным спраўным мастаком. Трэба і пра такое сказаць, каб быць справядлівым да некалі рыжага, а цяпер зусім сівога Сярожы.

## Стасевіч і раніца

Прысніўся нябожчык — выкладчык жывапісу Іван Стасевіч. Ён запрасіў мяне выпіць разам бочкавага піва. У сне стаяла спякотнае лета. Пасярод паўразбуранага Мінска ўзвышалася на чорных гумовых колах вяліз-

ная металічная, шмат разоў фарбаваная ў жоўты колер бочка з надпісам «ПІВА». Вакол яе стаялі мужчыны ў цёмнай працоўнай вопратцы, толькі Іван Стасевіч быў у белым, нават панталеты ў яго на нагах і тыя былі белыя. Я адмовіўся ад шклянога куфля са светлым півам і прачнуўся. Першае, пра што я сябе спытаў раніцай: «Няўжо так выглядае рай?»

# НАСТАЎНІКІ

*Словы пра майстроў, у якіх я вучыўся*

## КАТКОЎ

*Словы пра мастака і настаўніка Сяргея Каткова*

### Святло

У студыі Сяргея Пятровіча Каткова было шмат святла. Вокны першага доўгага памяшкання выходзілі на поўдзень. У паўднёвым святле працавала малодшая група. Старэйшыя студыйцы займаліся ў квадратным памяшканні з вокнамі на поўнач. Паміж памяшканнямі меўся высокі, да самай столі, шырокі прагал, так што ў студыі Каткова паўночнае прахалоднае святло змешвалася з цёплым паўднёвым, ад гэтага там было шмат рэфлексаў, шмат паўтаноў, што надавалі студыі і студыйцам святочны настрой.

### Першая карціна

Маляваў я з самага ранняга дзяцінства. Маляваў для таты, каб маці ўкладала мае малюнкі ў лісты, што адсылала ў Маскву, дзе наш бацька вучыўся ў інстытуце на вышэйшых літаратурных курсах. Маляваў я шмат, але першую карціну паспрабаваў зрабіць толькі ў трэцім класе, калі прыйшоў у студыю да Сяргея Пятровіча Каткова. Там дзеці малявалі на вялікіх аркушах; такі бязмежны, як тады падавалася, аркуш узяў і я. У левым ніжнім кутку я намаля-

ваў славянскага асілка з кап'ём, а ў правым пачвару — чорта-татарына з крывой шабляй. Воіны стаялі ў чаканні двубою. Вялікае поле густа-зялёнай травы я паспрабаваў намаляваць маленечкім пэндзлікам. За першы свой дзень у студыі я зафарбаваў толькі трэць аркуша і моцна непакоіўся, што не паспею скончыць карціну за адзін сеанс. У памяці мая першая карціна з Асілкам ды Пачварнікам так і засталася нясконччанай.

## Бэзавы колер алейнай фарбы

Першы набор з цюбікамі алейнай фарбы я набыў у краме «Школьнік», што была на вуліцы Маркса. У каробцы ляжала дванаццаць тонкіх, крыху таўсцейшых за звычайны аловак свінцовых цюбікаў. Асаблівае захапленне ў мяне выклікала бэзавая фарба. Я разоў сто адкручваў накрыўку і зазіраў у цюбік, каб палюбавацца алейнай бэзавасцю, каб атрымаць асалоду ад смачнага водару фарбы. Гэтым наборам я расфарбаваў ліяны, што напаўнялі трапічны лес Флорыды. Тады я захапляўся гераічнымі індзейцамі. Маляваў іх у непралазным лесе, сярод рознакаляровых ліян. З таго першага набору запомнілася чамусьці толькі бэзавая фарба.

## Першаснег

Мастак заўжды чакае першаснегу. Ад яго змрочнае гарадское наваколле робіцца больш светлым, у майстэрні становіцца менш цемры, а з'яўляецца больш прасторы і радасці. Зазвычай першы снег доўга не ляжыць і паўдня не мінае, як ён растае. Сёлета снег затрымаўся. Лёгкі марозік не дае яму растаць ужо трэці

дзень. У парку першаснег перамяшаўся з залатой лістотай каштанаў. Дзівоснае злучэнне залатога і белага нагадала пра маё далёкае мастакоўскае дзяцінства...

У майстэрню да жывапісца Каткова я прыйшоў у тую марозную нядзелю самы першы. Сяргей Каткоў даў мне грошы і папрасіў схадзіць у хлебную краму па абаранкі і батон-пляцёнку. Ён збіраўся паставіць для вучняў новы нацюрморт. У краме моцна пахла свежым хлебам, абаранкі мне дасталіся яшчэ цёплымі. Я вяртаўся ў Палац школьнікаў па засыпанай снегам дарозе з апетытнымі абаранкамі ў руках. Мне было важна, што стары настаўнік мне, малому школьніку, даверыў грошы і даў дарослае даручэнне. Белы кубак з белым фарфоравым чайнікам, абаранкі і батон-пляцёнку на сіняй драпіроўцы я тады напісаў акварэллю незапамінальна.

## Уласаў і свежасць

Калі я пасля доўгага перапынку вярнуўся ў мастацкую студыю, дзе раней выкладаў Сяргей Каткоў, на ягоным месцы працаваў Ігар Уласаў. У дзень майго вяртання Уласаў паставіў вялікі нацюрморт з паўпразрыстай блакітна-зеленкаватай драпіроўкаю і невялікім гіпсавым канём. У пастаноўцы была ранішняя свежасць марскога берага. Нацюрморт я пісаў на вільготнай паперы. Тады была мода — маляваць акварэллю па вільготнаму. Пастаноўка напісалася за адзін сеанс. Можа, я б той нацюрморт і працягваў пісаць, і засушыў бы яго, і зачарніў, каб не ўхваленне Уласава і не ягоная прапанова пачаць працу над іншай пастаноўкай.

## Хобатаў і Каткоў

Мастак Лёнька Хобатаў, згадваючы свайго настаўніка Сяргея Пятровіча Каткова, распавёў пра эпізод з эцюдам хлява. Лёнька вярнуўся з летняй практыкі ў вёсцы. Ён прывёз у Мінск стос жывапісных эцюдаў. Каткоў праглядзеў увесь вялікі стос, вылучыў эцюд з хлявом і ацаніў: «Добра атрымалася, хлеў выглядае праўдзіва, нават чуваць, як ён пахне гаўном». Хобатаву такая адзнака страшэнна спадабалася. І праз сорак гадоў Лёнька выхваляецца, паўтараючы словы Каткова. Я добра ведаў вялікую тактоўнасць нашага настаўніка Сяргея Пятровіча, ён сказаў Хобатаву толькі частку вялікай праўды. Усе палотны Лёнькі Хобатава пахнуць гаўном, нават і тыя, на якіх няма хлява.

## Мама і Сяргей Пятровіч

Зайшоў да мамы. Занёс ёй крыху прадуктаў: хлеб, тварог, смятану, рыс і грэчку. Мы папілі гарбаты. Я сказаў, што днямі Сяргею Пятровічу Каткову споўнілася сто гадоў. Маці крыху здзівілася. Такія лічбы, як сто чалавечых гадоў, заўжды здзіўляюць. Здаецца, што ўчора... А тут — сто гадоў. «Ты памятаеш, як Сяргей Пятровіч да нас прыходзіў?» Я прызнаўся, што не помню. «Была нядзеля. Мы позна ўсталі. Сядзелі за сталом і снедалі, калі нехта пазваніў у дзверы. Я пайшла адчыняць. У дзвярах стаяў невысокі дзядок. Ён спытаў, ці тут жыве Валодзя Адамчык. Ты пазнаў яго па голасе і прыбег з кухні... “Мама, гэта ж Сяргей Пятровіч, са студыі!” Мы запрасілі Сяргея Пятровіча за стол. Ён паскардзіўся, што ты не ходзіш у студыю і кінуў маляванне, а гэта кепска, бо ты мастак ад прыроды. У цябе свое-

асаблівае бачанне і шмат ідэй. Табе трэба маляваць. І я, і тата паспрабавалі пераканаць Сяргея Пятровіча ў іншым, што ты лепшы матэматык у класе і табе варта займацца матэматыкай, а не маляваннем. Калі нам здалося, што мы пераканалі Сяргея Пятровіча, ён спытаў, ці прыходзілі да нас дамоў матэматыкі. Не. А мастак прыйшоў... Ты вярнуўся ў студыю».

## Чалавек з лесвіцай

У студыю маляваць я хадзіў самастойна. Калі ж Сяргей Пятровіч Каткоў запрасіў нас на адкрыццё выставы ў дзяржаўны музей, я прыйшоў туды з мамаю. Пераступіўшы праз сорам (не ведаю, чаму і чаго я саромеўся), я павітаўся з Катковым. Ён пахваліў мяне, а мама сказала некалькі добрых слоў пра яго нацюрморт з грыбамі. На той выставе мяне ўразіла палатно Вашчанкі «Чалавек з лесвіцай». Чалавек крочыў, несучы на плячы лесвіцу, побач бег сабака, поруч ляцелі два галубы. Чалавек крочыў у залацістай і казачнай прасторы, паміж небам і зямлёю. Гэта быў зусім малады, зусім новы чалавек. Ніколі пазней ніводнае палатно Гаўрылы Вашчанкі мяне так не ўражвала. Але я ніколі і не шкадаваў, што вучыўся менавіта ў яго, менавіта на кафедры манументальнага мастацтва, якую ён узначальваў. Яшчэ на той жа выставе мяне спыніў нацюрморт Альгерда Малішэўскага «Рускія падносы». У Малішэўскага я таксама вучыўся з радасцю.

Я згадаў тую даўнюю выставу, калі сёлета ў краме «Зрабі сам» набыў лесвіцу. З алюмініевай лесвіцаю я крочыў па ранішнім Мінску і згадваў сваіх настаўнікаў: Каткова, Малішэўскага, Вашчанку... Згадваў з прыемнасцю.

## Батутныя гімнасты

Трэба было напісаць «батутныя акрабаты», але мы — я і Міша Пракоф'еў — лічылі сябе батутнымі гімнастамі. Мы разам хадзілі ў студыю выяўленчага мастацтва, якой кіраваў Сяргей Каткоў. Студыя тая была ў Палацы піянераў і школьнікаў, на трэцім паверсе. У ёй, вядома ж, меліся і рукамыйнік з прыбіральняю. Гэтыя выгоды былі агульнымі з гімнастычнай залаю. А ў той зале стаяў вялікі белы батут! Часам у нядзелю мы прасілі Сяргея Каткова пакінуць нас у студыі, маўляў, не паспелі падамалёўваць карціны. Каткоў пакідаў ключ і сыходзіў, а мы ляцелі ў гімнастычную залу, каб скакаць на батуце. Мы скакалі на ім у чаравіках. Недаравальны ўчынак! Я скакаў і крычаў на ўсю залу: «Я — батутны гімнаст!» Міша Пракоф'еў таксама скакаў і крычаў. А яшчэ і рэха за намі крычала: «Я — батутны гімнаст!» Пазней я даведаўся, што скачкі на батуце — самы небяспечны від спорту, бо ў ім найбольшая колькасць смяротных выпадкаў, спартсмены часцяком ломяць сабе шыі на такім прыгожым белым батуце. Нам пашанцавала, нас — Мішу Пракоф'ева і мяне — ні разу не злавілі і не пакаралі за тое, што мы скакалі на батуце ў чаравіках.

## Гарады

На кавалку шчыльнай паперы намаляваўся казачны горад з рознакаляровымі дамкамі пад чырвонай дахоўкаю. «Гэта ж не Мінск! — здзівіўся мой настаўнік малявання. — Гэта ж Вільня!» Я і сам выдатна бачыў, што намаляваў не наш Мінск, а фантастычны горад з высокімі комінамі і вострымі флюгерамі. «Ты ў Вільні калі-небудзь быў?» — спытаў Сяргей Каткоў. Я ніколі не ездзіў

у Вільню. «Ты яшчэ патрапіш у яе. Прыйдзе час — і ты паглядзіш на казачную сталіцу...»

Цяпер, праз трыццаць восем гадоў пасля той размовы з Катковым, я стаю на маленькім балкончыку сваёй віленскай кватэры і гляджу на старажытную сталіцу. Каляровыя дамкі пад цёмнай дахоўкаю, цагляныя коміны, ружовыя вежы, крыжы і флюгеры... Па маёй вуліцы Піліма шыбуюць прахожыя, коцяцца машыны, сунуцца тралейбусы... А я чакаю чорнага каня. На тым даўнім малюнку быў яшчэ конь, чорны конь, запрэжаны ў залатую каралеўскую карэту.

# БАСАЎ

*Словы пра мастака Ізраіля Басава*

## Адрынутасць

Басаў быў мастаком адрынутым. У 70-я гады яго адрынула мастакоўская зграя. Яго карціны і малюнкі не бралі на выставы. Яго палотны не куплялі музеі і фонды. На мастацкім камбінаце ён не атрымліваў заказаў. Іншы скарыўся б. Мастак Басаў вырашыў жыць і працаваць у самоце. Ён засяродзіўся на жывапісе, на сваіх вобразах і сваім мастацтве.

Зараз цяжка сказаць, з чаго менавіта пачалася адрынутасць Басава. Але можна з упэўненасцю думаць, што тутэйшыя мастакі ды прапагандысты не даравалі Басаву шчырасці. У 60-я ён перастаў падпарадкоўвацца дзяржаўнай сістэме. Меў свой погляд на рэчы і з’явы, на каштоўнасці і прынцыпы. У Басава былі ўласныя ўзоры творчасці, свае крыніцы натхнення. Узоры Ізраіля

Басава не супадалі з узорамі так званага сацрэалізму. Мастак любіў рэлігійнага Жоржа Руо і экспрэсіянізм, авангарднага Пабла Пікаса і кубізм з неакласіцызмам. Нават абстракцыянізм Басаў шанаваў. Усё гэта непасрэдна адбівалася на ягоных палотнах. За яго ідэалы ды свае перакананні Басава адрынулі тутэйшыя мастацтвазнаўцы, мастакі і прапагандысты.

## Выставы

У Саюзе мастакоў часам чуліся пагрозы ў бок тых членаў, што не праяўлялі творчай актыўнасці. Ты не малюеш? Ты не прыносіш свае працы на выставы? Трэба цябе прагнаць з Саюза і выкінуць з майстэрні. Так не аднойчы пагражалі Алегу Луцэвічу ды Ізраілю Басаву. Мастакі аспрэчвалі такі падыход да творчай асобы, казалі, што іх працы не трапляюць на выставы, бо іх не прапускаюць розныя цэнзары. Тады было вырашана рабіць раз на два гады выставу без выставачнага камітэта. Кожны член Саюза мог прынесці ў Палац мастацтва дзве работы, якія ён сам лічыць найлепшымі. На такой бесцэнзурнай выставе я і пабачыў дзве карціны Басава. Яны мяне страшэнна ўразілі. Я стаяў каля іх агаломшаны.

На апошнім курсе мастацкага вучылішча я зрабіў некалькі карцін у стылі, падобным да жывапісу Басава. Выкладчыкам эксперымент не спадабаўся. Дубар казаў, што гэта грубы жывапіс, а Малішэўскі прапанаваў захоўваць падобныя палотны дома і нікому не паказваць. Зусім нечаканай была адзнака Эйдэльмана. Ён сказаў, што мне трэба займацца не жывапісам і графікай, а вітражамі і мазаікамі. Я паслухаў параду і пайшоў вучыцца на манументаліста.

## Стыль

У 60-х і пачатку 70-х у Мінску быў такі камплімент — «сурова гэта». «Сурова» вымаўлялася зазвычай голасам культавага кінаартыста Уладзіміра Высоцкага. Стыль Басава адназначна «суровы». Пра яго жывапіс можна сказаць «сурова гэта» і не памыліцца ні на грам.

## Праклён

Яшчэ з маладосці я ведаў, што тутэйшаму мастаку варта зачыніцца ў невялікай майстэрні над праспектам і маляваць мінскія краявіды. Прыкладам падобных паводзінаў мне паслужыў жывапісец Басаў. Ён разлічваў толькі на сябе, на свае сілы і здольнасці. Ён не чакаў, што дзяржава, з яе саюзамі ды фондамі, падтрымае. Працаваў, бо было прызванне і наканаванне пісаць карціны з урбаністычнымі краявідамі. Можна сказаць, што на Ізраілю Басаву ляжаў праклён, як ён ляжыць на кожным праўдзівым творцы. Дзякуючы гэткаму страшнаму праклёну звычайны і нават пасрэдны рамеснік ператвараецца ў значнага мастака. Пэўна, Басаў у часы роспачы і адчаю хацеў пазбавіцца ад праклёну, але так і не пазбавіўся да апошніх дзён свайго цяжкага мастакоўскага жыцця.

## Святло

У карціны павінна быць адна абавязковая якасць, без якой яна ніколі не стане карцінай; назаву гэтую якасць святлом. У карціне павінна быць зробленае святло. Калі жывапіс не выпраменьвае святла, ён мёртвы. На розных выставах шмат экспанатаў, у якіх зусім няма святла. Нібыта

ўсё прамалявана і пафарбавана правільна, а святла няма. У палотнах Басава святла шмат. У яго святло моцнае. Часам узнікае жаданне зазірнуць за палатно. Ці не прымасціў там хто лямпачку? Лепшыя карціны Басава свецяцца, як саборныя вітражы. Зразумела, што аблямаваны чорным абрысам колер робіцца больш яркім. Гэткае адкрыццё зрабіў Поль Гаген. Такім прыёмам карысталіся Жорж Руо і шмат іншых экспрэсіяністаў. Басаў не вынаходнік вітражнага святланоснага жывапісу, але ён вельмі ўдала і па-майстэрску ім карыстаўся. Святло, што ліецца з карцін Ізраіля Басава, спыняе і зачароўвае, як страшная гарадская казка зачароўвала і палохала нас у дзяцінстве.

## Фарба

На палотнах Басава шмат фарбы. Яна накладзена без шкадавання. Звычайна, калі мастак памыляецца з колерам, ён прыбірае лішкі фарбы з палатна. Басаў не прыбіраў памылковыя колеры, а закрываў адзін пласт фарбы другім. Закрываў і закрываў, пакуль не знаходзіў сваю гармонію. Каб надаць колерам максімальнае гучанне, кожны з іх абрамляў чорным абрысам. Карціны Басава нагадваюць не проста вітражы, а вітражы з тоўстага літога шкла. Святло, вылепленае з алейнай фарбы пэндзлямі Ізраіля Басава, зачароўвае.

## Русава

Люда Русава напісала верш, прысвечаны мастаку Басаву. Верш быў надрукаваны ў першым і, на жаль, пасмяротным альбоме, прысвечаным творчасці майстра. У вершы знайшліся памылкі, і Люда старанна іх выправіла, калі дарыла альбом

мне. Альбом з аўтографам у мяне скралі. Так бывае, што добрыя кнігі ў цябе крадуць. Крыўдна тое, што скраў знаёмы, якога я доўгі час лічыў за свайго ці не найлепшага сябра. Мне было сумна без альбома Басава з жывапісным вершам Люды Русавай, і я купіў такі ж самы ў букіністычнай краме. Памылкі ў вершы я выпраўляць не стаў.

## Вокладка

Часам, калі беларусы займаюцца яўрэйскай культурай, іх ахоплівае сорам. Такі сорам, нібыта яны крадком падглядалі за чужымі голымі людзьмі, а тыя выкрылі падгляданне. Асабіста ў мяне такое пачуццё сораму было, калі я разам з Аляксандрай Андрыеўскай працаваў над нумарам часопіса «Архэ», прысвечаным беларуска-яўрэйскім сувязям і стасункам. На вокладцы таго нумара быў здымак паўаголенай дзяўчынкі, што прыкрывае рукамі грудзі. Думаў, што чытачы правільна ацэняць жэст сораму. Не ацанілі. Фундатары, што давалі сродкі на яўрэйскі нумар «Архэ», загадалі памяняць вокладку. Так на большасці часопісаў з'явілася карціна Ізраіля Басава «Бег». Карціна задаволіла фундатараў і Аляксандру. Басаў выратаваў ад непрыемнасцяў, але пачуццё сораму ў мяне засталося.

## Перайманні

Ёсць мастакі, якім хочацца наследаваць. Веліч мастака якраз і можна ўбачыць па колькасці ягоных прыхільнікаў, вучняў і эпігонаў. Мне здавалася, што вучыцца ў Басава будзе шмат маіх аднагодкаў. Падавалася, што ягоныя палотны вартыя пераймання. Шмат хто шчы-

ра хваліў жывапіс Ізраіля Басава, але наследавалі яму толькі Русава і Льдокаў. Яны пераймалі ягоны стыль малявання ўрбаністычных матываў, але нават для іх Басаў заставаўся не асноўым узорам. Для Русавай першым быў Малевіч, а для Льдокава — Суцін.

# СТАЛЬМАШОНАК

*Словы пра мастака*
*Уладзіміра Іванавіча Стальмашонка*

## Пантэон

Уладзімір Стальмашонак любіў Беларусь. Ягоная Беларусь была цывілізаванай і высокакультурнай. Беларусы, напісаныя і намаляваныя дакладнай рукой Стальмашонка, належаць да сапраўднай эліты нашай Радзімы. Калі большасць мастакоў бачыла праўдзівую беларускасць у вясковасці, дык Стальмашонак бачыў яе ў высакародных і адукаваных творцах, у асветніках. Праз усё жыццё ён ствараў пантэон беларускай эліты — і стварыў яго.

## Падарунак

На пяцідзесяцігоддзе скульптара Анатоля Анікейчыка жывапісец Стальмашонак падарыў яму вялікую атласную чырвоную коўдру. Ватная коўдра стала самым эфектным і запамінальным падарункам, пра які доўга і са смакам гаварылі і згадвалі ў мастакоўскіх колах. Хто што яшчэ дарыў Анікейчыку на той юбілей, нават і не ўспаміналі, а чырвоную коўдру помнілі і ўсхвалялі яшчэ доўга.

## Сур’ёзнасць

Манументаліст Стальмашонак быў чалавекам сур’ёзным. Да жыцця і працы ставіўся адказна. Пэўна, паўплывала выхаванне. Уладзімір Стальмашонак вырас у сям’і вядомага ўрача. Таму да маіх заняткаў паэзіяй і да майго захаплення рок-н-ролам Уладзімір Іванавіч ставіўся скептычна: не сур’ёзны, а значыць, і маланадзейны чалавек. Аднойчы, калі мае аднагрупнікі пайшлі ў краму, каб закупіць прадукты ў паездку на практыку, Стальмашонак спытаўся: «З кім вы пакінулі рэчы ў інстытуцкім двары?» Калі даведаўся, што рэчы засталіся са мной, абурыўся: «З Глобусам? Вы пакінулі ўсе свае рэчы з паэтам? Здурнелі? Ён будзе сядзець і пісаць свае вершы, а тым часам вашы... нашы... рэчы пакрадуць!» У той раз мне пашанцавала — нічога не прапала.

## Камунізм

Мастак Стальмашонак верыў у справу Леніна. Уладзімір Іванавіч узначальваў камуністычную арганізацыю ў Саюзе мастакоў невыпадкова. Заслужыў. Вобраз правадыра Ульянава (Леніна) быў шматразова ўслаўлены пэндзлем Стальмашонка. Нават юбілейную выставу, прысвечаную свайму пяцідзесяцігоддзю, Стальмашонак адкрываў вялізным партрэтам Уладзіміра Ільіча Леніна, які быў напісаны знарок для выставы за адну ноч. «Ленін і будзільнік», «Ленін і Крупская», Ленін, Ленін, Ленін... Я заўсёды стараўся абыходзіць гэты бок творчасці мастакоўскага парторга, хай для яго ён і быў самым важным і актуальным. У мяне амаль атрымлівалася не канфліктаваць са Стальма-

шонкам у палітычнай плоскасці, бо мой анархаіндывідуалізм — усё ж левы радыкалізм, а не правы.

## «Праўда»

Як праўдзівы камуніст, Уладзімір Іванавіч заўсёды чытаў штодзённую газету «Праўда». Нават у горадзе Мсціслаўлі, дзе ён кіраваў капіравальнай практыкай студэнтаў-манументалістаў, Уладзімір Іванавіч штодня ў атэльным нумары чытаў «Праўду». Ён чытаў газету, лежачы на неразасланым ложку. Ляжаў, чытаў свежую «Праўду» і лузгаў чорныя семкі. Тады мяне моцна ўразілі два кепскія заняткі, злучаныя ў адзін працэс. Адмоўны прыклад выкладчыка даў станоўчы вынік: я не чытаў і не чытаю партыйных газет кшталту «Праўды» і не лузгаю семкі.

## Пералом

Пасля капіравальнай практыкі, што праходзіла ў Мсціслаўскім касцёле Прачыстай Дзевы Марыі, мы — студэнты і кіраўнікі — вырашылі зладзіць выставу з копій і малюнкаў, каб старажытны горад новымі вачыма паглядзеў на свае напаўзабытыя скарбы. У час, калі я замацоўваў копію на высокай сцяне, лесвіца, на якой стаяў, раптам паехала ўніз. Ногі праваліліся паміж рэйкамі. Ва ўсіх, хто бачыў падзенне з-пад пяціметровай столі, перахапіла дыханне. Грукат атрымаўся страшны. Я моцна пабіўся, але, дзякуй Марыі, нічога не пераламаў. «Так і без ног можна застацца!» — паўшчуваў Стальмашонак. На ягоныя словы я, душачы боль, зрэагаваў злосна: «Кожны можа нагу зламаць! Кожны!» Праз нейкі час Стальмашонак сам зламаў

нагу. Яна ў яго кепска гаілася, даводзілася кульгаць і хадзіць з кавенькай. Калі я бачыў Стальмашонка з кавенькай, дык адчуваў сябе крыху вінаватым.

## Ажыўкі

Ажыўка — белая рыска на старажытнавізантыйскіх абразах. Можна меркаваць, што ажыўка — гіпербалізаваная трактоўка бліку, найярчэшай кропкі на асветленай форме. Найвялікшым майстрам наносіць ажыўкі на лікі святых быў Феафан Грэк. Якраз Грэка згадваў Уладзімір Стальмашонак, калі разважаў пра мужчынскія партрэты, намаляваныя ім у Мсціслаўлі. «Твары такія барвовыя, яны так абпалены сонцам, што зморшчыны на скуры не цёмныя, а светлыя і прамяністыя, як ажыўкі на іконах у Феафана Грэка!» Мне тады спадабаліся не столькі мужныя партрэты, зробленыя жалезнай рукою Стальмашонка, колькі ягоныя разважы пра ажыўкі на старажытных праваслаўных абразах.

## Крытыка

«Ад такога... дзяцей не бывае!» — казаў Уладзімір Іванавіч на кепскі жывапіс. Гэта была самая моцная лаянка, якую я ад яго чуў. Ні мацюкоў, ні абраз, ні зняважлівых параўнанняў Стальмашонак сабе не дазваляў, прынамсі са студэнтамі майго пакалення. Шмат хто з выкладчыкаў і мацюк у размову ўкручваў, і брыдкасловіў пра чужыя працы, а наш Уладзімір Іванавіч абыходзіўся згадкамі пустаплюйнага ананізму. «Ад твайго такога дзяцей не будзе, дакладна!» — скажа і заўсміхаецца ў бараду, каб

табе не так балюча было ад ягонай справядлівай крытыкі.

## Мянушка

На манументальным аддзяленні ўсе насілі мянушкі, як студэнты, так і выкладчыкі. Гэта было звязана, я так лічу, з працай на будоўлях, з працай у экстрэмальных умовах, калі трэба хутка падаваць адзін аднаму знакі, бо можна і без галавы застацца... Мянушкі былі кароткія і выразныя... Крук, Слон, Ох, Нягора, Вава, Хац... Уладзімір Іванавіч Стальмашонак быў у нас Стэльмахам.

## Ракурс

Каб маляваць натуршчыцу ў ракурсах, у нашай майстэрні былі будаўнічыя рыштаванні. Натуршчыца Зоя залезла на другі ярус, а мы, стоячы знізу, малявалі яе налітыя жыццёвымі сокамі формы. Зоя круцілася на рыштаваннях, мы рабілі накіды і чакалі Стальмашонка, які мусіў прыйсці і паставіць шматгадзінную пастаноўку — знайсці для Зоі на рыштаваннях выразную і запамінальную позу. Стальмашонак спазняўся, Зойка круціла дупай на рыштаваннях, мы панарабілі шмат хуткіх малюнкаў. Спадзяваліся, што Уладзімір Іванавіч нас пахваліць за ініцыятыву. Дзе там... Насварыўся, назваў Зою стрыптызёркай, а нас — аматарамі пamаляваць непатрэбшчыну. Наступныя дні Зоя стаяла ў позе жанчыны-калоны, у позе суровай і цнатлівай карыятыды.

## Сіцылія

У складзе дэлегацыі мастакоў Уладзімір Стальмашонак аднаго разу з'ездзіў на Сіцылію. Распа-

веды і фільмы пра тамтэйшую мафію тады былі моднымі ва ўсім свеце. Таму нашы грамадзяне крыху пабойваліся чарнавокіх і кепска паголеных сіцылійцаў. Стальмашонак — чалавек смелы і дужы — вырашыў рызыкнуць і пайсці ў Сіцыліі на эцюды, каб напісаць акварэллю тамтэйшы краявід. Ён пісаў, захапіўся і нават не заўважыў, як да яго падышлі некалькі сялян у вялікіх кепках, рыхтык такіх людзей і паказвалі ў кіно салдатамі бязлітаснай мафіі. Стальмашонак казаў, што крыху спужаўся. Чужы свет, чужыя нораву, чужы парадак... Старэйшы з сялян доўга разглядаў акварэль, а потым ухваліў яе. Ён яшчэ прапанаваў мастаку выпіць віна, але той адмовіўся. Праўда, пазней наш Уладзімір Іванавіч шкадаваў пра адмову.

## № 2

Уладзімір Іванавіч Стальмашонак не перажываў з-за таго, што яго на кафедры манументальнага мастацтва лічылі чалавекам № 2. Яго нібыта і задавальняла гэтае другое месца. Калі Вашчанка ад нечага адмаўляўся, тое пераходзіла да Стальмашонка. Дарэчы, і мой дыпломны праект перайшоў ад Вашчанкі да Стальмашонка. Праблемны студэнт, турак з Азербайджана Асім Самедаў, са сваімі мазаікамі таксама заканчваў акадэмічнае навучанне пад кіраўніцтвам цярплівага да розных мастакоўскіх выбрыкаў Уладзіміра Іванавіча. Стальмашонак, як і ўсе праўдзівыя беларусы, спакойна жыў са сваёй няпершасцю. Другі і другі. Беларус якраз добра пачуваецца на месцы № 2. Таму я моцна здзівіўся, калі даведаўся, што нашу кафедру заснаваў менавіта Стальмашонак, а не Вашчанка. Стварыў і сышоў у цень. За такое трэба паважаць.

## Вышыванкі

Ніхто з маіх знаёмых мастакоў так шчыра і так паслядоўна не захапляўся кашулямі-вышыванкамі, як гэта рабіў Уладзімір Іванавіч Стальмашонак. Ён пераапрануў у белыя кашулі з чырвонымі і блакітнымі вышыўкамі ледзь не ўсіх дзеячаў беларускай эліты. Першы ўрад БССР Уладзімір Іванавіч напісаў у вышыванках. У падобных узорыстых кашулях Стальмашонак намаляваў Купалу, Коласа, Галубка, Цётку і Шырму. Найлепшыя вітражы Стальмашонка былі падобныя да вышыванак. Такія вышыванкі-вітражы ён зрабіў у Доме літаратара на вуліцы Румянцава і Доме мод на Юбілейнай плошчы.

## Аптымізм

У альбоме Эрыха Дарскага «Уладзімір Стальмашонак. Жывапіс, графіка, манументальнае мастацтва», які ў 1983 годзе выйшаў у маскоўскім выдавецтве «Савецкі мастак», прачытаў пра аптымізм мастака. Сапраўды, Уладзімір Іванавіч быў рэвалюцыйным і аптымістычным чалавекам. Ён любіў усё светлае, усё зыркае і зорнае, усё празрыстае. Змрочнасць, рэтраспекцыі, бездань, чарната, шэрасць і шмат іншага з таго, што падабалася і вабіла мяне, яго раздражняла, напружвала і нават крыху палохала. Але ягоны аптымізм быў настолькі арганічны і вялікі, што Стальмашонак верыў у змены, якія мусяць адбыцца са мной — ягоным вучнем. Верыў, што праз нейкі час я таксама стану аптымістам і буду захапляцца празрыстасцю, светласцю і яркасцю. Ягоныя спадзяванні не зусім спраўдзіліся адносна мяне, але варта зазначыць: з аптымістам і рэвалюцыянерам Стальмашонкам мне працавалася добра і лёгка.

# ТАВАРЫШЫ

*Словы пра майстроў, з якімі я таварышаваў*

## СЕЛЯШЧУК

*Словы пра графіка Міколу Селешчука*

### Мода

Мікола Селяшчук быў мастаком модным. Бадай што ён першы ў Беларусі, хто змог атаясамліваць з сабой гэтае вызначэнне — модны мастак. Да Селешчука спрабавалі быць моднымі Барыс Забораў і Георгій Скрыпнічэнка, але ў іх працах і ў іх саміх было зашмат сур'ёзнасці, каб зрабіцца моднымі. Зазвычай мастакі жадалі стаць вялікімі ці знакамітымі, багатымі ці любімымі. Быць модным у тагачасных мастакоўскіх асяродках лічылася дрэнным густам. Селяшчук змяніў сітуацыю, сваім прыкладам ён давёў тутэйшым мастакам, што працаваць з манекеншчыцамі і хадзіць на паказы новых калекцый адзення — добра. Ён апранаўся згодна з часопісамі моды. Ён пісаў карціны на модныя тэмы: бары, матылькі, жанчыны-матылькі. Ён сам быў моднікам, і вакол яго круціліся модніцы. Яны і зрабілі яму вядомасць. Яны і зацвердзілі ягонае прызванне і званне — модны мастак.

### Выдатніцтва

Мікола Селяшчук быў выдатнікам. Яго грэлі добрыя адзнакі і ўхваленні. Усё, за што

браўся, Мікола стараўся зрабіць добра і на пяцёрку. Таму яму рабілі шмат заказаў, таму іх у Селешчука было значна болей, чым ён мог зрабіць на выдатна. Мікола многа халтурыў. Рабіў эстампы з кабінетамі, дзе працаваў Ленін. Аздабляў малюнкамі кнігі малаталенавітых паэтак. Ілюстраваў пасрэдныя раманы. Такім правалам былі ў яго ілюстрацыі да рамана-эсэ Алега Лойкі пра Янку Купалу. Ці перажываў Селяшчук за свае халтуры і правалы? Так. Перажываў, але сваё перажыванне ён хаваў за добразычлівы смех. У Міколы Селешчука былі прыязная ўсмешка і прыемны мяккі смех. Калі я з кімсьці загаворваю пра Міколу, шмат хто згадвае яго смех і яго паспяховасць, яго выдатніцтва і жаданне спадабацца.

## Вінілавыя кружэлкі

Ёсць мастакі, пра чые карціны расказваюцца гісторыі. Мастак яшчэ толькі працуе над палатном, а чуткі пра твор ужо ходзяць па нашай сталіцы. У Мінску шмат гісторый расказвалася пра палотны Міхася Савіцкага з канцэнтрацыйнымі лагерамі. З цікавасцю ўсе слухалі і пра карціны з аголенымі жанчынамі, якіх маляваў з натуры Аляксандр Кішчанка. Сярод гэтых гісторый з’явілася і новая — пра Міколу Селешчука, які пісаў палатно з раскіданымі па падлозе вінілавымі кружэлкамі. Сюжэт карціны быў даволі нечаканы. І выкананне таксама здзіўляла першых гледачоў... «Селя ўсё выпісаў маленечкім пэндзлікам. Усё зрабіў так, як на фотаздымку. Раней у нас так ніхто не рабіў...» — расказваў мне пра карціну Міколы графік Анатоль Але-

ксандровіч. Ён нават паабяцаў звадзіць мяне ў майстэрню да Селешчука. Ягоная тагачасная майстэрня была ў Палацы воднага спорту, што стаіць каля батанічнага саду. Да яе мы з Анатолем так і не дайшлі, карціну з раскіданым на падлозе вінілам я ніколі не бачыў, але добра яе ўяўляю. Маё ўяўленне так выразна намалявала гэтае палатно, што яно і зараз з'яўляецца маім самым любімым творам Міколы Селешчука.

## Жонка

У Міколы Селешчука жонка выпівала. Зазвычай у сям'і мастака выпівае муж. У Міколы ўсё цякло з дакладнасцю наадварот. Ажаніўся ён пазнавата, узяў сабе маладзенькую прадаўшчыцу кніжак з букіністычнай крамы «Вянок». Дзяўчына была мілавіднай, але мела кепскія зубы і схільнасць да п'янства. Мікола знайшоў сродкі і спецыялістаў, каб жонка займела беласнежныя зубы. З гэтым ён справіўся досыць лёгка, а вось пабароць жончына п'янства не змог. Спрабаваў, але не атрымалася. Мікола забраў жонку з букіністычнай крамы і ўладкаваў сакратаркай у тэатральна-мастацкі інстытут, дзе яна разгульвала па калідорах з бутэлькай віна ў руках. Яна трымала вялікую бутэльку так, нібыта гэта была і не бутэлька зусім, а дзіця, якое толькі-толькі заснула. Яна шэптам прасіла ў студэнтаў штопар. Насамрэч штопар у яе быў, проста не хацелася піць адной. Студэнты асцерагаліся піць з жонкай Селешчука. Было сорамна за яе, за яго і нават за саміх сябе. Таму мы адкаркоўвалі бутэльку і вярталі віно ў дрыготкія рукі прыгожай жонкі моднага мастака.

## Трускалкі

Свае майстэрні мастакі абсталёўваюць і ў розных паўтэхнічных памяшканнях, і пад дахамі на гарышчах, і ў сутарэннях і цокальных паверхах. Нейкі час я працаваў з Селешчуком у адным будынку. Мая майстэрня была ў прасторным трохпакаёвым паўпадвале, а ягоная — у мансардзе. Майстэрня Селешчука была шыкоўная, бо мела ажно тры вялікія акны. Праўда, кожнае з вокнаў належала розным мастакам. Пад сярэднім працаваў Вова Савіч. Пад правым — Валодзя Тоўсцік. І толькі левае акно ліло святло на жывапісныя палотны і графічныя аркушы Міколы. Тоўсцік, Савіч і Селяшчук сябравалі. У мяне з імі былі даволі прыязныя, а калі па-простаму — добрасуседскія адносіны. Мы не толькі віталіся ў двары і заходзілі адзін да аднаго на гарбату, мы яшчэ разам святкавалі Дзень трускалак. Маці Селешчука жыла на самым поўдні Беларусі. Там трускалкі чырванелі значна раней, чым у іншых нашых мясцінах. Селяшчук прывозіў цэлыя скрыні з салодкімі ягадамі і запрашаў усіх знаёмых пачаставацца. Селешчукоўскімі трускалкамі частаваўся і я. Таму гэтыя ягады зніталяваны ў мяне з успамінамі пра Міколу. Убачу чырвоную трускалку — і згадваю суседа Селю, майстра, які рабіў малюнкі да казак і шматколерныя казачныя малюнкі.

## Стараннасць

Мікола маленькім пэндзлікам старанна прамалёўваў кожную дэталь на карціне. Ён вылізваў, выгладжваў, выточваў усе як ёсць драбніцы. «Нашто ты так усё дэталізуеш? Нашто

выглянцоўваеш? Нашто ты выточваеш кожную драбязу?» — аднаго разу папытаўся я ў Міколы, калі мы пілі гарбату на ягонай кухні ў Серабранцы. Там у Міколы быў пакой у камуналцы і палова кухні. «Потым зразумееш!» — аджартаваўся Селяшчук. Я не стаў настойваць. Потым дык потым. Праўда, я так і не знайшоў адказаў на тыя пытанні. Для пакалення сур'ёзных мастакоў суровага стылю Селяшчук быў сімвалам новага мастацтва. Ягоныя жанчыны ў бліскучых портках, ягоныя вясёлкавыя пташачкі, ягоныя аўтаавары для старэйшых мастакоў выглядалі не толькі адкрыццямі, яны выглядалі яшчэ і маласур'ёзна. Старэйшыя не любілі Міколу; зрэшты, і для маладых нонканфармістаў і авангардыстаў ён не стаў прыкладам. Селяшчук быў зоркай і любімцам менавіта свайго пакалення. Змагарныя дарогі наступнікаў яго палохалі. Калі са старэйшымі Мікола яшчэ змагаўся за сваё месца пад выдавецкім і музейным сонцам, дык маладых ён разумеў кепска і нават крыху пабойваўся іх жорсткіх нораваў.

## Непераборлівасць

Васямнаццаць гадоў прамінула пасля трагічнай гібелі Міколы пад марской хваляй. Вялікі тэрмін для чалавечага жыцця. Чыноўнікі, нібыта спахапіўшыся, адзначылі ягоную творчасць дзяржаўнай прэміяй. Селяшчук прэмію заслужыў, безумоўна, як заслужыў і выданне кнігі пра сваю творчасць. Выстава, якая прайшла ў Дзяржаўным мастацкім музеі з нагоды шасцідзесяцігоддзя Мікалая, мела шматлюдны поспех. Усё гэта са станоўчага, але мяне хвалюе і адмоўнае. Кнігі з малюнкамі Селешчука

не перавыдаюцца. А ўсё з-за ягонай непераборлівасці. Манументалістаў вучылі выбіраць свой аб'ект і працаваць толькі з тымі будынкамі, якія будуць стаяць доўга. Заўважыў лужыны вады пасярод сабора? Сыходзь. Выбачайся і развітвайся з заказчыкамі роспісаў. Нават ад лёгкіх і вялікіх заробкаў адмаўляйся. А кніжных графікаў вучылі дакладна наадварот: ніколі не адмаўляйся ад заказаў. Што прапанавалі, тое і ёсць тваё. Таму і даводзілася Мікалаю рабіць малюнкі да загадак і вершаў сумнеўнай якасці, напрыклад: «Што за навінка: / пад елкай вырасла сланінка!» Не кожны дарослы здагадаецца, што аўтар вершаванай загадкі Анатоль Клышка ў якасці адгадкі прапануе грыб. Такога і да такога падобнага Селяшчук праілюстраваў шмат, што засмучае.

## Кнігі

І ўсё ж... Найлепшым, што засталося ў творчай спадчыне Міколы Селешчука, з'яўляецца кніжная графіка. Мікола быў чалавекам кніжным. Разам са Славуком, Савічам, Шаранговічам, Зельскай, Вішнеўскім, Александровічам ён стварыў цалкам новую беларускую кніжную графіку. Дзіцячыя кнігі, аздобленыя малюнкамі Селешчука, карысталіся вялікім попытам. Менавіта за гэта яго цанілі і паважалі. Праца ў выдавецтвах Міколу карміла, паіла і апранала. Ён так добра зарабляў на кнігах, што мог сабе дазволіць пісаць карціны не на заказ, а на свой густ.

## Канфармізм

Шмат хто залічвае Міколу Селешчука да авангардыстаў, да прагрэсіўных мастакоў; насам-

рэч ён быў узорным прыкладам канфармізму. Яго працы выглядалі новымі роўна настолькі, наколькі дазвалялася ў савецкім грамадстве выглядаць новым. Калі спрэчкі і канфлікты паміж рознымі пакаленнямі тутэйшых мастакоў набылі вастрыню, Мікалая выклікаў да сябе Кузьмін — куратар па ідэалогіі і культуры з ЦК КПБ. Ён сказаў, што Мікола павінен уступіць у камуністычную партыю, стаць сур'ёзным мастаком і больш не займацца дзіцячымі гульнямі. Куратар Кузьмін прапанаваў Мікалаю напісаць карціну, прысвечаную савецкім ветэранам вайны. З-пад пэндзля Селешчука выйшла анімістычная, брудна-шэрая, кепска намаляваная карціна з трыма савецкімі афіцэрамі ў галіфэ. Селяшчук спрабаваў жартаваць і пасміхацца са сваёй прадажнасці, але самаіронія і самапрыніжэнні былі не ягонымі рысамі. Ён любіў узвышацца, таму і насіў абутак на вельмі высокіх, як для мужчыны, абцасах.

## Карціна

Мікола Селяшчук пісаў карціны для прыватнікаў. Яго палотны добра глядзеліся ў невялічкіх кватэрах. Нават сцены ўласнай кватэры Мікола пазавешваў малапамернымі палотнамі. Нават на кухні ў яго віселі фактурныя, не раўнуючы, рэпрадукцыі з Джэксана Полака, абстрактныя карціны. Калі папярэднікі Міколы пісалі творы для выстаў і музеяў, дык Селяшчук пісаў іх у дабрабытныя інтэр'еры дзеля падкрэслівання раскошы. У гулкіх музейных каланадах і прахалодных выставачных павільёнах яго жывапіс губляецца, бо ў ім няма манументальнасці, няма ідэалагічнай зададзенасці, няма плакатнасці. Жывапіс Селешчука мяш-

чанскі. Яму ўтульна сярод лакіраваных сервантаў, цёмных шпалераў, насценных дываноў, падсвечнікаў і шкляных палічак з дарагім посудам. Калі стары і суровы Альгерд Малішэўскі толькі ў страшным сне мог убачыць уласную карціну на вузкай сцяне над кухонным сталом ці халадзільнікам, дык малады і ўсмешлівы Мікалай Селяшчук якраз на тую сцяну і пісаў казачныя і стракатыя краявіды.

## Палепшаныя выданні

Ёсць кнігі звычайныя, а ёсць і палепшаныя выданні. На аздабленне палепшаных запрашаюцца модныя мастакі. Селяшчук быў сярод тых, каму выдавецтвы давяралі ўпрыгожваць свае шыкоўныя кнігі. Калі выдавецтва «Мастацкая літаратура» вырашыла выдаць бацькаў раман «І скажа той, хто народзіцца» ў добрым аздабленні, рукапіс патрапіў да Селешчука. Ён зрабіў эскізы і прынёс да нас дамоў. Маці частавала Міколу кавай, і на кухні ён з татам доўга разважаў пра Заходнюю Беларусь, пра яе адметнасці, характэрныя рысы, пра яе стрыманы стыль. Малюнкі да татавай кнігі атрымаліся даволі дзіўныя. Яны былі малападобнымі да творчасці Селешчука-казачніка і Селешчука-модніка. Шкада, што матывы, пазначаныя і знойдзеныя ў ілюстрацыях да прозы Вячаслава Адамчыка, не знайшлі працягу ў жывапісных палотнах Міколы.

## Камень

Мікола Селяшчук перамалёўваў модныя фотаздымкі. Ён любіў свежае, фірменнае, стыльнае. Вакол яго круціліся манекеншчы-

цы, артыстачкі і паэткі. У ягонай майстэрні круціліся вінілавыя кружэлкі. Здавалася, графік Селяшчук мусіць выбіраць нейкі найлягчэйшы з матэрыялаў кшталту срэбнага алоўка ці легкадумнай акварэлькі. Але замест іх Мікола вельмі часта выбіраў літаграфію — маляванне на камяні. Каменнасць, халоднасць, фундаментальнасць прысутнічаюць ва ўсіх ягоных працах, нават у акварэльных і алейных. Ёсць адчуванне, што палотны і паперы Селешчука нехта панаклейваў на літаграфскі камень. Доўгавалосыя прыгажуны і вялікавокія прыгажуні, намаляваныя рукою Міколы, маюць скамянелы выгляд. Селяшчук старанна прапрацоўваў, праточваў шмат дробных дэталяў у сваіх працах, але ад акамянеласці пазбавіцца не змог.

## ГАЛУБОВІЧ

*Словы пра паэта Леаніда Галубовіча*

### Шапка

Зімою Лёня Галубовіч паехаў з вёскі Варанава на сталічны Мінск у братавай шапцы. Дарагая была на паэтавай галаве шапка. Пашылі яе з карычневых шкурак нейкага звярка кшталту нутрыі. Галубовіч тады моцна піў. З добрымі запасамі таннага віна ён і апынуўся ў маёй майстэрні. Там я і прапанаваў яму часова памяняцца шапкамі. Лёня адмовіўся. Я казаў, што будзе шкада, калі ён у сталічных п’янках згубіць дарагую шапку. Ці згубіў Лёня брату шапку? Здаецца, згубіў. Пасля маёй сваркі

ў рэдакцыі штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва» з крытыкам Сідарэвічам і дракі з паэтам Пісьмянковым мне стала моташна. Праблема з шапкай Галубовіча зусім здрабнела, зрабілася нікчэмнай, і я на яе забыўся.

## Рэалізацыя

Лёня Галубовіч, безумоўна, рэалізаваўся як творчая асоба. Ён выдаў некалькі зграбных зборнікаў са светлымі вершамі, выдаў кнігу актуальнай крытыкі і кнігу шчырай лірычнай прозы. Заводзіць гутарку пра страчаны патэнцыял нібыта і не выпадае. І ўсё ж, калі глядзіш на літаратурную напрацоўку Галубовіча, бачыш ягоную недавыказанасць. Чаму Лёня не працягваў распачатае ў першым і лепшым паэтычным зборніку «Таемнасць агню», а збочыў на іншы, больш выпрастаны шлях? Можна вінаваціць выкладчыкаў з літаратурнага інстытута, якія падказалі вучню больш хлебныя дарогі. Можна вінаваціць жонку, якая зацягнула Галубовіча ў касцёльны свет банальнага маралізатарства. Можна сказаць, што сам Лёня шмат ленаваўся і прынцыповасць памяняў на глыбока прыхаваны сарказм. І ў такой размове можна нагаварыць шмат пустых слоў. Каб не казаць лішняга, абмяжуюся кароткім сказам... Леанід Галубовіч — цікавы і вечна незадаволены сабой творца.

## Літаратура

Ці хачу я быць, жыць і працаваць у літаратуры, якую старанна чытае, апісвае і прапагандуе Леанід Галубовіч? У літаратуры, дзе зашмат Разанава, дзе многа п’янюг і бажаволкаў

кшталту Рубіна, Купрэева ды Гадулькі, дзе ёсць людзі, якіх я ніколі не чытаў і чытаць не стану, напрыклад Сапажкоў... Не! У такой літаратуры мне мулка, няўтульна, цяжка. У мяне іншая беларуская літаратура. Яна больш мастакоўская і мастацкая. Яна не менш цвярозая, але больш вясёлая. У маёй беларускай літаратуры многа Брыля і Стральцова, многа Караткевіча, Коласа і Купалы, і ў ёй няма Куляшова і Быкава, апошніх зусім няма. Разам з тым у падыходах да літаратуры ў мяне з Леанідам Галубовічам больш агульнага, чым адрознага. Агульнае тое, што мы любім сваю літаратуру, хай сабе па-рознаму, але ж любім.

## Пенсія

Ёсць людзі, што чакаюць свайго выхаду на пенсію як нейкага паратунку, як вызвалення ад пакутаў і прымусаў. Адны з іх жартуюць на гэты конт, іншыя старанна адмоўчваюцца. Лёня Галубовіч казаў пра выхад на пенсію сур'ёзна, без жартаў і без каліва самаіроніі. Ён бачыў у пенсіі доўгі летні адпачынак, у якім будзе пісаць дзённік і парадкаваць напісанае раней. У пенсіі Галубовіч бачыў сваё простае шчасце. Ці знайшоў ён там шчасце? Не пытаў, бо гэта занадта сур'ёзнае пытанне, якое лепей адкласці на потым.

## Геніяльнасць

У геніі запісваюць. Недасведчаны і малаадукаваны чалавечак можа падумаць, што геніямі нараджаюцца ці імі робяцца. Не, не і не! Запісваюць у геніі. Дакладна. У нашым, як той казаў, кутку цемнаты крытык Лёня Галубовіч запісаў

у геніі паэта Алеся Разанава. Запісаў і запісаў, кожны мае права як на адкрыццё, так і на памылку. Але Галубовіч пачаў настойваць на сваім адкрыцці пазачарговага прыжыццёвага генія: «Калісьці я напісаў, што ён (Разанаў. — А. Г.) геній. Мог бы гэта паўтарыць і сёння. Але трэба быць ідыётам, каб адно і тое ж адкрыццё рабіць двойчы...» Зрабіць двойчы адно і тое ж адкрыццё складана; пагатоў калі яго робіць адзін і той жа адкрывальнік. Пагаджаюся. Дарэчы, скажу, што з запісам у геніі жывапісец Андрэй Смаляк спраўляецца лепей за крытыка Галубовіча. Першым у жывыя геніі Андрэй запісаў сябе любімага. Пра тое ён кажа ўсім і паўсюль. Калі нехта спрабуе запярэчыць, велікадушны Смаляк запісвае ў геніі і яго. Кажа: «І ты — геній!»

## Калідорная цвярозасць

Паэт Галубовіч піў. Ён піў шмат і дапіваўся да таго, што трапляў у лячэбніцы. Галубовіч лячыўся сам, і яго лячылі прымусова. У тыя паэтычныя і хмельныя часы я піў разам з Галубовічам таннае салодкае мацаванае віно. Мы напіваліся да бяспамяцтва і нават да скандалаў з бойкамі ў рэдакцыйных кабінетах. Ніхто не сумняваўся, што Галубовіч сап'ецца, як паспіваліся мільёны беларускіх мужыкоў. Не спіўся. Кінуў. Завязаў. Змог! У Маскве я сустрэў цвярозага Лёню. Сустрэў у калідоры Літаратурнага інстытута. Ён стаяў каля акна і курыў. Мы ўсе працягвалі піць і весяліцца. Мы набіраліся моцным віном, а ён стаяў самотны ў даўжэзным калідоры і курыў, пускаючы дым у фортачку. Калідорная цвярозасць Галубовіча ўражвала, больш

за тое, пераконвала, што можна і варта кінуць піць. Галубовіч стаў для больш маладых паэтаў прыкладам цвярозага, але ўсё яшчэ паэтычнага жыцця.

## Анталагічнасць

Здараецца дзіва: прачытаў верш — і запомніў. Адзін паэтычны твор вучыш-вучыш, а ён ну ніяк не завучваецца, адругі пачуў раз — і можаш паўтарыць. Запамінальны верш пішацца толькі сапраўдным паэтам. Калі ў складальніка вершаў ёсць нават адзін запамінальны радок, такі складальнік варты называцца паэтам. Лёня Галубовіч прыйшоў у літаратуру з запамінальным і, можна сказаць, анталагічным вершам.

**Збалела бабуля мілая...**

Бабулі маёй Алімпіядзе

*Збалела бабуля мілая.*
*Як выжыць яшчэ змагла?*
*Няўцешна вачыма мілуе*
*Закуткі свайго жытла.*

*Стаіць у двары як вечнае,*
*Нібыта душа сама;*
*І сонца яе прасвечвае,*
*І ценю ў яе няма...*

Аўтараў падобных анталагічных вершаў паэт Максім Танк называў алімпійцамі. Галубовіч, безумоўна, алімпіец.

Маючы адзін анталагічны верш, паэт можа дадаваць да яго новыя і новыя творы. Мае на

тое права. Не ўсё дададзенае будзе роўным, не ўсё будзе запамінальным і анталагічным. Яно і зразумела. Добра, што Галубовіч змог дадаць да свайго ўзорнага верша яшчэ і цэлую кнігу ўзорнай лірычнай прозы — «Зацемкі з левай кішэні».

## Ружовашчокасць

Лёня Галубовіч пераказвае ў сваёй кніжачцы байку пра Машэрава. Піша, што вясною бабы ў полі на народным звычаі нахіляліся, задзіралі спадніцы і паказвалі мужчынам «ружовашчокія» дупы. Сярод тых гледачоў нечакана-неспадзявана і апынуўся кіраўнік «бэсэсэры» Пётра Машэраў. Пётра, як памяркоўны начальнік, усё высветліў пра народны абрад і дараваў бабам паганскае хамства. У показцы пра Машэрава маё вока спынілася на «ружовашчокасці» бабскіх дуп. Дзе ж яму яшчэ спыніцца? Каб жаночая срака зрабілася ружовай, трэба ёй добра так пасядзець на нечым мулкім кшталту драўлянага крэсла, лавы ці зэдліка. Ведаю па натуршчыцах, што наседжваюць у мастакоўскіх атэлье прывабную «ружовашчокасць» на сваіх клубах. Калі тутэйшая баба працуе ў полі, дзе ж яна там крэсла знойдзе? Адпаведна, яе голая срака будзе не «ружовашчокай», а белай-белай.

Кніга Леаніда Галубовіча «Зацемкі з левай кішэні», якую выдаў Ігар Бабкоў у бібліятэцы часопіса «Фрагмэнты», на мой густ, узорная, вартая чытання і перачытвання. Яна яшчэ і адна з найлепшых кніжак у найноўшай беларускай літаратуры.

## Салодкае

Люблю салодкае. Шакалад, цукеркі, зефір, мармелад, пасціла — усё гэта для мяне вабнае і смачнае. Без салодкага і дня не пражываю, але прывучыў сябе піць каву і гарбату без цукру. Яны і без падсалоджвання дастаткова смачныя, на мой густ. Таму моцна ўразіла любоў да перасалоджанай гарбаты паэта Галубовіча. Ён сыпле ажно тры лыжачкі на адзін кубак; сіроп атрымліваецца, а не гарбата. Як такое густасалодкае можна выпіць? Дый сыпле Лёня ў чай не простыя лыжачкі, а падкрэслена «абавязковыя лыжачкі». Што ні кажы, а такое саладжэнне гарбаты — кулінарная распуста, далібог.

## Грошы

З грашыма ў Лёні Галубовіча заўсёды цяжкавата. Фінансы не ягоная стыхія. Кожны рубель на ўліку. Таму і запіс такі робіцца: «Сыс прасіў пяць тысяч рублёў на хлеб. Грошы былі, але не даў. З прынцыпу... Грашыма хлеб не даецца». Пашкадаваны Сысу рубель моцна муляў у кішэні. Так муляў, што ў наступным запісе чытаем зноў пра грошы: «У падземным пераходзе паклаў тысячу рублёў у вялікі футарал студэнта-віяланчэліста. На хаду, нават з нейкай сарамяжлівасцю (ад чаго?), не ўслухоўваючыся ў мелодыю, а ўслухоўваючыся ў сябе...» Ад чаго? Ды ад таго, што не даў Сысу на хлеб. Не папракаю я Лёню, крый бог, не папракаю. Гэта ён сам сябе есць за грошы на сысаўскі хлеб.

## Пасада

Не веру ў выбары і ніколі не верыў. Ні ў савецкі час, ні ў постсавецкі. У нас не выбіраюць, у нас прызначаюць. Нават на ўдзел у выбарах у нас прызначаюць. Але бываюць моманты, калі ўлада крыху слабне і можа вылучыць ці хоць бы паспрабаваць вылучыць нейкага альтэрнатыўнага гульца. Так мне падалося, што Лёня Галубовіч варты, каб пазмагацца за пасаду сакратара Саюза пісьменнікаў. Лёня спакойны, разважлівы, паслядоўны. На свет глядзіць крытычна, таму перад прыняццем якога рашэння абавязкова ўзважыць шмат за і шмат супраць. У адстойванні свайго беларускага Галубовіч — змагар узорны. Вылучыць яго на выбары мне ўдалося, але далей справа не пайшла. Выйграў тады прызначэнец — Алесь Пісьмянкоў. Выйграў і хутка згарэў на працы. Сэрца ў Алеся спынілася. Можа, і добра, што Лёня Галубовіч не займеў сакратарскай пасады і не сперажаваўся на ёй.

## Галубовіч і Вераціла

Леанід Галубовіч пра Сяргея Верацілу напісаў, што ў рукапісах Верацілы ёсць шчырая графаманія. Смела. Не кожны крытык можа так секануць празаіка. Далёка не кожны. Тым больш калі пісальнік шчырай графаманіі відавочна дужэйшы за свайго крытыка.

## Час

«Чалавек імкнецца быць роўным Богу — і Бог паскарае рытм жыцця... Я — адстаю, адстаю... Але — застаюся. У сваім часе. З сябе

не выбежыш...» — развамаe ў «Зацемках...» Галубовіч. Дзіўлюся... Чалавек, які верыць у Бога, асцеражэцца з Ім мерацца, пагатоў раўняцца. Чалавек, які не верыць у існаванне Бога, тым больш не стане сябе параўноўваць з тым, каго для яго няма. Праўда, мяне ў гэтых развагах зацікавілі не столькі думкі пра роўнасць і няроўнасць Богу, колькі безапеляцыйнае «З сябе не выбежыш...» Можна! Дакладна можна выбягаць з сябе. Бегаю штодня. Ведаю. Выбягаў з сябе-п'яніцы. Выбягаў, выбягаў і выбег. Як пазней я выбег з сябе — курца тытуню. Сто разоў узмок, але ж выбег. Мае я-п'яніца і я-курэц цяпер адпачываюць у парку, дзе я ўсё яшчэ працягваю бегаць кожны божы дзень.

## Хістанне

У Лёні ёсць зацемка «ГЛЁБУС падобны да мяне»: «Дзіўлюся часта на тое, як паводзіць сябе ГЛЁБУС. Круціцца ён, круціцца... Мільгаюць рэкі, горы, моры, Менск, Масква, Барсэлёна... А ён усё круціцца... Аднак я адчуваю сябе спакойна на сваім лапіку бацькаўшчыны, мяне нават не хістае...» Вядома, Лёня кінуў піць, і яго цяпер не хістае. Адхістаўся, паправіўся, супакоіўся. Некалі і я супакоюся на лапіку бацькаўшчыны, спадзяюся — на лапіку сваёй бацькаўшчыны, а не чужой.

## Кухня

Крытык Леанід Галубовіч піша на кухні. Менавіта кухню ён лічыць ці не найлепшым месцам для літаратурнай творчасці. «Кухня — “альма матар” літаратуры...» — кажа Галубовіч

у сваіх «Зацемках...». Можа, для крытыка яно і так, але сам я ніколі не пісаў уласна крытыку і ніколі не пісаў на кухні. Чаркі, шкваркі, катлеты, тлушч, цыбуля, рыба, часнок так моцна пахнуць, што побач з імі не да літаратуры мне. А як наясіся, дык жаданне пісаць адразу і прападзе. Пад'еўшы, добра пайсці ў парк прагуляцца. Дарэчы, у парку на лаўцы мне думаецца і пішацца значна лепей, чым у кватэры, хоць большасць з напісанага зроблена за кабінетным сталом.

# ЦЭСЛЕР

*Словы пра мастака Валодзю Цэслера*

## Розныя партрэты

Напісаць літаратурны партрэт плакатыста Цэслера? Без мяне напішуць. Жэня Ліпковіч усё жыццё піша і перапісвае партрэт свайго куміра Воўкі Цэслера. Для Жэні Цэслер заўсёды выглядаў мудрым, не раўнуючы, як біблейскі Саламон, такі сабе Саламон Мінскі і Слуцкі, Саламон з кавярні «Рамонак», што некалі квітнела на Паркавай магістралі. Калі Ліпковіч нарэшце скончыць партрэт, а Сяргей Шупа перакладзе літпартрэт на белмову, дык мне можна і не турбавацца. Можна якім іншым партрэтам у словах пазаймацца. Нават калі ў Ліпковіча нічога не атрымаецца, дык Таня Бембель напіша навуковы артыкул пра Вову плакатыста, графіка і жывапісца. Калі не вытанцуецца ў Тані... У яе, вядома, вытанцоўвалася, вытан-

цоўваецца і вытанцуецца. Але калі раптам нешта закруціцца не так, дык Сяргей Харэўскі за адну ноч выдасць эсэ «Авангардыст Цэслер і свабодная Беларусь». Правал Харэўскага можа лёгка выправіць Лёша Андрэеў. Ён зладзіць грунтоўную гутарку з Цэслерам пра ўсё ягонае жыццё ад самага пачатку. Лёша не стане спяшацца і будзе рабіць размову са шчырым Цэслерам цэлы каляндарны год. Калі ён не зробіць размову, што малаверагодна, тады Гена Рабцаў здыме пра Цэслера фільм, поўны розных размоў. Дарэчы, Гена фільм такі зняў, Лёша гутарку зрабіў, і Таня артыкул вытанцавала. Так што я магу не пісаць слоў пра дызайнера Валодзю, але яны самі бяруць і пішуцца.

## Прозвішча і мянушкі

Валодзю Цэслера ўсе называюць Цэслер. Толькі Віця — аддданы Цэслеру таварыш — кажа на Вову ўрачыстае «Цэзар». У Віці атрымліваецца так вымавіць слова «Цэзар», што гэта не гучыць сабачай мянушкай. Іншыя нават не спрабуюць, бо не атрымаецца. Каб я быў такім самаахвярным таварышам, як даўгатвары Віця, я б называў Вову Слуцкер. Сам я з Койданава, мне б пайшла мянушка Кайданоўскі, але артыст з такім прозвішчам ужо ёсць. Шкада! Зрэшты, і не шкада, бо артыст выдатны. Вова Цэслер са Слуцка, але ўжо ёсць паэт Слуцкі. Два Слуцкіх у культуры зашмат. Таму для Вовы я прыдумаў Слуцкера. Слуцкер, як і Цэзар, мянушка інтымная — для сваіх, для самых сваіх. Для ўсіх астатніх ён проста Цэслер. Яго ведаюць менавіта так — мастак Цэслер.

## Высокая жанчына Алена Лось

Ён любіць высокіх жанчын. Ён імі захапляецца. Ён стараецца іх развесяліць. Вова Цэслер расказваў анекдоты высокай, доўгавалосай, светласкурай Алене Лось, тая гучна смяялася на ўсю сваю двухпакаёўку. Цэслер пахіхікваў і расказваў адзін анекдот за другім...

Я сябраваў з Аленай і яе братам, яны мяне і пазнаёмілі з Цэслерам — выдатным апавядальнікам смешных показак. Тады яшчэ не было показак ад Нікуліна, пагатоў не было ад Трахтэнберга і Кулінковіча. Тады быў час показак ад Цэслера. Дзе ён іх браў? З паветра! Яны віселі ў паветры эпохі саўдэпаўскага застою. Ён іх браў з застойнага паветра і артыстычна расказваў высокім жанчынам, яны смяяліся і любілі Цэслера за ягоную весялосць. Калі показкі надакучвалі, калі рабілася больна смяяцца, Цэслер спяваў. У Алены Лось мы з ім спявалі «Купалінку». Мне падабалася спяваць з Цэслерам беларускія народныя песні пад гітару, у нас добра атрымлівался. Можаш у Алены Лось спытаць.

## Выключнасць і факультэт

Вова Цэслер моцна хацеў вучыцца на мастацкім факультэце і паступаў на графіку. Ён паступаў, а яго не прымалі. Ён паступаў і паступаў, а яго кожны раз нахабна завальвалі на іспытах. Тады Вова паступіў на мастацка-прамысловы факультэт. За час вучобы ён паспеў стаць сапраўдным каралём свайго факультэта. Яго запаважалі, пра яго загаварылі, яму пачалі зайздросціць. Праўда, слава Вовы Цэслера не распаўсюджвалася на факультэт мастацкі і на

факультэт тэатральны, дзе ён быў вядомы, але не славуты. На кожным факультэце хадзілі свае каралі.

## Цукровыя вежы

У кавярні «Рамонак» мы збіраліся, каб выпіць віна, гарэлкі і, зразумела, кавы. Да маленечкага кубачка чорнай кавы падавалі дзве цукровыя цаглінкі і лыжачку. Большасць нашых хіповых хлопцаў і дзяўчат пілі каву без цукру. Калі нехта піў салодкую, дык тым хапала і аднаго цукровага кавалачка. За вечар на сталах збіралася шмат цукру. Вова Цэслер выбудоўваў з рафінаду цэлыя белыя вежы. У «Рамонку» нават з'явілася такая завядзёнка — здаваць цукар Цэслеру. Мы здавалі, а ён будаваў Вавілонскую вежу з салодкіх цаглінак. Хто і калі тую вежу разбурыў? Ніхто яе і не разбураў. Мы з «Рамонка» перайшлі ў Траецкае, дзе можна было заказваць каву без цукру. Калі нехта хацеў падсаладзіць, дык чэрпаў лыжачкай цукровы пясок. Рафінадныя вежы Цэслера назаўжды засталіся ў кавярні «Рамонак».

## Леніна і кабінет

У нашым інстытуце быў маленечкі кабінет, дзе дазвалялася быць свабодным і выказваць сваё меркаванне пра сучаснае мастацтва. Гаспадыняй таго кабінеціка была Леніна Міронава — выкладчыца колеразнаўства. На яе занятках можна было захапляцца Малевічам і Вазарэлі, можна было слухаць лірыку ранняга Забалоцкага:

*Человек, как гусь, как рак,*
*Носом радостно трубя,*

*Покидая дна овраг,*
*Шел, бородку теребя.*

*Он размахивал хвостом,*
*Он притоптывал ногой*
*И кружился колесом,*
*Безволосый и нагой.*

Можна было слухаць Шонберга. У яе кабінеціку мы ладзілі таемныя семінары, прысвечаныя фантастычным метамарфозам і казачным пераўтварэнням чалавека ў цмока ды цмока ў чалавека. Леніна са сваім чароўным шматколерным і вясёлкавым кабінетам была, як пазней казалі, культавай асобай. Усе ведалі, што Міронава піша кнігу. Мусіць, ні адну кнігу так не чакалі ў нашым інстытуце, як чакалі кнігу Леніны. Аздабленне кнігі было даручана аднаму з любімых вучняў Міронавай — Цэслеру. Ён пастараўся. Ён мусіў давесці ўсім беларускім графікам, што ён — Вова Цэслер — і ў кніжнай графіцы адзін з найлепшых. Давёў. Кніга Леніны Міронавай «Колеразнаўства» атрымалася па ўсіх параметрах выключнай. Яе куплялі, яе чыталі, перачытвалі і цытавалі. Дрэва, якое Цэслер намаляваў на супервокладцы «Колеразнаўства», было перамалёвана на сцяну кавярні ў Траецкім прадмесці, пад тым дрэвам мінскія мастакі любілі выпіць і пагаварыць пра ўсё на свеце, ну і пра Леніну з яе чароўным кабінецікам, вядома, не забывалі.

## Польскасць і дадаванне

Каб стаць вядомым беларускім мастаком, трэба нешта ў тутэйшае мастацтва дадаць. Трэба недзе павучыцца, штосьці вартае запа-

зычыць і прышчапіць тое запазычанае на дрэва беларускага мастацтва. Манументаліст Кішчанка пазычаў матывы ў французскіх габеленшчыкаў кшталту Люрса. Графікі Кашкурэвічы захапляліся і захапляюцца германскім экспрэсіянізмам. Грыневіч у нас мастак амерыканскі. Шкаруба — латыш. Бархаткоў — рускі. Калі прыняць такі погляд на сучаснае беларускае мастацтва, дык Вова Цэслер будзе мастаком польскім. Цэслер любіць гумар, а гумар любіць Вовачку. Асноўны жанр у шматаблічнай творчасці Цэслера — плакат. Які плакат для нас найлепшы? Вядома, плакат польскі. Які гумар для нас быў самым дасціпным? Гумар з часопіса «Шпількі». Рускі «Кракадзіл», украінскі «Перац» і беларускі «Вожык» не проста саступалі польскім «Шпількам», яны нават смешнымі для нас ніколі не былі. Што за жыццё без анекдота? Дрэнь, панылае лайно і «гувна з пяскам». Цэслер любіць весяліцца і весяліць, любіць усміхацца, смяяцца, пасміхацца і робіць гэта шляхетна, амаль папольску.

## Асяроддзе і завадатар

Вакол Вовы Цэслера жыццё бушуе, кіпіць. Нехта да яго заходзіць, завальваецца, забягае, заскоквае, залятае... Нехта ад яго сыходзіць. Тэлефон звоніць. Камера здымае. Дыктафон піша. На пліце нешта варыцца, пражыцца, грэецца. Моцнае наліваецца ў чаркі. Больш слабае разліваецца ў шклянкі... Так з самай раніцы і да позняга вечара. Вова пасярод усяго гэтага кіпення працуе. Ён працуе паўсюль і заўсёды. Для працы яму патрэбен навакольны вір падзей, і ў гэтым віры ён — завадатар.

## «Гор-топ» каля кнігарні

Сямідзясятыя гады прайшлі ў Мінску пад знакам пацыфіку. Зразумела, далёка не для ўсіх мінчан яны прайшлі разам з хіпі, але цэнтравая моладзь была хіповай. Асноўныя месцы збору тутэйшага хіпар'я былі такімі: Грыц — цяпер сквер Янкі Купалы; Памыйка — цяпер там універсам «Цэнтральны», кавярня «Акварыум», рэстарацыя з прыбіральняй «Макдоналдс» і бар пад ім; Алейка — зараз тут скверыкі з лаўкамі на вуліцы Леніна з абодвух бакоў праспекта Незалежнасці, Ратуша — плошча Незалежнасці. Калі мае блізкія сябры былі заўсёднікамі Памыйкі і Алейкі, дык Вова Цэслер з кампаніяй сядзеў на праспектнай лавачцы паміж «Цэнтральнай» кнігарняй і цукерачнай крамай «Ласунак». Лаўка, зразумела, не прызначалася для збору хіпі, яе паставілі на прыпынку для тралейбусна-аўтобусных пасажыраў, але штовечар на ёй спыняліся доўгавалосыя мастакі. Іх кампанію называлі «Гор-топ». Яны любілі па ГОРадзе ТОПаць, і яны ТОПалі па ГОРадзе Мінску з гонарам і годнасцю, яны ТОПалі і спыняліся каля кнігарні. Большасць гартопаўцаў вучылася на розных аддзяленнях прамысловага факультэта ў тэатральна-мастацкім інстытуце. Пазней іх усіх назавуць дызайнерамі, а дызайн зробіцца модным заняткам. Большасць гартопаўцаў уступіць у навастораны Беларускі саюз дызайнераў і стане ягонай годнасцю і гонарам.

## Вяртанне ў Мінск

Вова заўсёды збіраўся некуды з'ехаць. Калі сядзеў на лаўцы каля «Цэнтральнай» кнігар-

ні, збіраўся ў Амерыку. Тады Штаты падаваліся адзінай вартай захаплення краінай. Толькі там ён бачыў нармальныя ўмовы для сучаснага мастака. Амерыканскае кіно, амерыканскія машыны, амерыканская архітэктура выклікалі ў Валодзі пачуццё глыбокага захаплення, і не толькі ў яго, дарэчы. Часопіс «Амерыка» быў найлепшым часопісам, які можна было дастаць і пачытаць на рускай мове. Некаторыя з нашых мінскіх мастакоў сабраліся і паехалі ў Амерыку. З'ехаў Коўзусь, з'ехаў Пчалінцаў, а Цэслер застаўся. Разам з тымі, хто застаўся, Вова захапіўся працай для Масквы, бо толькі там можна было добра зарабіць. У Расіі круціліся лёгкія грошы, іх круцілася шмат. Цэслер сабраў лыжачкі, відэльцы, талерачкі ды перабраўся жыць у Маскву, каб на расійскім тэлебачанні папрацаваць, памаляваць і падзарабіць. Не склалася. Так здараецца, што нешта ў жыцці возьме ды не складзецца. У большасці эмігрантаў якраз і не складваецца, але гэтая большасць не хоча прызнаваць паразу, не хоча вяртацца без відавочнай перамогі. Цэслер вярнуўся, прыехаў у Мінск разам з талерачкамі, лыжачкамі і відэльцамі.

## Войчанка і Чаплін

Паўжыцця Цэслер прапрацаваў з Войчанкам. Гаворыш Цэслер, а чуеш — Войчанка, кажаш Войчанка, а чуеш — Цэслер. Мяне заўсёды цікавіла, як яны сышліся, як паразумеліся, як адчулі роднасную блізкасць у творчасці? Войчанка расказаў: «Усё вырашыў партрэт Чарлі Чапліна. У Цэслера вісеў у майстэрні партрэт Чапліна, і такі самы

партрэт вісеў у мяне. Цалкам аднолькавыя партрэты былі ў яго і ў мяне. Чаплін! Нас аб'яднаў ён. Ягоная творчасць была для нас узорным мастацтвам. Каб не Чаплін, мы, можа, і не сышліся б ніколі!»

## Трагедыя ў «Павуцінцы»

Быў час, калі да знакамітага дуэта плакатыстаў Цэслера і Войчанкі далучыўся Шалюта. Ён працаваў рэдактарам у выдавецтве і быў спрытным менеджарам. Шалюта нават знешне быў падобны да чыноўніка, а не да мастака. Можа, з-за гэтага і стаў ён ахвярай бандыцкага нападу. Трагедыя адбылася ў кавярні «Павуцінка», якая некалі стаяла побач з цукерачнай крамай «Рамонак», што на праспекце Пераможцаў. Шалюта, седзячы за белым столікам, размаўляў з Войчанкам. За суседнім столікам выпівалі бандыты. Ім падалося, што Войчанка з Шалютам крыва глядзяць. Бандыты запатрабавалі, каб плакатысты не зіркалі ў іх бок. Баявітасць Войчанкі, яго рэзкія выказванні пра бандзюкоў прывялі да таго, што адзін крымінальнік устаў, разбіў бутэльку аб кант металічнага стала і «розачкай» разваліў горла Шалюты. Бандыты ўцяклі. Дактары выратавалі плакатыста. Шалюта вярнуўся да працы, але ў Мінску яму не жылося, і ён з'ехаў у Маскву. Дуэт Войчанкі і Цэслера застаўся без менеджара і больш не рабіў спробы зрабіцца трыа.

## Смаката і дыеты

Мастакі не любяць есці ў майстэрні. Выпіць-закусіць — святое. А каб есці, а яшчэ і га-

таваць? Не мастакоўскае. Ёсці трэба дома, а не на працы. Разумею, прымаю і падтрымліваю. У Цэслера ў гэтай справе ўсё з дакладнасцю наадварот. Ён любіць гатаваць і есці ў майстэрні. Наогул ён любіць есці і гатаваць. Калі скажу, што адны з самых смачных дранікаў, якія давялося пакаштаваць, насмажыў Вова Цэслер, можаш не паверыць. Твая справа, але я такое сказаў і магу паўтарыць. Цэслер гатуе добра. Ён умее зрабіць смакату. Шмат хто запрашаў Цэслера на розныя ўрачыстасці ў якасці кухара. Брат мой запрашаў і не памыліўся.

Цэслер аднойчы пытаўся ў мяне, што я ўчора еў. Пытаўся, як пыталася маці, калі я прыходзіў з дзіцячага садка: «Што ты, Валодзя, сёння еў?» Зазвычай людзі не памятаюць, што і як яны елі ўчора, пазаўчора і нават сягоння. Цэслер пра гэта цудоўна ведаў, таму і пытаўся. Толькі ён не ведаў, што ў дзіцячым садку мяне навучылі запамінаць спажытыя стравы. Выхавацелькі мае ў час вайны служылі ў разведцы, яны і навучылі фіксаваць увагу на розных бытавых рознасцях. Таму я адказаў на кулінарнае пытанне і крыху расчараваў кухара Цэслера. Можа, і дарэмна расчараваў... Трэба было сказаць, што не памятаю нічога, і праслухаць чарговую пахвалу харчаванню і дыеталогіі ад Уладзіміра Цэслера.

## Сябры і весялосць

У маладосці Вова Цэслер жыў у сяброў. То ў аднаго, то ў другога, то ў трэцяга... Ён жыў у сяброў і збіраў грошы на майстэрню; а займеўшы яе, адразу пачаў збіраць грошы на ква-

тэру. Каб жыць у чужых людзей, трэба ўмець дагаджаць. Цэслер — вялікі майстра ў справе дагаджаць і дагадзіць. Ён не толькі ўмее дагаджаць чалавеку, ён умее сябраваць. Калі Майк Навуменка спявае: «У меня миллион друзей!» — спявае пра такіх, як Вова Цэслер. У Валодзі сяброў безліч. Ён збірае іх на дзень народзінаў у лесе, збірае на беразе Мінскага мора, збірае на вольным паветры, бо для рэстаранных і банкетных залаў іх у яго зашмат. З усіх сяброў самым вялікім сябрам Цэслера быў Войчанка. Бясспрэчна. У іх быў творчы тандэм. Чамусьці я больш сябраваў з Войчанкам. З ім я больш выпіў і больш прагаварыў пра творчасць, пра рэчы сур'ёзныя і глыбокія. З Цэслерам я больш правесяліўся і прасмяяўся, весялюся і цяпер...

## Бойка і кіно

Кожны мастак з нашай генерацыі так ці інакш перасякаўся з кінавытворчасцю. Некага яна захапіла больш, некага менш, але ўсе паспыталі горкага кінахлеба. Цэслер яшчэ ў часы нашага студэнцтва пачаў здымаць мультфільмы ды кінакарціны. З цэслераўскіх мультфільмаў мне запомніўся чалавек, які паядаў мух. У стужцы гэта было смешна, бо мухаед нечым нагадваў жабку. Паяданне мух у яго атрымлівалася натуральна і вельмі спрытна. Другі цэслераўскі кінапраект быў звязаны з Леанарда і ягонай «Таемнай вячэраю». Ролю Іаана ў той вячэры выконвала жанчына — Алена Лось. Сам Цэслер зняўся ў ролі срэбралюбівага і амбітнага Іуды. Фільм паказвалі на пераднавагодняй вечарыне. Пасля прагляду мы пілі ў прыбіральні бальзам

«Абу-Сімбел» — дрэнь страшная. Пілі не толькі мы. Піло шмат народу, і тая вечарынка пачалася і скончылася бойкамі. Яна скончылася такой бойкай, што яе разбіралі на агульным камсамольскім сходзе. На ім жа прагналі з працы кіраўніка камсамольскай арганізацыі інстытута. На яго месца выбіралі нават Вову Цэслера, але не выбралі.

## Шырокія погляды

У сярэдзіне 80-х пачаўся рок-н-рольны час. Можна было малпе даць рыдлёўку — і яна лабала рок. Усе спявалі, усе лабалі і ўсе танцавалі. Рок-гуртоў панарасло як грыбоў у дажджлівым жніўні. У кожным клубе, у кожным двары, у кожным пад’ездзе гучала гітара. Слаўка ў мінскай рок-н-рольнай справе быў адным з першых. Яго за гэта і паважалі. За піянерства паважалі. Таму ён шмат каго ведаў, шмат з кім выпіваў і шмат дзе тусаваўся. У майстэрні Цэслера Слаўка быў сваім чалавекам. Выглядаў ён як вялікае дзіця. Светлавалосы, кучаравы, са здзіўленымі вачыма. Ніякіх блізкіх адносін з рок-н-рольшчыкам Слаўкам я не меў, але, калі ён прапаў з далягляду, я пацікавіўся ў Цэслера: «Дзе падзеўся Слаўка?» Пачутае мяне ўзрушыла... «Валодзя, ты ведаеш, у мяне шырокія погляды на жыццё. Я спакойна гляджу на самыя розныя вычварэнні, але Слаўка мяне дастаў. Ён прывёў да мяне ў майстэрню нейкую малалетнюю сікуху. Пакуль мы выпівалі, ён зацягнуў яе ў душ, распрануў, распрануўся сам і зрабіў ёй клізму. Сікуха высралася ў маім душы. Мы выпівалі, і раптам пачало страшна смярдзець. Заходжу я ў душ, а яны там топчуцца ў гаўне. Такога нават я не

змог вытрымаць. Прагнаў Слаўку. Сказаў, каб у мяне ён больш не з’яўляўся. Кірылаў Жэня яго таксама прагнаў».

## Яйкі і пытанне

Быў момант, калі Цэслер з Войчанкам захапіліся яйкамі. Яны вырашылі ўсе пошукі знакамітых творцаў дваццатага стагоддзя ўпісаць у ідэальную форму. Найлепшай формаю яны палічылі яйка. Папулярнасць гэтай формы сярод мастакоў і царкоўнікаў была заўсёды, але з вяртаннем хрысціянства на постсавецкія прасторы і на прасторы былога сацыялістычнага лагера яйка зрабілася, бадай, самай папулярнай і запатрабаванай, нават культавай формай. Яйка пачало атаясамлівацца са святочнасцю, радасцю, прыгажосцю (не пабаімся гэтага зацухмоленага пашлякамі слова!), уваскрашэннем і адраджэннем. Пікаса, Маякоўскі, Малевіч, Бродскі і шмат хто іншы атрымалі персанальнае яйка ад Валодзі Цэслера і Сяргея Войчанкі. Больш за год кожны вечар, перад тым як выйсці з майстэрні, яйкалюбівыя мастакі сядалі за стол і задавалі сабе адно і тое ж пытанне: «Што за сённяшні дзень мы зрабілі для яек? Ці дзень атрымаўся змарнаваным?» Праект з яйкамі быў зроблены, дароблены, перароблены, выпраўлены і выстаўлены. Ён атрымаў шырокі розгалас. Заслужана атрымаў. Асабіста мне ў тым яечным праекце спадабалася вечаровае штодзённае пытанне пра марнасць, пытанне, якое павінен задаваць сабе кожны мастак, перад тым як сысці адпачываць са свайго атэлье.

## Стыль і гумар

Валодзя Цэслер, як і ўсе праўдзівыя мастакі, сфарміраваныя ў другой палове дваццатага стагоддзя, жыве і працуе ў стылі постмадэрнізм. Адпаведна, ён пераасэнсоўвае і пераніцоўвае спадчыну папярэднікаў — вялікіх мадэрністаў. Сярод якіх самымі любімымі ў Цэслера, безумоўна, з'яўляюцца сюррэалісты, кшталту Сальвадора (Уладзіміравіча) Далі і Рэнэ (Якаўлевіча) Магрыта. Сюррэалізм — звышрэальнасць, створаная з цалкам рэальных рэчаў, якія спалучаны ў нечаканую кампазіцыю. Падобным чынам старажытныя грэкі з каня і чалавека сканструявалі сабе кентаўра, а з рыбіны і жанчыны еўрапейскія казачнікі зляпілі русалку. Так постмадэрніст Цэслер з сабакі і рыбіны стварае сабаку-русалачку і называе яе мянушкай тургенеўскай гераіні — Муму. Смешна. Постмадэрністычны сюррэалізм Валодзі Цэслера вясёлы і гумарны нават у палітычных плакатах, на якіх Карл Маркс спрабуе згаліць сваю шыкоўную бараду брытвай «Шык», а профіль крыважэрнага Сталіна з'яўляецца ў шчарбінах на лязе старога тупога сталёвага нажа. У творчасці Цэслера няма месца маркоце, панылассці і жалобе, ён у самыя драматычныя моманты жыцця зможа расказаць смешную показку, і тая будзе дарэчы.

## Хаўтуры і пазітыў

Вова Цэслер можа прыйсці на пахаванне і там, побач з труною добра знаёмага мастака, пачаць запрашаць людзей на свой дзень народзінаў. Чысты пазітыў. Толькі Цэслер на такое здатны.

## Імя і майстэрства

У Цэслера ёсць імя. Скажы ў Мінску «Цэслер» — і шмат хто будзе ведаць, што гутарка ідзе пра мастака. Сваё імя Валодзя ствараў удзеламі ў розных конкурсах і выставах. Калі ні сустрэну Цэслера, ён абавязкова раскажа пра сваю перамогу на чарговым конкурсе. Яго плакаты бралі прызавыя месцы ў Польшчы і Венгрыі... У Будапешце нават паштоўка выходзіла з плакатам Цэслера. Яго творы друкаваліся на марках. Яго твар увесь час мільгае на тэлебачанні ды сайтах і выдрукоўваецца ў часопісах ды газетах. Цэслер добра пачуваецца ў інфармацыйнай прасторы, бо пераважная большасць матэрыялаў пра Вову станоўчая. Яго амаль і не крытыкуюць. Зрэдчас выскачыць які-небудзь Пілiп з канапель, гаўкне на Цэслера, пакрычыць: «Дранік! Дранік! Дранік!» — і схаваецца ў глыбокую шэрую невядомасць. Станоўчасць Цэслера трымаецца на майстэрстве. Валодзя не проста выточвае і вылізвае працы, ён іх выштукоўвае да крыштальнага звону. Нават у часы гламурнай кічавасці працы Цэслера вылучаліся бляскам. Такое майстэрства прыцягвае ўвагу і заслугоўвае павагі. Цэслера ведаюць і паважаюць, таму да яго нясуць розныя задумкі ды выдумкі. «Я такое смешнае прыдумаў, трэба Цэслеру расказаць! Каб намаляваў...» — такое і да такога падобнае я чуў шмат разоў. У Цэслера заўсёды шмат заказаў і многа памагатых. Ён майстравіта і нястомна працуе на імя, а імя працуе на яго — на Цэслера.

# АЛЕСЬ

*Згадкі пра пісьменніка Алеся Асташонка*

## Чароўная шафа

Геніяльная перакладчыца старажытнаяпонскіх вершаў на сучасную рускую мову паказала сваю чароўную шафу. Яна падвяла мяне да зашклёных паліц, шчыльна застаўленых кніжкамі, і прашаптала: «Што скажаш нам, мая чароўная шафа?» Шафа ціха рыпнула дзверцамі, калі адчынялася. «Шафа прапануе табе прачытаць фацэцыі Поджа Брачаліні, напісаныя ў эпоху ранняга Адраджэння. У маёй шафы ёсць толькі французская версія гэтай кніжкі доксаграфічных анекдотаў, напоўненых іранічным эратызмам...» Я не стаў спрачацца з чароўнай шафаю. Няведанне французскай мовы не спыніла мяне, кнігу я забраў. Я паспадзяваўся, што мой сябра Алесь Асташонак дапаможа раскрыць таямніцу Брачаліні; з ягоным веданнем моў прачытаць і пераказаць мне некалькі навелак не склала б аніякай цяжкасці. Але парыжскаму выданню Брачаліні, прывезенаму з Масквы ў Мінск, не пашанцавала, Асташонак яго згубіў, згубіў незваротна.

Страта кнігі, падараванай чароўнай шафаю, прымусіла мяне адшукаць рускую версію фацэцый выдавецтва «Academia», зробленую Джывелегавым у далёкім 1934 годзе. Я прачытаў Брачаліні і пераканаўся, што сувязь часоў не перарвалася. Чароўная шафа выдала мне выдатны ўзор для вывучэння і пераймання. Канешне, ты можаш сказаць, што гэта ўсё зрабіла Вера Маркава, а ў чароўнасць шафы, што

стаяла ў доме кампазітараў на вуліцы Готвальда, ты не верыш. Кажы так, але ўсё адно я застануся пры сваім алагічным меркаванні пра чароўную шафу.

## Банкет

З паэтам Галубовічам згадвалі добрымі словамі нашу Таню Сапач, якая так заўчасна і так страшна пакінула свет. Лёня ўспомніў даўнюю начную гулянку ў доме творчасці «Іслач». Зладзіў банкет вясёлы драматург Алесь Асташонак, за стол акрамя яго паселі: Сапач з мужам Дубаўцом, перакладчыца з Балгарыі Зоя Васільева і паэт Лёня Галубовіч. Пілі тады шмат. Напіліся ўсе, акрамя Лёні, ён быў у мёртвай завязцы. Дубавец сказаў, што «Іслач» з банкетамі яму надакучыла, выйшаў на шашу і на папутцы з'ехаў у сваю любую Вільню. Алесь Асташонак некуды звёў балгарку. Лёня з Таняю палеглі спаць на розныя ложкі. «Чую: яна не спіць. І я не сплю. Калі не ўстану, падумае, што я не мужчына. Калі ўстану, як потым глядзець у вочы Дубаўцу? Так мы і праляжалі да раніцы. Калі крышку развіднела, я ціхенька ўстаў, падышоў да акна і стаў глядзець на лес. Таццяна таксама ўстала, падышла да мяне і пачала глядзець на сосны. Я набраўся смеласці і зірнуў на яе, а яна зіркнула ў адказ і пачала смяяцца. Яна так смяялася, што і мне зрабілася весела і лёгка. Мы насмяяліся да слёз...»

## Душа

Асташонак любіў паразважаць пра душу. Ён мог гадзінамі расказваць пра вывучэнне ўласнай душы і пра свае назіранні за душамі нік-

чэмных п’янчуг. Насамрэч Алесь Асташонак апраўдваў такім чынам сваё банальнае п’янства з доўгатэрміновымі запоямі. Вывучэнне сваёй душы скончылася заўчаснай смерцю драматурга ў пяцьдзясят.

## Стральцоў

Нехта, здаецца, Анатоль Сідарэвіч... (Дарэчы, гэта ж так па-стральцоўску — пачаць абзац са слова «нехта».) Пэўна, Сідарэвіч, седзячы ў пракуранай рэдакцыі часопіса «Крыніца», сказаў, што для яго ці не найлепшы вобраз, створаны Міхасём Стральцовым, такі: нехта пад ліхтаром чытае газету. Горад, ноч, ліхтар, чытач, газета. Самотны чытач у начным горадзе — стральцоўскі вобраз, безумоўна. Не так і важна, хто тое заўважыў: Анатоль Сідарэвіч ці Алесь Асташонак. Дакладна, што Сідарэвіч расказваў, як яны — студэнты, паэты і пісьменнікі-пачаткоўцы — чакалі апавяданняў Міхася Стральцова. Чакалі, а дачакаўшыся, чыталі, перачытвалі, зачытваліся, абмяркоўвалі... Хто цяпер чакае газетнае ці часопіснае апавяданне? Хто, стоячы ў начным горадзе пад запаленым ліхтаром, чытае газету? Усё змянілася. Большасць са зmененага і замененага пазабывалася. Усё яшчэ зменіцца пару-тройку разоў, пра нас забудуцца, мо нават забудуцца пра пісьменніка Міхася Стральцова, але чалавек самотны будзе чытаць.

## Гілевіч і Рубанаў

У фалькларыста Гілевіча ёсць часопісны столік, куды Ніл Сымонавіч складае кнігі, якія збіраецца прачытаць. На тым століку столькі

розных тамоў, томікаў і часопісаў наладавана, што здаецца: яшчэ адну газету пакладзеш — і ножкі пад стальніцай падломяцца. Такіх грандыёзных планаў па чытанні ў мяне няма. Я, вядома, збіраюся сякія-такія кнігі абавязкова прачытаць, але не моцна перажываю, калі іх не прачытваю ці не дачытваю да канца. Даўно збіраюся пачытаць прозу Уладзіслава Рубанава, нешта з ягоных кніжак «Светлы ручай любові» ды «Пахі адталай зямлі». Збіраюся, бо сябра Рубанава — Алесь Асташонак — казаў, што сам пісьменнік лічыў сябе найлепшым празаікам у Беларусі. «Усе чытаюць і перачытваюць мае творы, мае аповесці і апавяданні. Пра мяне мала пішуць і мала гавораць, бо зайздросцяць. Ведаю: чытаюць і зайздросцяць!» Трэба мне ўсё ж пачытаць Рубанава, мо і я пазайздрошчу. Столік часопісны з кнігамі для абавязковага прачытання таксама варта завесці, хоць бы дзеля кабінетнай утульнасці.

## «Наша Ніва»

З няспраўджанага і нязробленага мне шкада планаў прысвяціць цэлы нумар штотыднёвіка «Наша Ніва» творчасці Алеся Асташонка. Ідэя належала рэдактару Дубаўцу: «А ці не зрабіць нам нумар, прысвечаны Асташонку?» Пытанне завісла ў пракуранай тытунём рэдакцыі. «Чаму Асташонку?» — «Няўжо ён варты цэлага нумара?» — «Вядома, Алесь цікавы пісьменнік, але прысвячаць яму цэлы нумар...» — «Нечакана!» Дубавец заварыў сабе вялікі кубак кавы і адказаў: «Правільна! У чытача будзе здзіўленне. Ад нечаканасці — цэлы нумар пра аднаго Алеся Асташонка». Усе пачалі ўяўляць сабе нумар

штотыднёвіка пра драматурга і празаіка Асташонка. Пасыпаліся прапановы. Здавалася, што «Наша Ніва» абавязкова выйдзе з партрэтам Алеся Асташонка на першай паласе. Не выйшла. Не зрабілі. Кінулі і забылі. Шкада. Часам шкада ледзь не да слёз.

## Апавяданні

Асташонак належаў да той школы нашых празаікаў, якія, перад тым як здаць апавяданне ў рэдакцыю, давалі прачытаць свой твор старэйшаму таварышу. Для Алеся было важным пачуць крытыку і заўвагі ад чалавека добразычлівага і зацікаўленага ў ягоным літаратурным поспеху. Таму і сам Асташонак з радасцю выступаў у ролі першага чытача для больш маладых пісьменнікаў. Ён вельмі сур'ёзна падыходзіў да такога чытання і пазнейшай размовы пра твор. Ён умеў пахваліць; умеў паказаць хібы так, каб не пакрыўдзіць; умеў пераканаць пісьменніка ўнесці праўкі і зрабіць дапрацоўкі. Можа, у каго і былі іншыя адносіны з Алесем, але ў мяне скла́ліся менавіта такія. Асташонак быў першым чытачом маіх апавяданняў, напісаных у Дубултах, дзе мы разам адпачывалі на беразе мора. Алесь прачытаў і вычытаў «Акадэмічны адпачынак студэнта Дз.» і «Латвійскі дэтэктыў». Да «Дэтэктыва» Асташонак паставіўся прахалодна, а пра «Адпачынак...» сказаў, што сам бы хацеў мець падобны твор. Высокая адзнака мяне моцна ўзрадавала і запомнілася. Быў сонечны летні дзень, мы ехалі ў цягніку з Рыгі ў Мінск і верылі, што наперадзе ў нас доўгае і шчаслівае жыццё.

## Незадаволенасць

Алесь быў нэндза. Яго па-мужчынску грунтоўнае ныццё ніколі не перарывалася... «Жыве чалавек. Яму даўно ўжо сумна і нудна. Усё ў ягоным жыцці склалася не так, як ён калісь меркаваў, марыў. Ён не знаходзіць сабе не тое што спакою — месца сабе не знаходзіць. Анідзе. Зрэдчас яму хочацца ўсё разбурыць і перабудаваць. Іншы раз нават вельмі моцна. Але ён ніколі на гэта не рашаецца. Незадаволенасць сваім існаваннем грызе яго, точыць, бы шашаль». Вельмі аўтапартрэтнае апісанне з апавядання «Жыццё праходзіць». Праўда, сам Асташонак зрэдчас бурыў і перабудоўваў сваё жыццё, але ўсё адно заставаўся звышсур’ёзным і праз тую сур’ёзнасць маркотным.

## Чорныя панчохі

Для Алеся ў эратычных гульнях шмат значылі знешнія эфекты. Ён любіў, каб на аголенай жанчыне заставаліся чорныя панчохі. Ён нават здзівіўся, калі пачуў, што я абыякавы да жаночых панчох. «Мяне моцна заводзяць чорныя панчохі!» — прызнаваўся Асташонак. У ягонай літаратуры эротыка заставалася тэатральнай і дэкаратыўнай, накшталт вось такой фальклорнай з апавядання «Дождж»: «А прапаршчык, які ўжо, адышоўшы не раз убок, “узяў на грудзі”, менціць развязаным языком пра нейкіх сёстраў Уншліхт з іхняга гарадка, пра дзвюх кабыл са сцёгнамі-кумпякамі й цыцкамі, што вёдры, якія, “стаміўшыся” ад мужыкоў, забаўляюцца з вялікім сенбернарам і даюць сябе ў гэтых гульнях фатаграфаваць. А то й

можна паназіраць. І нават за так. Калі ім захочацца каго-небудзь падражніць. Яны гэта любяць...» Алесь любіў тэатральнасць ва ўсім. Таму мяне і не ўразіла тое, што адна з жанчын пасля ночы з Алесем казала: «Ён мяне проста скарыстаў... Як рэч, як ляльку, а не як чалавека ён мяне выкарыстаў».

## Званкі

Пасля публікацыі свайго апавядання Алесь чакаў тэлефонных званкоў. Для яго былі важнымі такія тэлефонныя водгукі. Звычайна адразу пасля выхаду часопіса з апавяданнем Асташонак моцна напіваўся з сябрамі ды знаёмымі ў бары, а потым тыдні два паціху пахмяляўся і напружана чакаў званкоў. Пра кожны такі званок ён урачыста паведамляў усім, каго бачыў. «Жыжэнка высока ацаніў маю “Шклатару”!.. Сёння тэлефанавалі Галубовіч і Федарэнка. Віншавалі... Чакаю званкоў з кінастудыі. Можа, і “Шклатару” экранізуюць, як “Чаргу”... Спадзяюся на Бокуня». Бачачы глыбокія перажыванні Алеся, шмат хто хваліў ягоныя апавяданні, нават не чытаючы.

## Кватэра

У маёй новай кватэры Асташонак быў адзін раз. Ён зайшоў, скінуў чаравікі, але застаўся ў шэрым доўгім скураным палітоне. Алесь пахадзіў па ўсіх пакоях, спыніўся пасярод самага вялікага і сказаў: «Гляджу я на тваю прасторную кватэру, Валодзя, і разумею, што ты ніколі не пойдзеш да мяне, каб пазычыць трыста еўра...» Тым разам Асташонак зрабіў у мяне чарговую пазыку. Грошы вяртаў не ён, а яго

другая жонка. Так што ні я Асташонку, ні Асташонак мне нічога не павінны. Гэта добра, калі ў людзей няма грашовых запазычанасцяў. Таму мне лёгка згадваць Алеся, які стаіць у шкарпэтках і скураным палітоне пасярод маёй свежаадрамантаванай кватэры і разважае пра свой цяжкі лёс п'яніцы.

## Жалезка і выпіўка

Алесь, Анатоль і Міколка любілі выпіць. Можа, каму збоку і падавалася, што акрамя выпіўкі іх цікавілі жанчыны. Але такі погляд на гэтых трох сучасных літаратараў быў памылковым. Гарэлка іх цікавіла найперш. Яны прачыналіся з думкамі пра чарку і засыналі з марамі пра выпіўку. Былі моманты, калі ні ў Алеся, ні ў Анатоля, ні ў Міколкі не было нават аднаго рубля на пляшку. Тады яны імітавалі цікавасць да старэйшых і заможных жанчын, каб выцягнуць з іх грошы на выпівон. Так яны спакусілі супрацоўніцу камітэта па друку спадарыню Жалезку. Яна паспадзявалася на гарачыя любошчы з трыма бэйбусамі і накупіла ім выпіўкі ды закускі. Пілі яны на кватэры ў Жалезкі, бо яе муж з'ехаў у камандзіроўку. Пілі цэлую ноч. Раніцай, калі жанчына ў невядома які раз прапанавала хлопцам свае сэкспаслугі, яны распранулі яе, закінулі станік і трусы на люстру ды сышлі шукаць грошы на чарговую пляшку ў іншым месцы.

## Навелісты

Алесь Асташонак быў перакананы, што аўтары кароткай прозы п'юць значна болей за раманістаў. Сам ён пасля напісання апавядан-

ня моцна напіваўся. Казаў, што такім чынам здымае напружанне, якое назбіралася ў ягонай душы за час працы. У гутарцы пра ўзорных апавядальнікаў Алесь заўсёды згадваў Міхася Стральцова і Юрыя Казакова, ён шмат разважаў пра іх цудоўную прозу і ніколі не забываў згадаць пра іх страшнае п'янства. Калі я казаў, што раманіст Фолкнер і раманіст Караткевіч выпілі не менш за Стральцова і Казакова, Алесь пачынаў злавацца. Ні Караткевіч, ні Фолкнер не ўваходзілі ў ягоны пантэон літаратурных куміраў. Таму наша гутарка пра літаратуру на гэтым заканчвалася і пачыналася размова пра нешта іншае, пра кватэры ці пра захапленні распуснымі жанчынамі.

## Перфекцыянізм

Ён страх як хацеў, каб усё ў яго было найлепшым, добрым і выдатным. Алесь купляў толькі якасныя рэчы, апранахі і кнігі. Асташонак усё рабіў так, каб зрабіць і не перарабляць. «Супер» — яго ўлюбёнае слоўца. Сябе ён залічваў у супермэны, без жартаў. Таму крытыку не любіў, ён нават яе баяўся. Ад крытыкі надыходзіла працвераджэнне — і Алесь бачыў сябе зусім не супермэнам, бачыў сябе звычайнага і ад гэтага відовішча моцна перажываў. Перажыванні пераходзілі ў дэпрэсіі, п'янкі і запоі. Для Алеся жыццё складалася з дзвюх частак — супер і ніяк. Другая частка, кепская і брыдотная, была значна большай. З узростам яна ўсё павялічвалася і павялічвалася, а першая суперская частка змяншалася і змяншалася. Апошнія гады Асташонак жыў у Кіеве. Зрэдку ён тэлефанаваў мне ў Мінск, каб паскардзіцца на жыццё. За некалькі гадзінаў да смерці Алесь

пераплыў Дняпро, так мне сказалі; значыць, супермэнам ён заставаўся і ў свой самы апошні дзень.

## Пятровіч

Алесь высока цаніў апавяданні Барыса Пятровіча. Адзінае, што мяне насцярожвала ў гэтых высокіх адзнаках, — падкрэсліванне хваравітасці. Асташонку падабалася менавіта «хваравітасць» прозы Пятровіча. «Каб у Барыса Пятровіча ў жыцці ўсё было складна і добра, каб Барыс не хварэў, ён не змог бы напісаць такія выдатныя апавяданні», — шматразова чуў я ад Алеся. Хваравітасць, надламанасць, драматычнасць Асташонак залічваў у самыя неабходныя складнікі творчасці, як чужой, так і сваёй.

# АДНАКУРСНІКІ

*Словы пра тых, з кім разам давялося вучыцца*

## СЦЁПА

*Словы пра таварыша майго Сцяпана (Уладзіміра Сцепаненку)*

### Нявыпітае святло летняй поўні

Наэлектрызаванасць адчувалася ў аўдыторыі, дзе мы здавалі іспыт па кампазіцыі. За тры гадзіны трэба было напісаць акварэль на тэму «Лета». На маім аркушы вымалёўваліся жоўтыя і чырвоныя коні ў блакітнай вадзе неглыбокай рэчкі. Побач малявалі сваё лета Ігар Цішын і Валодзя Сцепаненка. У Ігара праз сінюю ноч плыў трактар з вялікім стогам сена ў прычэпе. На смарагдавым стозе пад самымі зоркамі сядзелі тры хлопчыкі. Фары трактара нагадвалі дзве срэбныя поўні. Такая ж электрычна-блакітная поўня была і на акварэлі ў Валодзі. Пад ягонай поўняю бруілася рэчка, поўная месяцовага святла. Схіліўшы цяжкія цёмныя галовы, чорныя коні пілі святло летняй поўні... Валодзя, Ігар і я атрымалі за свае кампазіцыі выдатна. Мы разам ішлі па залітым вечарова-ружовым сонцам Мінску і радаваліся вялікаму жыццю, што чакае нас наперадзе. Ігар і Валодзя былі апранутыя ў аднолькавыя васільковыя кашулі...

## Зваротная метафара

Маляванне гіпсавых рэчаў — занятак складаны. Не схлушу і не памылюся, калі скажу: шлях прафесійнага мастака пачынаецца з малявання гіпсавага кубіка. За кубам з'яўляецца гіпсавы шар, за шарам ідуць конус з цыліндрам... Праз год іх месца займае гіпсавая галава. Гэта можа быць Апалон Бельведэрскі, а можа быць Венера Мілоская, можа быць Сакрат, а можа быць і кандацьер Гатамелата. У маёй творчай біяграфіі з'явіўся танкагубы, качканосы, велікавокі, лысаваты кандацьер. Увесь мой назапашаны вопыт малявання кубоў і цыліндраў да Гатамелаты не прыкладаўся, бо раней я маляваў рэчы ў асяроддзі. Можна было, як рабіла большасць маіх аднакурснікаў, намаляваць нацюрморт з гіпсавай галавою. Такія цёмныя, шчыльна затушаваныя, графітныя нацюрморты з гіпсавымі галовамі выглядаюць досыць эфектна, але яны застаюцца нацюрмортамі, а мне карцела зрабіць партрэт. Нават гіпсавы злепак са скульптурнай галавы Гатамелаты быў, безумоўна, партрэтам мужнага, жорсткага ваяра, партрэтам звышчалавека. Скажу праўду: усе гіпсавыя галовы маюць пячатку звышлюдзей і паўбагоў...

Але не буду шмат казаць пра ўзвышанае без вялікай патрэбы. Вярнуся ў майстэрню, дзе я старанна вымалёўваў профіль Гатамелаты. У той майстэрні ўсе малюнкі былі кепскія і дрэнныя, акрамя аднаго. Гіпсавы Гатамелата, намаляваны Сцяпанам, уражваў. Перш-наперш ён уражваў бліскавічнай чарнатою. Белая галава была намалявана так, нібыта яна не белая, а чорная. Сцяпан зрабіў у сваім малюнку зваротную метафару, ён убачыў у бясколерным

і бяскроўным гіпсе мужную бронзавасць арыгіналу. Цёмны профіль неперарможнага ваяра глядзеў сваім круглым арліным вокам на нікчэмны і дробязны свет, так што прахалодны вецер страху дзьмуў з-за малюнка. Грэбліва скрыўленыя вусны кандацьера запомніліся мне на ўсё жыццё. У хвіліны роспачы і бязволля я згадваю малюнак Сцяпана, згадваю погляд Гатамелаты, сціскаю вусны ў грэблівую ўсмешку — і мяне напаўняе вера ў перамогу.

## Сцёпа, Алесь, Генадзь і выпрабаванне

У сяброўства шмат выпрабаванняў, адно з іх — іспыты ў інстытут. Ты спаборнічаеш з сябрамі ўвесь час, табе здаецца, што ты нават навучыўся радавацца чужым поспехам. Тут і надыходзіць гадзіна ікс! Мы скончылі мастацкае вучылішча, мы марылі паступіць у інстытут. На іспытах нас чакаў вялікі конкурс. Можна было б сказаць: «Свая кашуля бліжэй да цела» — і пераступіць праз сяброўства. Мы зрабілі інакш, бо ведалі: выкладчыкі ў інстытут не прымаюць разумнейшых за сябе, таму на іспытах давядзецца маляваць значна горш, чым можам, трэба будзе прынізіць здольнасці ў адпаведнасці з патрабаваннямі. Калі розум і талент у кожным разе давядзецца хаваць, дык чаму іх не схаваць таленавіта і разумна? Мы сабраліся ўчатырох: Генадзь Чэх, Валодзя Сцепаненка, Алесь Лось і я. На мастацкім факультэце было толькі тры аддзяленні, што нам падыходзілі: жывапіс, графіка, манументальнае мастацтва. Каб не канкураваць між сабою, вырашылі падаваць дакументы на розныя аддзяленні. Мне больш падыходзіла гра-

фіка, але яе я саступіў Ласю і Чэху, бо на графіку бралі дзесяць чалавек, а на жывапіс і манументальнае — па пяць. Жывапіс заслужана дастаўся Сцёпе. У самы апошні момант Генадзь перадумаў, пайшоў на манументальнае і праваліўся. Чэх не прайшоў іспыты не толькі ў інстытут, ён не прайшоў іспыт на сяброўства. Алесь, Сцяпан і я паступілі. Мы былі такія шчаслівыя, што адразу даравалі Чэху парушэнне дамовы. Ці дараваў ён нам наш поспех? Ніколі ў яго не пытаўся.

## My favorite artist

Вучыць англійскую мову? Каму тое трэба? У бліжэйшыя гадоў дваццаць ніхто з нас не збіраўся за мяжу. Жалезная заслона паміж светам і СССР была настолькі высокая і шырокая, што ў ні ў аднаго са студэнтаў нашага тэатральна-мастацкага інстытута не было нават маленькага шанца пераскочыць ці прабіцца праз яе; адпаведна, узнікла грэблівае стаўленне да англійскай мовы як цалкам ні на што не прыдатнай. Нават занудная гісторыя камуністычнай партыі з абяцаннямі пабудаваць сацыяльны рай на зямлі была больш зразумелай і прымальнай за чужынскую закардонную англійскую мову. Кнігі? Чытаная-перачытаная і аблегчаная цэнзарамі класіка была. Яшчэ газета была «Маскоўскія навіны» на розных мовах, у тым ліку і па-англійску, ды хто чытае ў мастакоўскай маладосці імперскія газеты? Ніхто. Толькі адукацыя ёсць адукацыя, таму на заняткі па англійскай мове мы ўсё ж хадзілі. На іх мы вучылі і здавалі тэмы. Іх было шмат розных, і можна было выбіраць: распавесці пра Лондан ці расказаць пра Шэкспіра...

Нашы дзяўчаты расказвалі, што ў Лондане ёсць «рыва» Тэмза, а сам ён — «кэпітал» Брытаніі. Нудота зялёная. Можна было яшчэ распавядаць пра Мінск, у якім цячэ «рыва» Свіслач, але расказваць пра Мінск па-англійску тады выглядала яшчэ большай дурасцю. Таму я і выбраў сабе тэму пра любімага мастака. Усе думалі, што распавяду я пра якога Гейнсбара ці Гальбейна, што аціраліся каля англійскіх арыстакратаў і каралёў, бо так рабілі мае папярэднікі. Яны не любілі Гейнсбара і ягоных бледнатварых цётак з сівымі парыкамі, але можна было прачытаць пра яго тэкст у энцыклапедыі, а потым крывой мовай яго неяк пераказаць, атрымаць залік і забыцца на запудраных арыстакратак. Чаму я не выбраў Гейнсбара? Ілгаць не хацеў, і выглядаць смешным таксама жадання не было, але, выбраўшы сваю тэму, я выглядаў гратэскна.

У час заліку я выйшаў да выкладчыка і сказаў, што «my favorite artist — Сцяпан, Валодзя Сцепаненка». Выкладчыца вельмі здзівілася такому павароту. Каб я назваў Пікаса, Леанарда ці Ван Гога, яна б і вокам не міргнула, а таму, што я магу любіць творы свайго таварыша, яна веры не дала. Выкладчыца нават паспрабавала мне давесці, што Сцяпан ну ніяк не можа быць маім любімым мастаком. Тут я праявіў настойлівасць, нават упартасць мая вылезла, і мне дазволілі распавядаць пра Сцёпу як пра «my favorite artist». Залік я атрымаў, з паслядоўным вывучэннем англійскай мовы развітаўся і гэтым быў невымоўна ўзрадаваны.

Праз нейкі час да мяне на калідоры падышла выкладчыца англійскай мовы і шэптам, каб ніхто не пачуў, запыталася, чаму я назваў сваім любімым мастаком Сцёпу. Я адказаў, што на

папярэднім заліку я вывучыў тэму «Аўтабіяграфія», а гэтым разам, каб нічога не вучыць, пераказаў сваю біяграфію, у якой замяніў сябе на яго. Выкладчыца ўздыхнула з палёгкаю, бо яна думала пра мяне чорт ведае што, а так усё стала на свае звычайныя месцы. Выкладчыкі, як і людзі наогул, хутчэй павераць у тваю лжывасць і ляноту, чым у тое, што ты сапраўды добра ставішся да свайго блізкага таварыша.

## Рабінзон

На творчым семінары мы вырашылі ўзяць сабе літаратурныя псеўданімы. Максім Клімковіч узяў Макс Клім, Пётра Васілеўскі — Пятро Няміра, Уладзімір Сіўчыкаў — Уладзімір Булаўскі, Міраслаў Адамчык — Міраслаў Шайбак, я — Адам Глобус, а Валодзя Сцепаненка назваўся Сцяпанам Рабінзонам. «Робін-бобін, ну які ты, Сцёпа, Робінсан?» — пыталіся мы. «Хіба вам не падабаецца Робінсан-Рабінзон?» І Рабінзон, і Пятніца, і Даніэль Дэфо, і Янка Маўр з палескімі рабінзонамі нам падабаліся, але псеўданім мы не прынялі. Так Уладзімір Сцепаненка не стаў Сцяпанам Рабінзонам, а зрабіўся Уладзімірам Сцяпанам.

## Сяброўства і падарожжа ў Грузію

Сяброўства — складаная форма паводзін. Не кожны чалавек можа навучыцца сябраваць. У дзяцінстве і юнацтве сяброў шмат, яны з'яўляюцца і прападаюць, а ты не вельмі моцна перажываеш іх страту, бо маеш упэўненасць: наперадзе цябе чакаюць лепшыя і больш надзейныя сябры. У маладосці сяброў больш за ўсё, але тут пачынаецца адна праблема: сяб-

роўства правяраецца грашыма. З сябрамі добра зарабляюцца і збіраюцца грошы, але цяжка дзеляцца.

Мы з сябрамі збіралі грошы на чорны дзень. Сцяпан ведаў пра чорныя дні ці не найбольш з нас, ён і прапанаваў збіраць у складчыну. Назапасілася даволі шмат. Мы былі студэнтамі і назбіралі прыкладна гадавую стыпендыю. Тут аднаму з нас — Уладзіміру Сіўчыкаву — прапанавалі паехаць у Тбілісі вучыць грузінскую мову і перакладаць тамтэйшую літаратуру. Сіўчыкаў жыў без бацькі, з малодшым братам і мамаю. Жыццё ў тагачасным Тбілісі было ледзь не ўдвая даражэйшае за жыццё ў нашым сціплым Мінску. Сцяпан прапанаваў аддаць назапашанае Сіўчыкаву на доўгае творчае падарожжа ў Грузію. Мы параіліся і ўсё назбіранае перадалі Сіўчыкаву. Цяпер, аглядаючыся ў сваё мінулае, я часам шкадую свае змарнаваныя грошы, але грошай, перададзеных Сіўчыкаву, я ніколі не пашкадаваў, і ніхто ні разу не папракнуў Сіўчыкава тымі грашыма, хоць большасць з нас даўно не падтрымлівае між сабою сяброўскіх адносінаў.

## Звер

Паабяцалі і не заплацілі! Ты зрабіў працу, добра выканаў даручэнне, а грошай не далі. Ну як так? Дзе справядлівасць? Ты падрыхтаваў тры паласы газеты накладам у трынаццаць мільёнаў. У газеце той усяго чатыры паласы, ты зрабіў тры чвэрці, сумленна зрабіў. Газета імгненна прадалася, і табе заказалі яшчэ пяць нумароў. Іх ты таксама падрыхтаваў, яны выйшлі, іх расхапалі. Кожны асобнік той газеты з назваю «Ласковый май» каштаваў трыццаць

капеек. Ты ведаў: трыццаць капеек лепей за дваццаць. Ты працаваў разам з таварышамі, разам з Уладзіславам і Генадзем. Набліжаліся кастрычніцкія святы, а ні ты, ні Уладзіслаў, ні Гена не атрымалі ніводнай капейкі. Ты папрасіў у галоўнага рэдактара Някляева семсот рублёў: трыста для Уладзіслава і чатырыста для Генадзя. Бухгалтарка хварэе! Такое ты пачуў ад Някляева. Людзі хварэюць, такое здараецца. Толькі ты бачыў у той жа дзень бухгалтарку вясёлай і здаровай. Ты нават пацікавіўся пра яе здароўе. Яна здзівілася недарэчнаму пытанню. «Няўжо я так кепска выглядаю?» Давялося выбачацца. Давялося браць чарговы нумар газеты, якай цяпер называлася «Виктор Цой», і прадаваць у кантору Юліяна Сямёнава «Совершенно секретно». Ты папярэдзіў Някляева. Не атрымаю грошы для Генадзя Рабцава і Уладзіслава Ахроменкі — газету прадам, бо прыдумаў і зрабіў яе сам, ад першай да апошняй літары. «Куды ты дзенешся з падводнай лодкі?» — такі быў адказ на папярэджанне.

Газету ты прадаў за семсот рублёў, грошы аддаў таварышам. У іх жонкі, дзеці і свята. Ты стрымаў слова. Паабяцаў і зрабіў. Някляеў выпусціў твайго «Цоя», і Сямёнаў выпусціў твайго «Цоя». Сямёнаў выпусціў на тыдзень раней і прадаваў на дзесяць капеек танней. Дваццаць капеек горш за трыццаць капеек. Хто спрачаецца? Але трыццацікапеечны «Цой» нікому не патрэбны, калі ёсць такі ж самы дваццацікапеечны. Газетны праект «Ласковый май» разам са спецвыпускам пра анархіста Віктара Цоя быў зруйнаваны.

«Ты ведаеш, што ты зрабіў? — крычаў Някляеў. — Ты выхапіў кавалак мяса з агульнага катла. На зоне за такія рэчы апускаюць! У цябе

дзеці! Ты падумаў пра сваіх дзяцей?» Звяздзец!!! Як толькі ён сказаў пра дзяцей, свет перакуліўся. Ніякага даравання, ніколі! Дамовы, газеты, музыка перасталі існаваць як каштоўнасці. Ты адчуў, як цела тваё здрыганулася, як люты звер заварушыўся ў ім. Ты глядзеў у вочы Някляеву, ты адчуваў, што праз твае вочы на яго пазірае жорсткая істота, якая не ведае літасці. Някляеў схапіў тэлефонны апарат, узняў яго над сталом, каб шпурнуць у звера, які пазіраў на яго. Ён бы шпурнуў, ён бы абавязкова разбіў табе галаву, каб у кабінеце не было тваіх тагачасных таварышаў. Там былі: Генадзь Рабцаў, Уладзіслаў Ахроменка, Валодзя Сцепаненка і Міраслаў, твой брат. Мы прыйшлі сказаць Някляеву, што ён вінен нам грошы. Так я і сказаў узнятаму над сталом тэлефоннаму апарату. «Ты вінен нам грошы!» Апарат бразнуўся на стол. Някляеў выбег з кабінета і зачыніўся ў прыбіральні. Ён так і застаўся сядзець у ёй, калі мы выходзілі з рэдакцыі. «Ты яшчэ памірышся з ім, а я ніколі не памірыся», — сказаў тады Уладзіслаў. Ён памыліўся. Звер, што тады варухнуўся ў маім целе, зрабіў прымірэнне і даравацне немагчымымі.

Здаецца, што ў гэтай даўняй гісторыі з газетамі ды іх мільённымі накладамі нічога станоўчага няма. Ёсць! Пазітыў у тым, што ў мяне ёсць таварышы, з якімі можна пайсці і выбіць грошы. Таварышы, з якімі можна рызыкаваць. Сярод іх ёсць і Сцяпан, чый літаратурны партрэт я зараз малюю, а ты чытаеш.

## Багушэвіч

У мастацтве, як і ў навуцы, трэба рабіць адкрыцці. Мастак толькі тады сапраўдны творца, калі ён адкрывае новы погляд на свет.

У іншых выпадках чалавек, які піша фарбамі на палатне, адно рамеснік. Майстравітыя рамеснікі спрытна прадаюць сябе за мастакоў, а яшчэ яны зайздросцяць мастакам і шкодзяць ім як толькі могуць. Як адрозніць мастака ад рамесніка? Вельмі проста... Мастак робіць выставу, а зайздроснікі яе забараняюць. Калі твае выставы, кнігі, часопісы, газеты, фільмы, тэлесюжэты не забаранялі, значыць, ты ніколі не спрабаваў стаць творцам, ты заставаўся рамеснікам, выканаўцам чужых задум.

Першы пагром на ўласнай выставе я пабачыў на трэцім курсе інстытута. Мы — Алесь Лось, Уладзімір Сцяпан, Ігар Цішын і я — вырашылі адзначыць дзень нараджэння Багушэвіча. У фае кінатэатра «Кастрычнік» мы акуратна развесілі свае карціны і пайшлі на заняткі. Я спакойна маляваў аголеную жанчыну, калі ў дзверы майстэрні настойліва пагрукалі. Гэта быў Сцяпан, які агаломшыў мяне кепскай навіною: рэктарша разам з загадчыкамі кафедраў мастацкага факультэта пайшла ў «Кастрычнік» здымаць выставу. У тое, што рэктарша сама пойдзе граміць выставу, цяжка было паверыць. Звычайна яна ні ў чым сумнеўным і рызыкоўным не ўдзельнічала: яе прысутнасць і актыўнасць нічога добрага нам не абяцала. Ісці ў кінатэатр і бараніць свае карціны сэнсу не мела, але цікаўнасць пагнала нас да каланады Акадэміі навук. Мы стаялі на прыступках і глядзелі, як загадчыкі кафедр і сама рэктарша нясуць па праспекце нашы працы. Мой партрэт Францішка Багушэвіча нёс пад пахаю скульптар Анікейчык. «Самае галоўнае, — думаў тады я, — каб Ахінейчык не пабіў раму на партрэце!» За раму я перажываў моцна, бо пазычыў яе на час выставы ў мамы. Тая рама

дасталася ёй у спадчыну ад яе мамы — маёй бабы Ядзі. Рама вісела ў нашай кватэры на сцяне бацькавага кабінета. У ёй быў папяровы абраз Дзевы Марыі. Абраз я дастаў, уставіў замест яго партрэт паэта і павесіў у кінатэатры. Пасля выставы я мусіў вярнуць усё на свае месцы. А тут такая неспадзеўка: Анікейчык немаведама куды нясе маміну раму. Можна было, канешне, пераняць рэктаршу і забраць у скульптара антыкварную раму, але верагоднасць таго, што я пачую пра выключэнне з інстытута, была амаль стапрацэнтная. Таму разам з усімі ўдзельнікамі разгромленай выставы я выпіў віна.

Адзінае, што мы прыдумалі ў сваю абарону, гэта артыкул у газеце «Мінская праўда». Ігар Цішын пайшоў да знаёмага журналіста з паэтычным прозвішам Бажок, і той надрукаваў маленечкую нататку пра выдатную выставу, прысвечаную Багушэвічу. У кабінеце рэктара, куды нас неўзабаве выклікалі, мы былі з газетамі «Мінская праўда». Рэктарша чытала нататку са змрочным тварам. Прачытаўшы, яна папярэдзіла нас, што, калі яшчэ раз арганізуем несанкцыяваную выставу, больш ніхто з нас вучыцца ў інстытуце не будзе. Нашы карціны стаялі каля сцен яе прасторнага кабінета. Рэктарша загадала забраць іх і пакінуць кабінет.

Маміну раму Анікейчык не пабіў і не падрапаў. Таму вечарам папяровая Дзева Марыя вярнулася на сваё пачэснае месца каля стэлажоў з бацькавымі кнігамі. Свой партрэт Багушэвіча я падарыў Сцяпану. Партрэт доўгі час вісеў над ягонымі рознымі працоўнымі сталамі, пакуль не прапаў. Мы былі падумалі, што мой Багушэвіч прапаў незваротна, але аднойчы ў часопісе «Роднае слова» з'явілася ягоная рэпрадукцыя.

Аўтарства партрэта прыпісвалася Сцёпе. У рэдактара Шавыркіна я спытаў, чаму паблыталі аўтара. Шавыркін спаслаўся на даследчыка Содаля. Той прызнаўся, што скраў партрэт у Сцяпана з кабінета, а таму думаў, што ён аўтар. Забіраць свайго Багушэвіча ў Содаля я не стаў. Ну хто гэта будзе крыўдзіць свайго прыхільніка? Тым больш, што Содаль сказаў: «Твой Багушэвіч стаіць у мяне як абраз, на самым пачэсным месцы, у чырвоным куце!»

## Беларусы ў Маскве

Цяжка беларусу ў Маскве. Тут татары, там чачэны, дзесьці яўрэі, дзесьці ўласна рускія. Паўсюль чужыя, паўчужыя, паўсвае, славяне і каўказцы, азіяты і еўразійцы, азіёпы і ўграфіны. У кожнага з іх свая праўда, свая паўпраўда і нават хлусня свая. Цяжка беларусу знайсці сваё месца ў шматлюднай ды шматаблічнай Маскве. Часам падаецца, што няма ў Маскве ніякага беларускага месца, усё наскрозь чужынскае і варожае. Але мастак таму і мастак, што можа знайсці ўласнае ў любым краявідзе. Ён з чужога здатны зрабіць сваё, перакампанаваўшы і пераасэнсаваўшы яго. Мастак не заваёўвае, не рабуе, не разбурае, мастак вывучае чужы свет і выбудоўвае свой. Масква — выдатнае асяроддзе для праверкі здольнасцяў маладога мастака. Таму мы, Сцяпан і я, прыехалі ў Маскву. Мы малявалі Крэмль, стоячы пасярод Чырвонай плошчы. Малявалі храм Васіля Блажэннага. Малявалі цэрквы без крыжоў і кляштары, перароблены ў склады. Мы малявалі і малявалі чужую Маскву, шукаючы сваё беларускае месца. Мы жылі побач са станцыяй метро «Сокал», у інтэрнаце мастацкага вучы-

лішча графа Строганава. Таго Строганава, які адкрыў цэлае вучылішча для мастакоў, каб яны аздобілі храм Хрыста Выратавальніка. Мы ўставалі рана-рана, ішлі маляваць Маскву і вярталіся позна-позна.

Два месяцы мы прамалявалі з раніцы да ночы. Мы знайшлі сваё беларускае месца ў Маскве. Дапамог нам гісторык Абэцэдарскі, аўтар танюткай кніжачкі «Беларусы ў Маскве XVII ст.». У той кніжцы распавядалася пра майстроў з Магілёва і Мсціслаўля, якія ў сямнаццатым стагоддзі збудавалі і аздобілі Круціцкае падвор'е. Малюючы Круціцкі церамок, я адчуў упэўненасць, вока набыло яснасць бачання, а рука пачала праводзіць дакладныя рысы і абрысы. Цяпер я ведаў, як трэба маляваць сваю, беларускую, адметную Маскву. Пасля малявання ў Круціцкім падвор'і нам стала лёгка і проста жыць ды працаваць не толькі ў Маскве, але і ў Расіі наогул.

## Падзея і чорныя курткі

Мы пілі. Ёсць падзеі, якія абавязкова трэба адзначаць. Мы пілі ўтрох: Сцяпан, Максім і я. Сядзелі на маленечкай кухні і пілі каньяк. Котка Буська была чацвёртай, яна хлябтала малачко, але падзею не адзначала. У яе быў кепскі настрой. Буська адчувала, што днямі яе аддадуць у іншы дом, бо Сцяпанава жонка нарадзіла дачку. Немаўля і котка ў адной невялікай кватэры жыць не могуць, бо рызыкоўна. Сцёпа рызыкаваць не хацеў. Лёс Буські быў вырашаны.

Мы пілі, віншавалі Сцёпу, напіліся і пасварыліся. Ёсць падзеі, пасля якіх цяжка не панапівацца. А ёсць яшчэ стан ап'янення, калі цяжка разысціся мірна. Сцяпан сказаў, што больш не

будзе працаваць у маім выдавецтве, што ён разам з Максімам сыходзіць у іншую кнігагандлёвую структуру. Мне зрабілася кепска. На душы, а не ў страўніку. Каб мне зрабілася кепска ў страўніку, было б лягчэй. Пэўна.

Я мог бы сапсаваць свята, але не сапсаваў. Сышоў. Сыходзіў я з цяжкімі думкамі, бо Сцяпан з Максімам знеслі з нашага выдавецтва камерцыйную таямніцу. Яны знеслі сакрэт, як са старога амерыканскага дэтэктыва зрабіць новы рускі дэтэктыў, як усіх гэтых Хэметаў, Чандлераў і Стаўтаў перарабіць у Ганчаровых, Сакаловых і Варонiных. Я сыходзіў, а Максімка і Сцёпка глядзелі на маю спіну ў чорнай скураной куртцы. Такі быў тагачасны стыль: мужчыны хадзілі ў чорных скуранках. Жорсткі быў стыль, але мы не застрэлілі адзін аднаго за камерцыйную таямніцу, якая прыносіла мільённыя прыбыткі кнігагандлю. Маглі пастраляцца, а не пастраляліся. Іншыя стралялі канкурэнтаў, такі быў тагачасны спосаб барацьбы за рынак. Мы перажылі разрыў узаемаадносінаў мужна. Мы доўгі час не пілі разам. Потым пачалі здарацца новыя падзеі, якія трэба было адзначаць. Мы зноў разам пілі каньяк, са Сцяпанам, але без Максіма.

## Касцёл у Вілейцы

Краіна ў нас невялікая, таленавітых людзей мала, таму здольнаму чалавеку даводзіцца працаваць у некалькіх месцах. Бо і тое трэба зрабіць, і гэтае неабходна падтрымаць, і тут варта паспрыяць, і там... Цяжка жыць таленавітаму, бо яшчэ і крытыкі навокал лютуюць. Крытыкаў у нас процьма. Як ні зрабі, адразу пачуеш, што зрабіў не так, не з тым,

не там і нясвоечасова. Крытыкі раздражняюць, але не замінаюць, бо баязлівыя, як нізкарослыя сучкі. Тупні — і ўцякуць, пахаваюцца, як вожыкі ў мох.

Апошнім часам крытыкі брэшуць на будынкі, што стаяць на рэстаўрацыі. Добра, што я своечасова сышоў з рэстаўрацыйных майстэрняў, а то б наслухаўся пра сябе зласлівага некампетэнтнага брэху. Перажываў бы за касцёл у Вілейцы. А так не перажываю. Чаму менавіта за касцёл у Вілейцы? А таму, што яго намерваліся аддаць мне. У далёкім 1986 годзе рэстаўратар Ракіцкі прапанаваў: «Давайце запросім Адамчыка і прапануем яму займацца рэстаўрацыяй касцёла ў Вілейцы!» Каб запрасілі, каб настойвалі, мне б цяжка было адмовіцца. Пэўна ж, я ўзяў бы аб'ект. Ёсць прапановы, ад якіх нельга адмаўляцца. І дваццаць пяць гадоў я б займаўся касцёлам у Вілейцы і слухаў бы брэх крытыкаў. Але мяне не запрасілі, бо рэстаўратар Залатуха сказаў рэстаўратару Ракіцкаму: «Можа, нам запрасіць не толькі Адамчыка, а запрасіць яго разам са Сцяпанам?» Нас не запрасілі. Нашы таленты рэстаўратараў так і не рэалізаваліся. Не шкадую ні кроплі, але касцёл у Вілейцы згадваю з вялікай цеплынёю. Касцёл у Вілейцы... Цуд!

## Ірка і амбіцыі

Ірка — апантаная. За што ні возьмецца, усё пачынае гарэць, палымнець і перагараць у яе руках. Я памятаю, як Ірка закахалася ў Сцёпу. Як яна тады ўсіх навокал заманала! Прывалачэ да нас у майстэрню літровы слоік з салатаю аліўе і прымушае з'есці. «Сцёпа-а-а, мая бабуля-а-а рабіла салату выключна для цябе! Ты не

можаш не пакаштаваць! Ты павінен з'есці ўсё! Ну хай табе Глёбусік дапаможа-а-а!» Мы елі салату, прыгатаваную бабуляю выключна для Сцёпы. Мы спадзяваліся, што Ірка хутка адчэпіцца. Яна не адчэплівалася.

«Сцёпа, ды трахні ты Ірку! Можа, ёй не спадабаецца, як ты трахаешся, і яна нарэшце адчэпіцца!» — «А калі спадабаецца?» — «Ты зрабі так, мой мілы таварыш, каб ёй не спадабалася. Ты, Сцёпа, пастарайся. Каб яна ад цябе, ад мяне і ад усіх нас адчапілася!!!»

Ці мая парада спрацавала, ці які іншы фактар падзейнічаў, але праз некаторы час Сцёпа сказаў, што Ірка зусім не ўмее трахацца. Ён гэта сказаў, і яна ад нас адляпілася. Божа, як нам стала добра, вольна і прасторна! Апантаная пераключылася на іншых мужыкоў...

Цяпер Ірка суне свайго чарговага мужыка ў палітыку! Касіць не скасіць!!! Яна суне яго на пасаду прэзідэнта. Касіць-малаціць! А каб тады Сцёпе спадабалася трахацца з Іркаю? Гэта б яго зараз сунулі на прэзідэнцтва? Малаціць не перамалаціць! Так атрымліваецца? Толькі ў Сцёпы такіх палітычных амбіцый няма. Салату з'есці? Так! Грошы пазычыць і пазыку не вярнуць? Ягоны стыль! А на прэзідэнцтва ён бы не пайшоў. Ірка падбівала і падбівала б, але Сцёпа не пайшоў бы. Таму ў іх і не страхалася, і не зраслося...

## Бла-бла-бла

«Грант — ваша ўсё! І не трэба бла-бла-бла пра Беларусь», — напісаў Уладзімір Сцяпан пра грантасмактальнікаў. Варта дадаць: і не трэба бла-бла-бла пра дэмакратыю і правы чалавека.

### Партрэты істот і з’яў

Сцёпа быў здатны намаляваць партрэт рыбіны. Яна нібыта глыбока ўсярэдзіне ачалавечвалася, але знешняй формай заставалася падобнай да звычайнай соннай рыбіны. Чаратовыя таўкачыкі з іх шакаладнай аксамітнасцю пад ягонымі пэндзлямі гэтаксама набывалі рысы групавых партрэтаў. Аеравыя пёры на ягоных кардонах нагадвалі рамантыкаў паэтаў, якія чытаюць вершы велікавокім русалкам. Светлаводнае, засланае легкадумным туманам возера ён пісаў тэмпераю на кардоне ў форме інтымнага партрэта. Зрабіць партрэт легкалётнай хмаркі для яго гэтаксама не ўяўляла аніякай цяжкасці. Ён пісаў партрэты беларускай прыроды, партрэты істот і з’яў такой жа ж лёгкай рукою, як і партрэты сваіх сяброў і любімых жанчын.

## Голда

*Словы пра маю сяброўку*
*Голду Лейбаўну Роберман*

### Лейба і перспектывы

Лейба Роберман сказаў, што я не маю перспектыў. Лейба выдаў: «Нічога з цябе не атрымаецца!» Так і рэзнуў гэты сухі сівагаловы шэравокі чалавечак. Каму сказаў? Мне! Ён прыехаў з Кіславодска ў Мінск. Ягоная дачка — Голда Лейбаўна — запрасіла мяне ў госці, каб пазнаёміць са сваім татам. У Голды над ложкам вісела мая карціна, чорна-ізумруднае залакіраванае палатно з намаляваным вялікімі пэндз-

лямі правінцыйным духавым аркестрам. За барабаншчыка ў тым аркестрыку быў хлопчык, нечым падобны да мяне ў дзяцінстве. Мы стаялі пад маім цёмным палатном, калі Лейба паведаміў Голдзе, што я бесперспектыўны. Канешне, яна перспектыўная, бо яўрэйка, а я няздара, бо гой. Так падумалася, але не сказалася. Мяне бацькі навучылі паважаць старэйшых. Яшчэ ён сказаў, што з такім авангардным жывапісам і малюнкам я не паступлю ў інстытут. Такога ўдару я не чакаў.

Можна было зразумець чалавека з цяжкім лёсам. Ягоны настаўнік Заір Азгур, калі прайграў конкурс на ўстаноўку ў Мінску помніка Якубу Коласу, нейкім чынам узбудзіў супраць сваіх вучняў, братоў Роберманаў, што той конкурс выйгралі, крымінальную справу. Браты бралі з людзей няўлічаныя грошы за помнікі на могілках. Усе бралі, бяруць і будуць браць, але справу ўзбудзілі супраць Лейбы і Марка. Яны паўцякалі з Мінска. Справу закрылі. Помнік Якубу Коласу пачаў ляпіць сам Заір Азгур. Лейбу давялося пасяліцца ў Кіславодску і там будаваць новы дом ды майстэрню, а сям'я засталася ў двухпакаёвай кватэры ў старым мінскім цагляным дамку насупраць Камароўскага рынку. У той кватэры Голда павесіла маіх музыкаў з бліскучымі трубамі і беласкурым барабанам. Лейбу не спадабаліся ні музыкі, ні я. Ён бачыў іншага мужчыну каля сваёй любімай Голдачкі. Напэўна, ён бачыў чалавека, падобнага да ягонага зяця Шавуля. Той быў з малдаўскіх яўрэяў. Той насіў Ірму Лейбаўну Роберман на руках. Ён працаваў у Інстытуце торфу і меў, на думку Лейбы, перспектывы. Я раззлаваўся на Лейбу, і гэтая злосць дапамагла мне паступіць у інстытут, дарэчы.

## Колер зваранага рака

Насіць зыркую сукенку колеру зваранага рака не кожная зможа. Голда магла. Яна станавілася на высачэзныя абцасы і лётала па Маскве ў такой сукенцы. Каб не гэтая вогненная сукенка, я б, можа, і не спакусіўся яўрэйскімі вабнотамі цела Голды Лейбаўны Роберман. Мы тры гады не сустракаліся. Мы даўно зразумелі, што не будзем разам жыць. Яна апранула сукенку, я зняў з яе сукенку. Было горача. Задушліва было. Асфальт пачаў плавіцца і зрабіўся мяккім. Масква задыхалася ў пыльнай спякотнасці. У такой Маскве мы злюбіліся і абліліся потам да алейнага бляску на распаленых целах. Я з Голдаю прайшоў усе прыступкі на лесвіцы кахання: ад доўгага стаяння каля пад'езнага ганка марозным зімовым вечарам, калі паветра было п'янкім, як спірт, да сексуальных торганняў і сутаргаў у пякельным мегаполісе. Прайшоў, каб развітацца. Мы развіталіся без шкадаванняў, лёгка. Голда сышла ад мяне ў сваёй сукенцы колеру варанага рака да нейкіх там ухажораў. Я застаўся спаць у сваім інтэрнацкім пакоі мастацкага вучылішча імя графа Строганава.

## Вечаровы малюнак

Ёсць у мастакоў такі выдатны занятак — вечаровы малюнак. Ты ўвесь дзень прапрацаваў, празаймаўся чым толькі мог, парабіў усё, што трэба было парабіць, а ўвечары зноў вярнуўся ў майстэрню, супакоіўся і пачаў маляваць. Дзве-тры гадзіны такога малявання і завуцца вечаровым малюнкам. Канешне, далёка не ў кожнага маладога мастака ёсць майстэрня.

Даводзіцца дамаўляцца з празнымі вахцёрамі ды вахцёркамі, каб далі ключ ад аўдыторыі якога вучылішча. Ці даводзіцца хадзіць у якое іншае месца на вечаровы малюнак. Я з Голдай і Жаннай ездзіў у Дом культуры Трактарнага завода. Там алейны жывапісец Ткачэнка арганізоўваў маляванне аголенай натуры для бедных студэнтаў. У студыю набівалася шмат малявальшчыкаў, натуршчыкі і асабліва натуршчыцы мелі брыдкія целы, а яшчэ там было задушліва і цемнавата. Каб не Голда, я з Жаннаю туды і не хадзіў бы. Чыстацелая Жанна з сунічнымі смочкамі на круглых грудзях і так кожную нядзелю мне пазіравала. А Голда рыхтавалася да паступлення ў маскоўскі мастацкі інстытут і таму ўгаварыла нас хадзіць на трактарны завод да тлуставалосага Ткачэнкі. Я хадзіў, а потым з Голдаю ішоў ад завода на праспект. Мы ішлі ўздоўж трамвайных рэек, пад цёмнасінім небам. Мы ішлі праз мост, ішлі ўздоўж вайсковых могілак, ішлі праз плошчу з помнікам Якубу Коласу. Часам нам падавалася, што мы закахаліся адно ў аднаго. Тады мы спыняліся і цалаваліся. Мы ішлі далей і смяяліся з таўстуна Ткачэнкі, пра якога ўсе казалі, што ён выцірае лішкі фарбы з пэндзля не анучкай, а валасамі сваёй нямытай і нечасанай галавы.

## Каменная жанчына

Гэтую каменную жанчыну ў каменнай сукенцы з беларускімі арнаментамі і круглай палітраю ў левай руцэ мусіць ведаць кожны беларус, бо яна намалявана на рублях. На той самай паперцы, дзе з аднаго боку — нацюрморт Івана Хруцкага, а з другога — мастацкі музей. На фасадзе музея і стаіць скульптура

мастачкі, некалі выштукаваная Лейбам Роберманам. Ён ляпіў яе з жонкі, з маці маёй каханкі Голды. Скульптура вельмі падобная не да маці Голды, а да яе старэйшай сястры Ірмы. Але асабіста для мяне гэтая жанчына з палітрай жывапісца — Голда Лейбаўна Роберман.

## Бутэлька бехераўкі

Купіць і выпіць бутэльку чэшскай настойкі бехераўкі было цяжка. Цяжка купіць, бо яна каштавала крышку больш як чатыры рублі, а твая стыпендыя ў вучылішчы складала толькі васямнаццаць. Выпіць таксама было цяжка, бо яна цяжка заходзіла з-за нейкай адэкалоністай духмянасці і гарэлачнай моцы. Таму мы купілі адну паўлітровую бехераўку на чатырох пітакоў. Скінуліся ў дзень стыпендыі і ўзялі ізумрудную бутэлечку і ружовы торт. У той вечар я схаўрусаваўся з Жаннай Башук і яе тагачасным кавалерам Сцяпанам ды з Голдай Роберман. Піць бехераўку мы намерваліся ў Роберманаў. Бацькі яе жылі на Каўказе, а ў кватэры была толькі Ірма з Шавулем, якія не заміналі нам, маладзейшым, жыць і весяліцца. Торбу з бехераўкай нёс Сцяпан. Я нёс торт. У торбе акрамя пляшкі ляжаў кілаграмовы пакет з цукрам. Торба была палатняная. Падымаючыся на трэці паверх, Сцяпан стукнуў ёю аб прыступку. Мы пачулі нейкі не шкляны, а касцяны гук, нібыта пераламалася костка ў чалавечай назе. З палатнянай торбы на цэмент прыступак пацякла крышку падсалоджаная бехераўка. Мне хацелася кінуць у гэтую лужыну і торт. Не кінуў, стрымаўся.

Мы вырашылі сабраць грошы па другім коле, але бехераўку больш не куплялі. Узялі

нашу тутэйшую настойку — белавежскую. Мы пілі, танцавалі, абдымаліся ды цалаваліся. Жыццё паплыло далей. Можна было б і забыць касцяное храбусценне разбітай аб прыступку бутэлькі, ды не забываецца яно. І рукі Голды Лейбаўны з таго запамінальнага вечара для мяне пахнуць бехераўкай.

## Вецер і парасоны

Голда любіла вецер. Яна малявала вецер, пісала яго акварэллю. Мне запомнілася вогненнаколерная акварэль з назваю «Восень». На першым плане таго малюнка ішлі дзве дзяўчыны з залацістымі парасонамі. Пэўна, гэта былі сёстры Роберман — Ірма і Голда. Яны ішлі супраць ветру. Ішлі, нахіліўшыся ўперад. Дзяўчаты пераходзілі трамвайныя пуці. На сёстрах былі пякуча-чырвоныя палітоны. Яны ішлі ў бок кінатэатра «Спартак». Некалі ў Мінску быў і такі кінатэатр. Яго зачынілі, а ў ягонае памяшканне заехаў маладзёжны тэатр. У тым тэатры служыў мой знаёмы артыст Катавіцкі, але я так і не схадзіў ніводнага разу на які спектакль з Віталікам Катавіцкім. Можа, яшчэ схаджу, бо тэатр і цяпер там. І трамвайныя рэйкі засталіся ляжаць на месцы. Але за рэйкамі, калі зірнуць ад «Спартака», быў раён з аднапавярховымі дамкамі. Такі стары раён з маленечкімі крамкамі, з майстэрняй па рамонце абутку і газетным кіёскам. У адной з крамак тамака прадавалі газу. Увесь раёнчык прапах гэтай газаю. Голда намалявала той раён з жоўтымі ды блакітнымі сценамі. На малюнку ішоў касы дождж. А яшчэ ад той палымянай акварэлі сыходзіў пах вясёлкаколернай газы. У Голды быў бясспрэчны талент мастачкі, і яна любіла маляваць вецер.

## След ад алоўка

Ад усяго на свеце застаюцца сляды. Ад узаемаадносін з Голдаю на нашых целах таксама засталіся нязводныя сляды. У яе след — маленечкая, ледзь заўважная шэрая плямінка на правай шчацэ, недалёка ад вуха. Калі твар прыпудрыць, дык і зусім не відаць бляклай плямінкі. У мяне такая ж плямінка ёсць над левым каленам. Пляміны ўтварыліся ад уколаў простымі алоўкамі.

Мы малявалі гіпсавыя куб, конус і шар. На перапынку пачаліся жарты, са смехам і папіханнямі. Я няўдала стукнуў Голду пад правы локаць, і яна сама сябе ўкалола ў шчаку тонка звостраным алоўкам. Хто ж ведаў, што графіт з-пад скуры дастаць немагчыма? Ніхто не ведаў, пакуль касметолаг Голдзе гэта не растлумачыў. Яна, злосная, вярнулася ў вучылішча і расказала пра нязводнасць графітнай плямінкі. Я толькі пасмяяўся з яе дзявочых перажыванняў. Дарэмна смяяўся? Вядома, дарма! Голда ўкалола мяне алоўкам у нагу, праз порткі. «Калі ў мяне пляма, дык хай і ў цябе будзе пляма!» — злосна крыкнула Голда Лейбаўна. Крыкнула, каб мне было больш балюча і больш крыўдна.

## Даражэзныя джынсы

Мая маладосць праходзіла пад джынсавымі сцягамі. Нагавіцы з блакітнага або сіняга джуту — самая прэстыжная рэч у гардэробе юнака з майго пакалення. Тады я джынсы не насіў, бо доўгі час адмоўна ставіўся да моднай вопраткі. Для мяне асноўнай якасцю адзежы была, а зрэшты, і застаецца, зручнасць. На другім месцы — практычнасць рэчы. У Голды Лейбаў-

ны Роберман было ўсё наадварот. Апранахі, абутак, рэчы яна купляла згодна з модай. Кошт яе мала хваляваў. Бацькі жылі заможна і не шкадуючы давалі грошы дачцэ. Мяне ўражвала, не магло не ўражваць, як Голда заплаціла Лёніку Марозу за адны джынсы дзвесце дваццаць рублёў — гэта ўсе мае стыпендыі, сабраныя за год. Калі падлічыць усё тое, што было штодзённа апранута і абута на маладой Голдзе Лейбаўне, меней за тысячу ніяк не атрымлівалася. І станікі ў яе былі дарагія, і завушніцы залатыя, і басаножкі італьянскія... Але ўсе рэчы Голды Роберман можна было хутка сабраць у адзін чамадан. Яна жыла ў амаль пустой кватэры. І калі прыйшоў час з'ехаць, Голда хутка сабрала дарагі гардэроб, нацягнула джынсы і з'ехала з Мінска ў Маскву.

## Шавуль і празрыстасць

Каб маляваць і пісаць, мне трэба засяродзіцца. Цяпер я магу засяродзіцца і на стадыёне, поўным народу, але гэтая здольнасць выпрацоўвалася і замацоўвалася не адзін год. На першым курсе мастацкага вучылішча для засяроджвання ў майстэрні мне патрабавалася цішыня. Прыйшоў маляваць — малюй! Не! Марына Фурман і Голда Роберман пачалі абмяркоўваць лак для пазногцяў. Іх папрасілі змоўкнуць. Гена Чэх папрасіў, і Алесь Лось папрасіў. А яны працягвалі паціўкваць, перашэптвацца і пахіхікваць. Я пісаў акварэллю аранжавую драпіроўку, ізумрудную каньячную бутэльку і лімон. У мяне не атрымлівалася празрыстасць. Я акуратна змываў з паперы густую зялёнасць бутэлькі, каб напісаць яе наноў. Я быў раздражнёны. А тут сыканні

з перашэптваннямі, хіханькі ды хаханькі. Узяў я слоік з вадою, у якім пэндзлі мыў, і перакуліў яго над светлымі кудзерамі Голды. Яна завішчала, ускочыла і ўцякла з майстэрні.

Наступнай раніцаю яна вярнулася ў вучэльню з Шавулем. Ён быў падобны да гандляра азербайджанскай нафтаю. Яго чорныя валасы тлуста паблісквалі, нібыта іх залакіравалі. Вялікія вочы мелі выразны нафтавы колер, а выгаленыя шчокі — шэра-блакітнае адценне, як паверхня спакойнага Каспія. Пазней я даведаўся, што Шавуль займаецца не азербайджанскай нафтаю, а беларускім торфам і ў Мінск ён прыехаў не з Баку, а з Кішынёва. Гэта пазней, а тады я пабачыў высокага дужага маладога мужчыну, які прыйшоў высвятляць са мной адносіны. Біць мяне ён не стаў, нават не пагражаў. Шавуль праявіў мужчынскую салідарнасць. Ён сказаў: мне пашанцавала, што Голда паскардзілася яму, мужу старэйшай сястры, а не напісала заяву ў дырэкцыю вучылішча. Шавуль параіў мне стрымлівацца і зрываць злосць, калі зробіцца невыносна, на рэчах, а не на жывых істотах. Шавуль вёў сябе правільна і разумна, мне зрабілася сорамна — і давялося выбачацца. Выхадку са слоікам бруднай вады мне даравалі, як і шмат што іншае.

## Таемныя знакі

Рэльефы, вянкі і лісты акантаў для ліхтарных слупоў у Мінску былі вылеплены Лейбам Роберманам. Ягоная дачка Голда не без гонару казала, што ў вылепленых раслінах можна ўбачыць і літары «Л» і «Р» — зашыфраванае «Лейба Роберман». Не ведаю чаму, але мяне — зусім маладога мастака — гэта ўражвала.

## Залаты зуб

Як, апісваючы яўрэйскае жыццё, абысціся без показак? Як не згадаць дарэчны анекдот? Слухай... Прыходзіць маленькі Вэйвал са школы і кажа сваёй маці Сарачцы: «Матуля, у школе сказалі, каб у панядзелак усе дзеці прыйшлі ў нацыянальных строях». Сара павярнулася да мужа і прамовіла: «Абраша, нашаму Вэйвалу тэрмінова патрабуецца пыжыкавая шапка і залаты зуб!»

Показка старая, савецкая, з тых часоў, калі адной з самых прэстыжных мужчынскіх рэчаў была зімовая шапка, пашытая з футра маладога аленя. Показка была папулярнай і шмат кім пераказвалася якраз тады, калі ў роце Голды Лейбаўны Роберман з'явіўся залаты зуб. Калі быць дакладным, гэта была залатая каронка, пастаўленая на цалкам здаровы зуб. Каб Голда не смяялася з маіх показак, я б тую каронку і не заўважыў. Але яна смяялася, я смяшыў яе, яна рагатала з маіх анекдотаў, яна прыкрывала рот далонню, ды ўсё адно я заўважыў залаты зуб і спытаў: «Баранэса Роберман, чаму ў вашым роце з'явіўся залаты зуб?» — «Граф Глобус, стаматолаг мяне пераканаў паставіць залатую каронку, каб пазней да яе чапляць іншыя каронкі і масты...» Мне зусім не спадабалася практычнасць і дальнабачнасць пратэзіста, але я не стаў разгортваць пікантную тэму з залатым зубам. Калі ты Голда, ты маеш поўнае права насіць у роце залаты зуб. Хіба не?

## Чорны настрой

Апошні раз я бачыў Голду ў Мінску. Яна вярнулася з Масквы, каб прадаць бацькоўскую кватэру і ўпарадкаваць свае іншыя мінскія

справы. Жыла яна на прыватнай кватэры на вуліцы Адоеўскага, я жыў побач — на Янкі Маўра. Аднаго разу я зайшоў да Голды ў госці. У мяне была бутэлька партугальскага віна і не было з кім выпіць. Дарма я зайшоў да Голды. У яе быў змрочны настрой. Кватэра таксама была кепская, як і яе настрой. У кутку адзінага пакоя на нейкай шэрай, не вельмі каб чыстай коўдры сядзела маленечкая дзяўчынка, вельмі падобная да Голды, і гуляла з яркімі цацкамі: качкамі, малпамі, лялькамі... Каля сцен стаялі чорныя пліты, на якіх былі выдзеўбаны партрэты нябожчыкаў. Голда, пакуль тым разам жыла ў Мінску, падзарабляла партрэтамі для могілкавых помнікаў. Піць віно яна адмовілася. Выпіў я адзін. Настрой мой сапсаваўся. Ён стаў чорны, як партрэт мерцвяка. Я развітаўся, сышоў і больш ніколі не бачыў ні Шавуля, ні Ірму, ні Голду Лейбаўну Роберман.

## Званок з Чыкага

З Чыкага тэлефанавала Голда. Прагаварыў з ёй больш як гадзіну. Дваццаць пяць гадоў мы не бачыліся, так што наша доўгая размова не дзіва. Больш за ўсё мяне здзівіла сварка Голды з Ірмаю. Родная сястра не размаўляе з роднай сястрою. І з-за чаго? З-за могілак. Ірма некага там не таго пахавала ў бацькавай магіле, у зямлі Лейбы Робермана. Цяпер Голда не гаворыць з сястрою. Мёртвыя не даюць спакою жывым.

## Голда і любоў

Голда ніколі не напівалася. Колькі мы там усе ні пілі, а Голда заўжды заставалася цвярозай і разважлівай. Канешне, яна сядзела разам

з намі, яна прыгублівала чарку, яна магла крышку выпіць для бадзёрасці і весялосці, але каб напіцца, такога з Голдай Лейбаўнай не здаралася. Іншае здаралася, калі Голда пачынала капрызіцца: туды не пайду, гэтага рабіць не буду, вы ўсе брудныя свінапасы. О, тады пачыналася іншая гульня... Мы — я і Сцяпан, ці я і Чэх, ці Чэх і Сцяпан... Карацей, два з нашых аднагрупнікаў бралі Голду за белыя локці, выводзілі з мастацкага вучылішча праз цёмную арку на светлы праспект і вадзілі пад сценамі тэатральна-мастацкага інстытута так, нібыта наша Голда Лейбаўна напілася і сама ісці цяпер ня можа. Чым больш Голда крычала і капрызілася, чым больш яна ўпіралася і супраціўлялася, тым больш гэтая сцэна рабілася падобнай на тое, што дзеўка і напраўду моцна набралася. Мы псеўдаліслівымі і псеўдадобрымі галасамі яе нібыта супакойвалі: «Галечка, напілася? І харашо. Напілася? І правільна! Напілася? Паводзь сябе спакойна. Мы цябе любім!»

Праз дваццаць пяць гадоў, калі Голда патэлефанавала мне з Чыкага і мы пачалі згадваць наша мастацкае вучылішча і нашу ў ім маладосць, Голда прыгадала і псеўдап'янае хаджэнне па праспекце. Пэўна, гэта ўсё з-за таго, што мы на ўвесь праспект крычалі Голдзе: «Мы цябе любім!»

# СВАЯКІ

*Словы пра родных і блізкіх людзей*

## ЦЁТКА

*Словы пра цётку маю Рэню,
Рэгіну Браніславаўну Сахарцаву з Кісялёў*

### Кофа

Яна так і казала: «кофа». Зняважлівасць была непадробная. Усіх, хто п’е свой «кофа», мая цётка Рэня не паважала. «Сядзяць, нічога не робяць, цэлымі днямі п’юць свой кофа!» — так яна казала пра сваіх суседзяў з другога паверха, пра грузін. Рэня жыла на трэцім. Праз вуліцу пад гастраномам збіраліся папіць кавы таксісты з усяго Сочы. З трэцяга таксісты з кубкамі гарачай кавы глядзеліся як на далоні. «З раніцы да ночы зімою і ўлетку яны тут стаяць і п’юць свой кофа. Таксі выклікаеш і можаш паўгадзіны чакаць, а яны будуць стаяць і піць свой кофа так, быццам іх ніхто і не выклікае, ніхто не чакае», — так цётка выказвалася пра таксістаў. Каву Рэня варыла добрую, моцную, сыпала, не шкадуючы, у турку, варыла на маленечкім агні няспешна... Часам у памяці ўсплывае высокі голас Рэні: «Валодзя, ідзі пі свой кофа! Я зварыла».

### Стужкі

Калі Рэня пайшла ў 11 клас, у яе былі чырвоныя тоўстыя агульныя сшыткі. Цэлы стосік

чырвоных сшыткаў. Хацелася вырасці, пайсці ў школу дзеля таго, каб і ў мяне завяліся на стале чырвоныя сшыткі, у якіх можна пісаць, маляваць і чарціць. Акрамя чырвоных сшыткаў былі яшчэ ў Рэні рознакаляровыя шаўковыя стужкі. Яна іх заплятала ў доўгую светларусую касу і завязвала на канцы касы ў бант. Мець ружовыя, белыя і бэзавыя стужкі таксама хацелася, але гэта ўсё лічылася выключна дзявочым, і хлопцу пра іх, пра такое і гаварыць, і марыць было сорамна. Мо таму сшыткаў я сабе пазней накупляў, а шаўковых стужак ніводнай так і не набыў.

## Саплівасць

Рэня мне казала, каб не абураўся чужымі дзецьмі і не асуджаў іх за хібы ды заганы, бо свае могуць быць менавіта з рыхтык такімі ж заганамі... У маладосці Рэня не любіла саплівых дзяцей. Нічога больш гідкага за дзіцячы нос з зялёным смаркачом яна і прыдумаць не магла. Вінаваціла ў саплівасці, смаркатасці і карэлай мурзатасці яна, канешне ж, бацькоў. Не глядзяць, не лечаць, не любяць... Яна будзе сваіх любіць, глядзець і, калі што, лячыць. Так і было. Рэня любіла і Дзіму, і Вольгу. Глядзела іх, лекавала, а яны ўсё адно прахадзілі да гадоў пяці з саплёю пад носам, а то і на шчацэ.

## Вяселле

На вяселлі ў цёткі Рэні я не быў. У дзядзькі свайго Антака быў і гуляў, таму і вяселля Рэні чакаў. Яно было далёка, на беразе Чорнага мора ў горадзе Сочы. Хто б мог падумаць?

Цётка вучылася ва ўніверсітэце на беларускім філфаку і збіралася выкладаць нашу мову і нашу літаратуру. Ніякіх марскіх узбярэжжаў не праглядалася... А тут прапанова... Чытач з мамінай бібліятэкі — Жора — папрасіў пазнаёміць яго брата Гену з прыстойнай дзяўчынай. Гену пазнаёмілі з Рэняй. Смехам-жартам яны пазнаёмілі. Рэня з'ездзіла ў Сочы, прастудзіла вуха ў цягніках і вярнулася з прапановай пайсці за Гену — маладога кухара з прыморскага рэстаранчыка. Праз пару месяцаў Рэня з'ехала з Мінска ў Сочы назаўжды. Адтуль яна прыслала нам вясельны здымак і запрашэнне прыязджаць на бераг Чорнага мора ў любы час.

## Мандарыны

Штогод пад Каляды Рэня прысылала ў Койданава скрынку абхазскіх мандарынаў. Як ні дзіўна, але мандарыны, пазагортваныя ў газеты, даходзілі і ўпрыгожвалі навагодні стол у бабы Ядзі і дзеда Броніка. Хто-хто, а Бронік Кісель любіў сваю дачку Рэнечку моцна. Перажываў за яе. Шкадаваў, што з'ехала ў далёкі свет незваротна. Разам з Бронікам я насіў на пошту скрынкі з-пад мандарынаў, у якія мы запакоўвалі койданаўскія прысмакі: маністы сушоных баравікоў, слоікі з малінавым варэннем, кавалкі паляндвіцы ды сушаныя на печы грушы.

## Бухгалтэрыя

У чарнаморскім Сочы выкладчыца беларускай мовы і літаратуры не патрабавалася, таму Рэня вырашыла займецць якую-небудзь больш

інтэрнацыянальную прафесію. З усіх магчымых адукацый выбраліся бухгалтарскія курсы. Рэня старанна прахадзіла на ўсе заняткі, а калі пачаліся іспыты, расхвалявалася. З яе мужам Генам мы праводзілі Рэню на іспыт, чакалі пад дзвярыма, пакуль яна здавала. Гулялі пад платанамі. Гена расказваў мне пра цяжкую службу на флоце. Ён праслужыў на Каспійскім моры простым матросам ажно сем гадоў. Потым працаваў на пляжы выратавальнікам, а пазней вывучыўся на рэстарацыйнага кухара. Рэня вывучылася на бухгалтара, здала выдатна ўсе іспыты і ўладкавалася працаваць у сваё домакіраўніцтва. Там і працуе больш за сорак гадоў. Калі пачыналася першая чачэнская вайна, у домакіраўніцтве ўсім надзейным людзям раздавалі зброю. Рэні прапаноўвалі пісталет. Не ўзяла.

## Білеты

Для мяне галоўнае было назбіраць грошай на білет да Сочы. Нешта давала маці, яна большасць давала. Нешта браў у таты. Нешта сам падзарабляў. У Сочы мне грошы былі без патрэбы: мора, сонца, пальмы і абеды са сняданкамі ды вячэрамі мне выдаваліся там за проста так. Усё мне давалася, бо ў Сочы — цётка Рэня. Жыў я ў яе. Білет з Сочы да Мінска купляла Рэня. Так бывае: цябе любіць цётка, яна жыве каля самага Чорнага мора, і таму тваё юнацтва праходзіць каля сініх хваляў, па якіх праплываюць белыя параходы.

## Цукровасць

З усіх Сахарцавых, каго я ведаў, лепш за ўсё прозвішча падыходзіць Рэні. Бацькоўскае Кісель і матчына Александровіч ёй пасавалі значна горш за салодкае Сахарцава. Яна заўжды была салодкая і белая, пудранацукровая, кандытарская, цукерачная. Яе ўсе любілі так, як любяць здобную булачку, густа пасыпаную салодкай пудрай. Рэня нарадзілася, каб жыць у курортнай раскошы, дзе за вокнамі — высунь руку і дастанеш — гронкі вінаграду «ізабэла». Рэня штодня ідзе на працу пад пальмамі і бананавымі дрэвамі. Рэня не любіць пякельныя пляжы і глыбокую ваду. Любіць субтрапічны цень з густым водарам зманліва-атрутнай магноліі. На вечаровы Сочы Рэня любіць глядзець са сваёй лоджыі, пад якой плыве і плыве райска-курортнае жыццё вялікіх імперый.

## «Сястра»

Аднаго разу, едучы з нашай станцыі Койданава ў Мінск, я і Рэня разгаварыліся са спадарожнікамі — маладымі хлопцамі са Стоўбцаў. Хлопцы хацелі пазнаёміцца з блакітнавокай і ружовашчокай апетытнай Рэняй, таму распытвалі ў мяне... Хто яна? Як яе зваць? Дзе вучыцца ці працуе? Рэня загадала маўчаць, я пасміхаўся, казаў абы-што, сакрэтаў сямейных не выдаваў. А запомнілася тое падарожжа, бо Рэня схлусіла хлопцам, што яна мая сястра. Ёй — школьніцы — не хацелася называцца цёткай.

## Каменьчыкі

Рэню паклалі ў бальніцу, бо трываць вострае паколванне ў нырках было немагчыма. Зрабілася аперацыя. Рэня вярнулася з бальніцы моцна схуднелая, празрыста-блакітная. Стоячы ў лоджыі і гледзячы на чорнае сочынскае неба, Рэня сказала мне, што думала — памрэ, думала — такі і канец, боль быў невыносны... Пасля аперацыі стала лягчэй, боль пакрысе аціх. Доктар на памяць даў ёй марлевы вузельчык з яе камянямі. Рэня паказала мне свае камяні, развязаўшы марлевы вузельчык. «Гладкія каменьчыкі, а калолі так, нібыта яны ўсе з шыпоў, як вожыкі...»

## Спакой

Усё вялікае чарнаморскае лета ў Рэні таўклася і таўчэцца процьма людзей: сваякі, знаёмыя, знаёмыя сваякоў, знаёмыя знаёмых. Нехта прыязджае, нехта ад'язджае. Дзень прыезду і дзень ад'езду — свята. У Рэні ўсё лета ў святах. Прыехалі Папулы — сястра Гены з мужам і дзецьмі. Прыехаў Славушок — брат Гены з дзвюма жонкамі і адным дзіцёнкам. Прыехала Ніна — сястра Рэні з сынамі. Прыехала Галя Стральцова — знаёмая Рэні з новым мужам, які, зразумела, не Стральцоў. Прыехаў Анатоль — стрыечны брат Рэні з жонкай Аленай Атраховіч, унучкай байкапісца Крапівы. Прыехаў Жора — брат Гены з жонкай і дзецьмі, сынам і дачкой. Прыехаў... Прыехала... Поўны дом.

Трохпакаёвая кватэра перапоўнена людзьмі. Я сплю на лоджыі. Хаджу праз пакой, дзе спіць Рэня з Генам. Ноччу заходжу ў пакой,

а Гена на Рэні. Ціха прабіраюся на лоджыю. Ніхто нікому нічога не кажа.

## Мора

У першыя гады жыцця ў Сочы Рэня на пляж хадзіла. Пойдзе, згарыць, адпакутуе, зноў ідзе. Зноўку яе цукрова-белая скура робіцца малінавай. Муж — чалавек марскі, купаецца кожны дзень з сярэдзіны вясны да восеньскіх штормаў. Думаў, і жонка прывучыцца да мора. Не! Рэня пакінула хадзіць на пляж, перастала купацца ў моры і загараць. Бывала, што цэлы год ні разу не сходзіць на мора ногі памачыць. Ну пахадзіць каля яго, ну на хвалі паглядзець, прыбой паслухаць. Не! Беларуска — жанчына сухапутная, жанчына зямлі, жанчына палёў і лясоў.

## Вайна

Бацька Рэні — Бронік Кісель — прайшоў тры вайны. Ён вызваляў Заходнюю Беларусь, ён прайшоў усю савецка-фінскую вайну, ён быў цяжка паранены на Вялікай Айчыннай. Таму ў сям'і Кісялёў усе як толькі маглі пазбягалі патрапляць у зоны баявых дзеянняў. Спрабаваць уцячы ад вайны спрабавалі, але яна нібыта пераследавала Бронікавых дзяцей. Сын Антон быў цяжка паранены на савецкафінскай мяжы, а Рэня пацярпела ад вайны ў сваім Сочы. У яе быў маленькі дамок-дача ў гарах. Ад гразевай лячэбніцы Мацэсты хвілін сорак пехатою. У тых мясцінах перахоўваліся дэзерціры часоў Другой сусветнай. Я таксама думаў, што калі што якое, дык можна і перахавацца. Выдатная хованка... была!

Бо гэтым разам вайна прыпаўзла з іншага боку. Яна спаўзла з гор. Баевікі спалілі дамкі «лиц славянской национальности». Дамы грузін і армян не чапалі. Мо таму, што ў мяне ёсць цётка Рэня, я ведаю дакладна, на якім баку стаю ў Каўказскіх войнах. На баку «лиц славянской национальности».

## Чорны соус

Маляваць соусам я ніколі не маляваў, але паспрабаваць хацелася. Канешне, я б з вялікім задавальненнем папісаў і алейнымі фарбамі, і акварэллю, толькі грошай у мяне хапіла на адну палачку чорнага соусу. У сочынскім мастацкім салоне я набыў соус і прынёс да Рэні. Сеў за стол і намаляваў сілуэт чалавека ў доўгім палітоне і капелюшы, які ішоў праз арку. Соус маляваў як кепская тлустая крэйда. Крышыўся. На адзін невялічкі малюнак я скрышыў трэць палачкі.

Увечары Рэня сказала, што ў яе чорныя пяты. Яна іх мые, а адмыць не можа. Чорныя пяты былі ва ўсіх, хто тады жыў у Рэні. Па кватэры мы хадзілі басаНож, бо горача, бо падлога — добра вымыты паркет. Так я даведаўся, што драбок соусу можа расцерціся і пакрыць даволі вялікую плошчу. Ім, калі напрактыкавацца, даволі зручна рабіць танальныя малюнкі, але я соус незалюбіў, бо, як толькі яго бачыў, адразу згадваў чорныя пяты цёткі Рэні.

## Дзень нараджэння

Кажуць, нібыта кепска, калі чалавек нарадзіўся ў святочны ці перадсвяточны дзень. Не згодны. Рэня нарадзілася сёмага сакавіка

ў краіне, якая шырока адзначала Жаночы дзень — Восьмага сакавіка. Таму дзень нараджэння цёткі лёгка запамінаўся, таму я не забываюся штогод спытацца ў мамы... Як там наша Рэня? Мама абавязкова віншуе Рэню з днём нараджэння па тэлефоне. Усе навіны, як добрыя, так і кепскія, я ведаю. Таму і лічу, што людзям, народжаным у святы, пашанцавала. Іх помняць, іх згадваюць часцей, іх не забываюць так хутка, як усіх астатніх.

## Кватэра

У блатным савецкім фальклоры горад Сочы фігураваў і меў вялікія каціроўкі. «Знал бы прикуп — жил бы в Сочи». «Меняю Сочи на Чикаго». Вось так: нерухомасць у Сочы прыраўноўвалася да амерыканскай. І калі мой стрыечны брат Віця Адамчык перабраўся ў Чыкага, я падумваў набыць кватэрку ў Сочы. Цётка Рэня, працуючы ў домакіраўніцтве, валодала патрэбнай інфармацыяй і прапаноўвала дапамогу. І набыў бы я нерухомасць ля самага Чорнага мора, каб не вайна. На маіх вачах загарэлася Абхазія. Вайна была зусім побач з Сочы, за рэчкай Псоў. Цётка з сумам сказала, што ў Сочы лепей не прыязджаць. Размовы пра набыццё кватэры аціхлі, замяніліся размовамі пра пажары і бандытызм. Я памяняў Сочы на Січэс пад Барселонаю, а Чыкага — на Вільню.

## Ружы

У Сочы Рэня пасялілася на вуліцы Руж. Яна пасялілася ў аднапавярховым дамку, дзе ўсе ўваходы ў пакоі былі наўпрост з вуліцы, прыбіральня таксама была на вуліцы, але гэта была

вуліца Руж. Мыцца даводзілася хадзіць у лазню, але ж яна была зусім побач. Там былі выдатныя душавыя кабінкі. Вуліца Руж пахла кветкамі магноліі і кветкамі, канешне, руж. У Сочы шмат руж, але вуліца Руж адна. На ёй і жыла мая цётка Рэня ў аднапавярховым дамку пад вялікай жоўтай чарэшняю.

### Кніга

Калі я жыў у Рэні, мне добра чыталася. Ёсць месцы, дзе добра чытаюцца кнігі. Так было ў доме на вуліцы Руж. Там я прачытаў самастойна сваю першую вялікую кнігу, прачытаў раман Майн Рыда пра Ацэолу, правадыра індзейцаў з племені семінолаў. У доме пад жоўтай чарэшняю я захапіўся чытаннем. Я чытаў і пераказваў прачытанае Рэгіне, сваёй любімай цётцы. Яна слухала, яна была ўдзячным слухачом.

# ГЛОБУСЫ

*Словы пра прозвішча маёй маці — Ніны Глобус*

## *УСТУП*

### Псеўданім і пашпартнае прозвішча

Тата вельмі любіў сваё прозвішча Адамчык і ганарыўся ім. У гутарках пра наша прозвішча ён заўжды падкрэсліваў ягоную чалавечнасць. Не стану казаць, што я не люблю сваё пашпартнае прозвішча, — і люблю, і ганаруся ім,

але падпісваю свае літаратурныя і мастацкія творы псеўданімам, бо не люблю блытаніны. Тата — Вячаслаў Уладзіміравіч Адамчык, я — Уладзімір Вячаслававіч Адамчык. Падабенства настолькі вялікае, што кожная другая бухгалтарка блыталася, выпісваючы ганарары, таму я вырашыў падпісвацца прозвішчам маці — Глобус. А каб не крыўдзіць тату, дадаў да Глобуса імя Адам. Так з'явіўся мой псеўданім — Адам Глобус. Большасць маіх чытачоў лічыць псеўданім прыдуманым і штучным, але я да такога памылковага стаўлення прызвычаіўся.

## *ГЛАВА ПЕРШАЯ*

### Глобус і Напалеон

Пасля першай публікацыі маіх вершаў у маскоўскай «Літаратурнай газеце» я атрымаў ліст ад сям'і Глобусаў з Тбілісі. Яны пісалі, што іх продкі некалі жылі ў Гродна. У сям'і захавалася легенда пра паходжанне прозвішча Глобус... Сам Напалеон звярнуўся да іх сваяка, заможнага і разумнага яўрэя, каб той паказаў на карце найлепшы шлях да Масквы. Разумнік дапамог Напалеону, а той у якасці ўдзячнасці назваў яго жывым глобусам. У памяць пра сустрэчу з Напалеонам яўрэй змяніў сабе прозвішча на Глобус... Нашчадкам гродзенца я даслаў паштоўку з падзякаю за казку. На гэтым ліставанне і скончылася.

### Глобусы і Букоўскі

Я моцна здзівіўся, прачытаўшы прозвішча Глобус у цітрах геніяльнага фільма «П'янь»,

які быў пастаўлены французскім рэжысёрам Барбетам Шродарам па творах амерыканскага літаратара Чарльза Букоўскі. Галоўную ролю гіперрэальнага п'янчугі выканаў Мікі Рурк. Прадзюсарамі шэдэўра былі пазначаны Менахем Голан і Ёрам Глобус. У мяне нават узнікла жаданне напісаць ім ліст у Галівуд. Але сваё жаданне я не здзейсніў. Пасаромеўся, пэўна ж. Пасля заўчаснай смерці Ёрама Глобуса Менахем Голан вярнуў сабе сваё сапраўднае прозвішча. І не трэба здзіўляцца! Ён стаў Глобусам. Голанам Менахем зрабіўся ў 1948 годзе, калі служыў у ізраільскіх вайскова-паветраных сілах. Тады ён мяняў прозвішча з патрыятычных меркаванняў: Голан гучала ў Ізраілі больш патрыятычна за лацінскае Глобус.

## Глобус і караімы

Не ведаю, наколькі патрыятычна гучыць прозвішча Глобус для караімаў, але старшынёй таварыства караімаў у сучаснай Літве з'яўляецца менавіта Глобус. Караімы — татары, што спавядаюць іудаізм. Таму можна ўпэўнена казаць, што прозвішча Глобус носяць людзі розных нацый.

## Глобус і Сікорскі

У Архіве Польскага інстытута і музея імя генерала Сікорскага ёсць дакумент ад 17.VI.1944, у якім згадваецца Сцяпан Глобус, праваслаўны з Баранавіцкага павета, ён служыў у першай танкавай дывізіі, у дзявятым стралецкім батальёне. Выпіску ў архіве зрабіў для мяне навуковец Ігар Войніч.

## Глобус у «Канвееры смерці»

Сярод кніжак серыі «Архіў найноўшай гісторыі» ёсць зборнік дакументаў, сведчанняў, успамінаў, складзены Ігарам Кузняцовым, — «Канвеер смерці». У раздзеле «Мартыралог. Спіс ураджэнцаў Беларусі, рэпрэсаваных на тэрыторыі Заходне-Сібірскага краю (Томская вобласць) у 30–40-я гады і ў пачатку 50-х гадоў» я знайшоў такі запіс: «ГЛОБУС Мірон Ільіч (1895, Шчучын) жыў у Томску, загадчык кафедры №2 Томскага ўніверсітэта. Арыштаваны ў 1937. Расстраляны».

## Глобус — поўны кавалер ордэна Славы

У канверт, які я атрымаў ад галоўнага рэдактара віцебскага часопіса «Мішпоха» спадара Аркадзя Шульмана, быў укладзены ліст з Арэнбурга. У ім я прачытаў пра Льва Глобуса — поўнага кавалера ордэна Славы. «...22 снежня 1944 года падчас блакіравання вялікага дома на ўскраіне горада Секешфехервара, што ў Венгрыі, Глобус выявіў на гарышчы гэтага дома кулямётчыка. Прабраўшыся на гарышча, ён знішчыў кулямётны разлік і дваіх аўтаматчыкаў. Там жа ж ён захапіў варожую радыёстанцыю і перадаў яе ў штаб палка...» Леў Глобус загінуў у Будапешце 1 студзеня 1945 года. Нарадзіўся ён «у 1914, быў сяржантам і камандаваў аддзяленнем штурмавога інжынерна-сапёрнага батальёна. Да вайны ён жыў па адрасе: Чкалаўская (цяпер Арэнбургская) вобласць, горад Орск, вуліца Сцяпана Разіна, дом 78». За свае подзвігі Леў Глобус «быў узнагароджаны акрамя ордэна Славы ўсіх трох сту-

пеняў ордэнамі Чырвонага Сцяга, Чырвонай Зоркі і трыма медалямі “За адвагу”. Кожная з гэтых узнагарод — сведчанне доблесці, мужнасці, высокага вайсковага майстэрства... Пакуль што не знойдзена сваякоў нашага славутага земляка».

Пісаць у Арэнбург я не стаў.

## *ГЛАВА ДРУГАЯ*

### Ліда і Пілаты

Даўно збіраўся наведаць мясціны, дзе жыў мой дзед Валодзя Глобус. Мама казала, што жыў ён на Капыльшчыне, у пасёлку Жыліхава. Там і маці мая — Ніна Глобус — нарадзілася. Вось і выбраўся я ў вандроўку з журналістам Змітром Бартосікам. У нядзелю прыехалі мы ў тое Жыліхава. Раніца была хмурная, а пасярод дня праяснілася. «Добра ў іх тут, у Жыліхаве, сонца свеціць і цёпла!» Бартосік пасмяяўся з майго хвалявання.

Пачалі мы людзей распытваць пра маіх Глобусаў. Спачатку ніхто не мог згадаць іх. Усе казалі, што ў Жыліхаве Глобусы ніколі не жылі. Валодзю Глобуса ніхто не памятаў. Нарэшце адна цётка згадала, што ў Жыліхаве працаваў Мікалай Глобус, сын Мікалая. Яшчэ знайшлі мы жанчыну, што вучылася ў школе з Галяй Глобус. Яна і падказала, што ўсе Глобусы жылі ў пасёлку Гулевічы. Ва ўсіх маміных дакументах пазначаны менавіта пасёлак Жыліхава, таму я вырашыў адведаць жыліхаўскія могілкі. А раптам тамака знойдзецца хоць нейкі след-напамін пра майго дзеда Валодзю.

Колькі мы ні хадзілі па кладах, а ніводнага Глобуса не знайшлі. Затое там вельмі шмат Пілатаў. Ледзь не палова магіл належыць людзям з прозвішчам Пілат. Як ні паварочвай, а прозвішча Глобус мне падабаецца больш за прозвішча Пілат. Зрэшты, і Пілат гучыць магутна, па-імперску. І ўражвала тое, што старажытны біблейскі вобраз меў не толькі мужчынскае, але і жаночае аблічча. На якое імгненне мне падалося, што я недзе ўжо бачыў Пілата ў жаночым абліччы. Я паразглядаў твары Пілатаў на помнікавых фотаздымках, але так і не згадаў, дзе я іх мог бачыць.

Сярод жыліхаўсіх Пілатаў я знайшоў невялічкі, пафарбаваны ў глыбока-блакітны колер камень, зарослы ў зямлю. Пад тым каменем ляжыць Ліда Ваўчок. Надпіс-напамін пра Ліду зроблены па-беларуску. Пра гэтую Ліду Ваўчок мы папыталіся ў людзей. Памерла яна маладой. Мужчына ўзяў яе з нейкага інтэрната. Чаму надпіс зрабілі па-нашаму, ніхто не сказаў. Мае спадзяванні знайсці магілу дзеда Валодзі ў Жыліхава не спраўдзіліся.

Дарэчы, прозвішча Ваўчок у маёй сям'і не чужое. Першая жонка майго малодшага брата Міраслава — Наталля Ваўчок, маці майго пляменніка Чэсіка.

Каб дарасказаць пра Пілатаў, я зайду крышку наперад...

У сераду, ідучы на працу, на аўтобусным прыпынку я сустрэў журналістку Таццяну Снітко, якая разам з дачкою Вераю часам бярэ заказы і ў маім выдавецтве «Сучасны літаратар». Таня сказала, што ў нядзелю ездзіла ў вёску, ну і я расказаў пра сваё падарожжа ў Жыліхава. Тутака і высветлілася,

што баба Таццяны і прабаба Веры жыла ў Жыліхаве, што пад Копылем, а прозвішча ў яе дзявочае — Пілат. Таня згадала, што некалі даўно яе маці пыталася: «Ці не мае твой знаёмы пісьменнік Глобус сваякоў у Гулевічах?» А Таня сказала, што не, бо я нарадзіўся ў Койданаве.

## Павел і магілы

У пасёлку Гулевічы я не пабачыў на вуліцы ніводнага старога чалавека. Мы з Бартосікам праехалі ўвесь пасёлак і не знайшлі, з кім бы пагаварыць пра майго дзеда. «Што будзем рабіць?» — «Шукаць, будзем хадзіць па хатах...»

На ўскрайку пасёлка пасвіўся конь. Мне захацелася падысці да гнядога каня і спытацца ў яго пра майго Уладзіміра Рыгоравіча Глобуса. Але распытваць я пачаў не маладога каня, а старога конюха Паўла. «Валодзю Глобуса? Ведаю! Тут ён і жыў. І дом яго стаіць. І жонка яго першая — Алена — яшчэ жыве. Ёй 97 гадоў. Хутка будзе 98. І пляменніца яго тут. Магу паказаць іх хаты...» — «Можа, спачатку на могілкі з'ездзім, вы мне магілу дзедаву пакажаце...» — «Можна і на могілкі...» Сівавусы Павел загрузіўся ў Бартосікаву «Волгу», і мы паехалі на клады.

«А вы хто яму?» — «Унук!» — «А ад якой жонкі?» — «Ад Ядзі!» — «Не помню Ядзю. У Валодзі было пяць жонак!» — «Пяць?» — «Алена — першая жонка. Ваша баба, з якой ён ажаніўся, калі ў войску служыў, — другая. Потым ён Маню ўзяў. Дзяцей у іх не было, і ён Маню, сваю трэцюю жонку, прагнаў. Ездзіў ён у Тамбоў, і казалі, што там у яго была

нейкая жонка, але пра яе я нічога не ведаю. А пятая, апошняя жонка Валодзі — Антоля, яна яго і глядзела, яна яго і пахавала. Недзе тут усе вашы Глобусы...»

Ніякага хвалявання я не адчуваў, стоячы на беразе зарослых бярэзінамі могілак. Было такое адчуванне, што я некалі быў тут, у пасёлку Гулевічы, бачыў гэтыя дамкі, вуліцу, бачыў няголенага старога, падобнага да эсэіста Сяргея Дубаўца, — Паўла. Ён хутка пайшоў шукаць магілу майго дзеда, а я закурыў цыгарэтку і пачаў глядзець на далёкі сінявата-зялёны лес. «Во тут ляжыць Мікалай, малодшы брат вашага Валодзі...» Я падышоў да шэрага, абвязанага бэзавай стужачкай помніка з фотапартрэтам немаладога лысаватага мужчыны. На помніку быў надпіс, з якога вынікала, што мой стрыечны дзед, Глобус Мікалай Рыгоравіч, нарадзіўся 22.12.1911, а памёр 08.02.1983. Непадалёк стаяў помнік маёй стрыечнай бабе Мані, якая жыла з 1918 па 1991 год. Яе твар не сказаў мне нічога. Побач з Маняю, пад шэрым каменным слупком з крыжыкам, ляжала мая прабаба — Вольга Глобус, якая пражыла 89 гадоў, з 1885 па 1974. «Маці ў Валодзі была вялікая жанчына, кілаграмаў 120. Яна і дзяцей ягоных глядзела. Ён іх прывозіў, адвозіў, а глядзела іх яна. Яе ўсе паважалі. Здаровая была баба...» — так расказаў Павел пра маю прабабу — Вольгу Глобус.

«Валодзя, хадзі сюды!» — гукнуў мяне Зміцер Бартосік. Я падышоў да жалезнай агароджы, за якою стаяў помнік майму дзеду. «Ага, вось тут ён і ляжыць, ваш Валодзя!» — сказаў, нібыта папіхнуў мяне ў спіну, конюх Павел. Бартосік зрабіў сур’ёзны твар і нейкім тэа-

тральна-замагільным голасам спытаў: «І што ты адчуваеш?» Нічога я не адчуваў, але каб крышку падыграць Бартосіку зрабіў суровы твар: «Плакаць хочацца!» — «Праўда?» — Зміцер мне не паверыў, а мне стала радасна на душы. Вось ехаў я, шукаў, на нешта там цьмянае спадзяваўся і нарэшце знайшоў магілу дзеда Валодзі, майго Глобуса Уладзіміра Рыгоравіча, майго лейтэнанта Глобуса. Маці мне казала, што ён нарадзіўся ў 1902 годзе, а насамрэч — у 1907, казала, што памёр ён прыблізна ў 1962, на металічнай шыльдачцы ж быў пазначаны 1961 год. Побач з дзедам адпачывае ў вечным сне і яго апошняя жонка — Глобус Антаніна Сцяпанаўна.

«А які ён быў, Валодзя Глобус?» — спытаў я ў конюха. «Разумны быў, адукаваны, рабіў добра, харошы чалавек, каб не...» — «Каб не што?» — «Каб не жонкі, каб не бабы... Хітры ён быў!» — «Чаму хітры?» — «У банку працаваў, і наогул...» — Павел пакруціў у паветры загарэлай і парэпанай рукою. «Скажыце, а якой яны веры былі, гэтыя Глобусы?» — «Ні ў што яны не верылі, вашы Глобусы...» Не ведаю, што мой дзед зрабіў кепскага Паўлу ці што такога непрыемнага я яму сказаў, але твар яго зрабіўся злосны, і ў вачах засвяціўся недавер: «Дык вы ўнук Валодзі?» — «Унук!» — «А з якога вы года?» — «З 58-га...» — «Мой з 57-га... Дачка з 68-га... Нешта вы замолада выглядаеце...» — «Паехалі ў пасёлак!» — сказаў я Бартосіку. Злаваць старога Паўла я не хацеў.

## Алена і авечка

Алене — 97. У яе васільковыя вочы і востранькі носік. Я пытаюся ў яе пра першага

мужа, пра свайго дзеда, пра Валодзю Глобуса. «Харошы быў. На вас не падобны. Сярэдняга росту. Мажны. Прыгожы і разумны... Работу розную ўмеў рабіць. Усё рабіў сваімі рукамі. І дом мог пабудаваць. Сам, усё сам рабіў. І не піў... У мяне ад яго дачка ёсць, Надзя. Яна жыве ў вёсцы Старыца. У доме каля возера. Там адзін дом каля возера. У Старыцы спытаеце дом каля возера, і вам кожны пакажа. Калі Надзя замуж выходзіла, я Валодзю запрашала на вяселле, а потым і ён запрашаў да сябе нашу Надзю з жаніхом. Мы з ім не сварыліся. А вы ягоны ўнук... Як, вы кажаце, вашу маму звалі? Ніна? Помню я вашу Нінку. Я ўжо сабе іншага мужыка ўзяла. Валодзі тры гады не было, і я сабе іншага ўзяла. А ён вярнуўся і прывёз вашу... Як вы кажаце? Ядзю? Ну так... Ядзю. Яны не па вуліцы ішлі ў сваю хату, а там, вунь там, па загуменнях. Ён, мусіць, баяўся, што я іх біць буду... Выскачу з хаты, налячу і палкаю паб'ю...» Васільковавокая Алена ўзняла сваю кульбачку і засмяялася бяззубым ротам. Я злавіў сябе на думцы, што ў мяне зусім няма агіды да яе па-дзіцячы бяззубага рота. «Ён жа не ведаў, што ў мяне другі мужчына... А Нінку вашу помню. Яна ўсё прыходзіла да мяне і плакала. Не хацела Нінка жыць у нашых Гулевічах...» — «Ядзя, Ядзя не хацела жыць у Гулевічах!» — папраўляю я вясёлую Алену. «Правільна, Ядзя не хацела жыць у Гулевічах. А я ёй кажу: чаго табе з ім не жыць? Жыві! У мяне новы мужчына. А ты жыві з Валодзем. А яна харошая жанчына, прыгожая, з чыстым тварам, прыйдзе да мяне і плача. Тады Валодзя прадаў авечку, купіў ёй білет, і мы праводзілі яе ў Мінск. І дачку яна забрала з сабой, Нінку вашу...»

Мой падарожны сябра Бартосік спытаўся ў старой Алены: «Што трэба рабіць, каб пражыць 97 гадоў? Ці ёсць які сакрэт?» — «Рабі больш за ўсіх — і пражывеш даўжэй за астатніх. Я работы не баялася, рабіла больш за ўсіх, вось і пражыла доўга!»

## Зінкевіч і дом над возерам

У вёсцы Старыца ў рудавалосай прадаўшчыцы з прадуктовай крамы я спытаўся, як знайсці дом над возерам, у якім жывуць спадары Зінкевічы, і патлумачыў, што мне патрэбна Надзея Уладзіміраўна. Прадаўшчыца крыху надзьмулася: «У нас адзін дом над возерам. Вы аб'едзеце возера. Паставіце машыну каля гарматы, а потым сцежкаю пройдзеце ў той дом...»

Які гэта дом! Сядзіба! Сад з вуллямі! Шэпты чароту... Мой сябра Бартосік доўга стукаўся ў дзверы, і нарэшце мы пабачылі сівога, моцна падвяселенага алкаголем дзядзьку: «А вы хто такія?» — «Я шукаю Надзею Уладзіміраўну Зінкевіч, старэйшую дачку Уладзіміра Глобуса!» — «Ясна, каго вы шукаеце. А вы хто такія?» — «Я — унук Валодзі Глобуса, бацькі Надзеі Уладзіміраўны!» — «Ясна. Вы — унук, а гэта ваш шафёр з магнітафонам?» — «Гэта мой таварыш...» — «Давайце пачнём з самага пачатку...» — «Я — унук...» — «У Валодзі Глобуса было сем жонак... Вы ад якой жонкі ўнук?» — «Ад Ядзі!» — «Не ведаю Ядзі. Яна жыве?» — «Ядзя памерла ў 1971 годзе. Жыве яе дачка — Ніна Уладзіміраўна Глобус, мая маці...» — «Не ведаю Ніны...» — «Можа, Надзея ведае?» — «Можа, і ведае... Вось што я вам скажу... Калі гэта праўда, што вы ўнук Валодзі Глобуса, калі гэта ўсё пацвердзіцца,

нам трэба будзе зладзіць банкет. Гэта ж радасць, што сваякі адзін аднаго знаходзяць...» — «Вы нам скажыце, дзе Надзея Уладзіміраўна.» — «У бальніцы яна. Тут недалёка, па дарозе на Мінск...» Мне стала сумна, у бальніцу я ехаць не хацеў, не хацеў — і ўсё... І не паехаў. Я адклаў сустрэчу з Надзяй Глобус да наступнай вандроўкі на Капыльшчыну.

У Мінску я адчуў спакой на душы. Я ўпарадкаваў сваё мінулае і адчуў спакой.

Смерць — толькі частка жыцця, як Бог — частка прыроды.

## Лена і 1000 дробязей

Адкрыццё чакае за кожным вуглом. Праўда. Вось я ўсё жыццё хадзіў і хаджу побач з крамаю «1000 дробязей». Сорак гадоў я праходзіў каля крамы «1000 дробязей», якая стаіць на плошчы Калініна ў Мінску, і не ведаў, што там працуе стрыечная сястра маёй маці — Вольга Мікалаеўна Глобус. А цяпер вось даведаўся, і зайшоў у «1000 дробязей», і спытаўся ў касіркі: «Дзе мне знайсці Вольгу Мікалаеўну?» — «Яна ў адпачынку...» — «А калі вернецца?» — «У аддзеле электрапрыбораў працуе яе дачка Алена. Спытайцеся ў яе...» У аддзеле электрапрыбораў я спытаўся ў прадаўшчыц, хто з іх Алена. Мне паказалі на высокую, светлавокую і светлавалосую жанчыну. «Вы дачка Вольгі Мікалаеўны?» — «А што?» — «Нічога. Я проста хацеў бы з ёй пагаварыць... Яе прозвішча Глобус?» — «Глобус». — «Калі яе прозвішча Глобус, тады я — ваш брат!» — «Х-х-ха-а-а! — я хацеў быў дастаць пасведчанне з псеўданімам Адам

Глобус, але передумаў. — Мама зараз дома. Я дам вам яе сотавы тэлефон, пазваніце, пагаварыце...» Лена запісала на паперцы нумар, і я пакінуў краму з дробязямі.

## Вольга і імёны па бацьку

Патэлефанаваў я Вользе Глобус. «Што ж вы так доўга не прыходзілі?» — «Нагоды не было...» — «А маці ваша чаму не прыходзіла?» — «Мама сказала, што яе бацька ёй не цікавіўся, таму і яна не вельмі хоча цікавіцца ім. Яна мае права на такое стаўленне. А я напісаў кнігу пра сваю сям'ю, там ёсць згадка і пра Валодзю Глобуса. Цяпер я ўдакладняю дэталі, таму і прыйшоў да вас. Вы мне скажыце, калі ласка, як імя па бацьку вашай бабулі Вольгі Глобус?» — «А я і не помню...» — «А дзе пахаваны мой прадзед Рыгор Глобус?» — «Там жа, у пасёлку Гулевічы. Ягоная магіла ў адной агароджы з Валодзевай. Такі драўляны помнік. Вы яго не бачылі?» — «Не. А калі ён памёр?» — « У 1952-м, здаецца...» Мой прадзед Рыгор Глобус памёр у 52-м, ягонае імя па бацьку дырэктарка крамы таксама не згадала. Мы дамовіліся сустрэцца праз тыдзень у краме «1000 дробязей».

## Вольга і шклянка кісялю

Ісці да Вольгі Глобус у яе краму «1000 дробязей», шчыра кажучы, зусім не хацелася. Яе папрок, што я так доўга да яе не прыходзіў, можна павярнуць і ў адваротны бок. Ніхто з іх да мяне ні разу не звярнуўся. Не, канешне, зусім не з-за гэтага я не хацеў ісці да Вольгі, а з-за навальніцы, якая насоўвалася на горад.

Патэлефанаваў я ёй, а яна не ўзяла трубку, я ўздыхнуў з палёгкаю, але яна тут жа перазваніла, і я паабяцаў праз 15 хвілін быць у яе. Пачалася навальніца. Ліло так, нібыта ўсё яшчэ лета, а не другі тыдзень верасня. І грымела палетняму, магутна. Давялося пераскокваць шырокія і бруістыя ручаіны.

У дырэктарскім кабінеце я знайшоў жанчыну, нечым падобную да маёй маці. «Лье тут у вас!» — «А ў вас не лье?» — «Я пра вуліцу Калініна... Давялося мне добра разагнацца, каб пераскочыць ручаіну...» — «Пераскочылі?» — «Так!» — «Значыцца, вы ў добрай спартыўнай форме, калі можаце лёгка пераскочыць шырокі ручай...» — «Бегаю раніцай... Вольга Мікалаеўна, я тут пытанні да вас пазапісваў. Можна, я іх пазадаю?» — «Задавайце!» — «Вашу бабулю, а маю прабабу, звалі Вольга. А вы не ўзгадалі, як яе імя па бацьку?» — «Іванаўна. Здаецца, Іванаўна. Так мне старэйшая сястра Валянціна сказала. Мы з ёй сазвоньваліся...» — «Выдатна. Мая прабаба — Вольга Іванаўна Глобус. А мой прадзед — Рыгор?..» — «Сямёнавіч...» — «Мой прадзед — Рыгор Сямёнавіч Глобус. Выдатна. А хто яны былі па веравызнанні?» — «Праваслаўныя. Там, у Гулевічах, у нас усе праваслаўныя...» — «А Глобусы заўсёды жылі ў Гулевічах? Ці, можа, яны аднекуль туды прыехалі?» — «Глобусы лічыліся сераднякамі, і іх не раскулачвалі. У Гулевічах іх дакладна не раскулачылі... Але ў сям'і казалі, што раней іх высылалі на Каўказ, што раней яны жылі недзе пад Баранавічамі ці ў Баранавічах... Дакладна я пра высылку на Каўказ нічога не ведаю і пра Баранавічы толькі чула ад старэйшых...» — «А майго дзеда Валодзю Глобуса вы помніце?» — «Ён памёр у 61-м, мне было дзевяць гадоў. Памятаю, як

яны ўсёй сям'ёю прыйшлі да нас на нейкае свята. Сядзелі ў нас за сталом... Твараў не помню...» — «У Валодзі Глобуса было чатыры жонкі: Алена, Ядзя — мая баба, Маня і Антаніна?» — «Маню не ведаю». — «Мне Павел, той, што ў Гулевічах каня трымае, расказаў пра Маню, якая жыла з Глобусам пасля Ядзі...» — «Вы ўжо больш за мяне ведаеце...» — «А як прозвішча Паўла? Я не спытаўся ў яго...» — «Аляшкевіч». — «Ён мне сказаў, што ў Мані ад Глобуса дзяцей не было... Ад Алены ў яго была Надзя, ад Ядзі — Ніна, а якія дзеці былі ад Антаніны?» — «Быў сын Мікалай. Ён старэйшы за мяне, яму недзе пад 60. Жыве ён у Копылі. Ляжыць. Спаралізавала яго. Ён хацеў быць мараком. Ездзіў у Кранштат, некалькі разоў паступаў у мараходку, але не паступіў. Жыў недзе ў Петразаводску, а потым вярнуўся...» — «А яшчэ былі дзеці?» — «Быў яшчэ сын — Іван Глобус з 1948 года. Я з ім у школе вучылася. Вы на іх, на Ваню і Колю, нечым падобны. Нешта такое ёсць. Не скажу што, але нешта ёсць...» — «Мне ў Гулевічах казалі, што ў Івана не ўсё добра?» — «Ай, у калгасе мех бульбы ці нечага там узяў... Яго судзілі. Сядзеў ён не доўга, а потым з'ехаў... Дзе ён, ніхто не ведае... Мала я вам інфармацыі дала. А прозвішча сваё — Глобус — я люблю. Каб ведала наперад, як маё жыццё складзецца, дык і засталася б на сваім прозвішчы... Вы ўжо збіраецеся сыходзіць?» — «Так... Адно пытанне ў мяне засталося... Як памёр Валодзя Глобус?» — «Ад шклянкі кісялю. Яму зрабілі аперацыю ў Мінску. Доўга рабілі. Баба Вольга нават жыла ў Мінску, пакуль Валодзя ў бальніцы ляжаў. Потым прывезлі яго ў Гулевічы. Яму захацелася кісялю. Дактары казалі, што яму нельга пасля аперацыі піць шмат вадкасці, а ён

выпіў цэлую шклянку кісялю і памёр...» — «Містычнасць ёсць у гэтай шклянцы кісялю, бо прозвішча другога мужа маёй бабы Ядзі — Кісель. Мамін айчым Бронік Кісель вельмі любіў Ядзю, а Валодзю Глобуса ўсе Кісялі страшэнна не любілі... Я пайду?» — «На Пасху мы — усе Глобусы — збіраемся ў Гулевічах, ходзім на могілкі. Вы ж бачылі, у нас там цэлы радок магіл. Можаце прыехаць. Там вам старэйшыя больш за мяне раскажуць». — «Я пайду?..» — «Заходзьце...» — «Зайду!» Навальніца сціхла, але дождж усё яшчэ сыпаўся, дробны восеньскі дождж.

# ЗМЕСТ